

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

17 МАЯ 2002г. № 19 - 20/4153 - 4154 КОШТ 295 РУБ.

## ПАД ХОЛДЫНГАВЫМ ДАХАМ

**Якім бачыцца новае вытворча-творчае аб'яднанне адзінай холдынгавай назвай "Літаратура і мастацтва"? Ці паспрыяе яно вырашэнню многіх пытанняў, што на сённяшні дзень паўсталі перад літаратурна-мастацкімі выданнямі? На гэтыя пытанні адказваюць Іван ШАМЯКІН, Янка БРЫЛЬ, Рыгор БАРАДУЛІН, Таіса БОНДАР, Генадзь ПАШКОЎ, Леанід ГАЛУБОВІЧ, Андрэй ФЕДАРЭНКА.**

**4**

## ЧАКАЮ СУРАЗМОЎНІКА

**Эсэ Алены ВАСІЛЕВІЧ**

**5, 12**

## НОВЫЯ ВЕРШЫ

**Ніла ГІЛЕВІЧА, Сяргея ПАНІЗНІКА, Янкі ЛАЙКОВА, Вікторыі БОХАН**

**8—9**

## ІНСКРЫПТЫ ЯКУБА КОЛАСА

**Да 120-годдзя з дня нараджэння**

**13—15**



*На беразе вады,*
*На беразе святла...*

### БУДЗЬМА РАЗАМ У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ 2002 ГОДА!

*Шаноўныя чытачы!*

*Вы, відаць, звярнулі ўвагу на тое, што апошнім часам "ЛіМ" стаў выходзіць здвоенымі нумарамі. Гэта ўсё не ад добрага жыцця. Цяпер ствараецца холдынг "Літаратура і мастацтва", які, магчыма, дазволіць выправіць фінансавы стан літаратурна-мастацкіх выданняў і мы, пачынаючы з 1 ліпеня 2002 года, зноў станем выходзіць рэгулярна. Каб гэта адбылося, немалаважна для нас, шаноўныя чытачы, ваша падтрымка. А гэта падтрымка не толькі "ЛіМа", а ўсёй беларускай літаратуры і культуры, без якой не будзе той Беларусі, пра якую марылі і не шкадавалі свайго жыцця лепшыя сыны нашай Бацькаўшчыны.*

*Падпіска на "ЛіМ" на другое паўгоддзе будзе цягнуцца да 20 чэрвеня. Пастарайцеся да гэтага часу схадзіць у любое паштовае аддзяленне, каб пасля не шкадаваць, што засталіся без "ЛіМа". Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1 950 рублёў, на тры — 5 850 рублёў, на паўгоддзе — 11 700 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 3 500 рублёў, на тры — 10 500 рублёў, на паўгоддзе — 21 000 рублёў.*

**Ведамасны індэкс — 63857.**



# КОЛА ДЗЁН

***Нарэшце мінулі ўсе вясновыя святы. І пачаліся працоўныя будні дні. Наперадзе лета. Якім яно будзе для нашай краіны і для кожнага з нас? Якім?***

## *СУПРАЦОЎНІЦТВА ТЫДНЯ*

З 17 мая ў Беларусі пачынаецца актыўная работа па дэмаркацыі дзяржаўнай мяжы з Літвой. На гэтую справу Еўрасаюз выдзеліў 1 мільён 155 тысяч еўра. Міжнародны тэндэр за права праводзіць дэмаркацыйныя работы выйграла беларуская арганізацыя — адкрытае акцыянернае таварыства "Мінскводбуд". Тэндэр праходзіў у Лондане. Якая гэта карпатлівая і дарагая работа — дэмаркацыя, сведчыць, напрыклад, тое, што наша краіна на працягу апошніх пяці гадоў упарадкавала адпаведным чынам усяго толькі 100 кіламетраў мяжы з Літвой. Паводле інфармацыі кіраўніка аддзялення прадстаўніцтва Еўрапейскай камісіі ў Беларусі, ЕС ужо прыняў рашэнне выдзеліць нам яшчэ 2 мільёны 200 тысяч еўра на завяршэнне дэмаркацыі беларуска-літоўскай мяжы і дэмаркацыі ўчастка мяжы з Латвіяй працягласцю 165 кіламетраў. Праводзяцца перамовы аб выдзяленні Еўрасаюзам сродкаў на абсталяванне беларуска-польскай мяжы.

## *ДАЗВОЛ ТЫДНЯ*

Генеральнае консульства Літоўскай Рэспублікі ў Гродне, на адкрыццё якога беларускія ўлады далі дазвол, пачне работу не раней чым у пачатку наступнага года. Цяпер супрацоўнікі літоўскага пасольства і консульства займаюцца пошукам памяшкання.

## *ПРАЕКТ ТЫДНЯ*

15—20 чэрвеня нашу краіну наведаюць прадстаўнікі кіраўніцтва НАТА. Візіт будзе прымеркаваны да вучэнняў службаў па надзвычайных сітуацыях, якія пройдуць у гэты час на палігоне недалёка ад Барысава. Як вядома, Беларусь з сярэдзіны 90-х гадоў удзельнічае ў праграме НАТА "Партнёрства дзеля міру". У лютым у Бруселі была прынята новая індывідуальная двухгадовая праграма, якая датычыцца ўдзелу беларускага боку ў гэтым праекце. Адным з элементаў праграмы з'яўляецца супрацоўніцтва ў галіне пераадолення надзвычайных сітуацый.

## *ЛІЧБЫ ТЫДНЯ*

Па звестках Міністэрства статыстыкі і аналізу скарачэнне колькасці жыхароў нашай краіны ў мінулым годзе адбылося за кошт вёскі. Так, калі гарадское насельніцтва Беларусі павялічылася з 7 млн. 13,6 тыс. да 7 млн. 31,1 тыс., то сельскае зменшылася з 2 млн. 976,8 тыс. да 2. млн. 919,8 тыс. чалавек. На сённяшні дзень у нас налічваецца 14 гарадоў-стотысячнікаў. У мінулым годзе гэты статус страціла Ліда, у якой цяпер жыве 99 тысяч чалавек. У Мінску налічваецца 1 мільён 713 тысяч жыхароў, у Гомелі — 492 тысячы, у Магілёве — 363 тысячы, у Віцебску — 350 тысяч, у Гродне — 310 тысяч, у Брэсце — 294 тысячы. Словам, не такія ў нас і малыя гарады. Еўропа...

## *РОСТ ТЫДНЯ*

Пастановай Мінпрацы і сацабароны зацверджаны мінімальныя спажывецкія бюджэты на душу насельніцтва ў цэнах сакавіка 2002 года ў разліку на месяц. Для сям'і з чатырох чалавек гэты паказчык складае 119 354 рублі; для мужчыны працаздольнага ўзросту — 141 776 руб.; жанчыны працаздольнага ўзросту — 142 208 руб.; маладой сям'і з адным дзіцем — 129 600 руб.; сям'і пенсіянераў — 103 321 руб.; мужчыны-пенсіянера — 115 217 руб.; жанчыны-пенсіянеркі — 113 732 руб.; студэнта — 110 274.; студэнткі — 110 310 руб.; дзяўчынкі ва ўзросце да трох гадоў — 90 935 руб.; хлопчыка ва ўзросце да трох гадоў — 90 900 руб. і г.д. Гледзячы на гэтыя лічбы і аналізуючы іх, прыходзім да цікавых думак і пытанняў... І ўсё ж мінімальны спажывецкі бюджэт аднаго члена сям'і з 4 чалавек у цэнах снежня 2001 года складаў 103 464 рублі і цяпер ён павялічыўся на 15 працэнтаў.

## *АПЫТАННЕ ТЫДНЯ*

Брытана-Амерыканскі інстытут па вывучэнні вольнага часу працоўных правёў апытанне сярод жыхароў Англіі і ЗША з мэтай выявіць, што з'яўляецца самым важным у іх жыцці. Атрымалася: 45 працэнтаў лічаць, што самае галоўнае для іх — гэта сям'я і хобі, 39 — сябры і вольны час, 29 — падарожжы, 21 — мастацтва, 18 — спорт і ўсяго 12 працэнтаў лічаць, што самае галоўнае ў іх жыцці — работа. А ў нас?

## *ДАЗВОЛ ТЫДНЯ*

У мэтах пашырэння правоў абітурыентаў у выбары навучальнай установы ў гэтым годзе ім дазволена паступаць у дзве ВНУ (па арыгіналах дакументаў, а таксама па натарыяльна завераных копіях ці ксеракопіях). Акрамя таго, прадугледжваецца таксама арганізацыя ўступных экзаменаў у два патокі. Пры гэтым залічэнне будзе праводзіцца толькі сярод асоб, якія прадставілі ў прыёмную камісію арыгіналы дакументаў аб адукацыі. На эканамічныя і юрыдычныя спецыяльнасці ў структуру ўступных экзаменаў уводзіцца і экзамен па замежнай мове. Акрамя таго, у Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка разам з пяцібальнай сістэмай ацэнкі ведаў будзе апрабоўвацца і дзесяцібальная сістэма па асобных спецыяльнасцях.

## *ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ*

У параўнанні з мінулым годам Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі мяркуе павысіць паказчык пакрыцця грамадзянамі камунальных расходаў удвая. Паводле папярэдніх разлікаў, пасля апошняга павышэння платы за ацяпленне і чарговае водазабеспячэнне з мая жыхары краіны ў летні перыяд будуць плаціць за стандартную аднапакаёўку каля 13,6 тысяч, двухпакаёўку — 20 тысяч, трохпакаёўку — 26,5 тысяч рублёў. Зімой гэтыя лічбы будуць яшчэ большыя — 25,37 і 52 тысячы рублёў адпаведна. У наступным годзе доля аплаты насельніцтвам сабекошту камунальных паслуг складзе 60, а ў 2004 годзе — 80 працэнтаў.

## *ВЕСТКА ТЫДНЯ*

Непрыемная вестка прыйшла з Польшчы. Там выяўлена хворая на шаленства карова. Што гэта азначае, думаецца, не трэба тлумачыць, бо яшчэ не выветрылася з памяці эпідэмія шаленства кароў, якая была ахапіла Англію. Паводле інфармацыі польскага тэлебачання, увесь статак, адкуль трапіла на бойню хворая карова, будзе забіты і спалены. Для выяўлення гэтай гаспадаркі спатрэбілася ажно пяць дзен, бо адпаведныя дакументы на жывёлу аказаліся фальшывымі. Праваахоўныя органы распачалі следства.

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Агульнымі намаганнямі Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, літаратурнага музея Янкі Купалы і літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, Беларускага фонду міру, а таксама іншых грамадскіх арганізацый і аб'яднанняў у Доме дружбы была наладжана творчая вечарына "Саюз паэзіі, жывапісу і музыкі", прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа, падчас якой экспанаваліся творы юных мастакоў, а таксама падводзілі вынікі міжнароднага конкурсу маладых творцаў "Мая зямля".

●

Праблемам захавання духоўнай спадчыны народа была прысвечана арганізаваная Саюзам беларускіх пісьменнікаў сустрэча з грамадскасцю і чытачамі, якую ў бібліятэцы імя Цёткі вяла паэтэса Вера Страмкоўская. Падчас шчырай размовы думкамі наконт сённяшняга стану беларускай літаратуры і культуры, сучаснага кнігавыдання абмяняліся Вольга Іпатава, Алесь Рыбак, Васіль Якавенка, Адам Мальдзіс і іншыя. Перад прысутнымі выступілі таксама архітэктары, мастакі, прадстаўнікі нацыянальных дыяспар на Беларусі.

●

На штогадовым пасяджэнні Рэспубліканскай ваенна-шэфскай камісіі, у рабоце якога ўзялі ўдзел Анатоль Сульянаў, Вольга Іпатава, Іван Курбека, прадстаўнікі Міністэрства культуры, творчых саюзаў Рэспублікі Беларусь, кіраўнікі і галоўныя рэжысёры славутых тэатральных калектываў, вядучыя артысты нашай краіны абмяркоўваліся пытанні далейшага выхавання маладога пакалення ў духу патрыятызму, падводзіліся вынікі мінулага года. За паспяховую і плённую працу старшыня ваенна-шэфскай камісіі Саюза беларускіх пісьменнікаў Яўген Каршукоў узнагароджаны памятным нагрудным знакам "За мужество и любовь к Отечеству" міжнароднага грамадскага фонду імя палкаводца Г. Жукава. У Вайсковай акадэміі Рэспублікі Беларусь была наладжана традыцыйная літаратурная сустрэча з майстрамі слова. Курсанты факультэта пагранвойск цёпла сустракалі Яўгена Каршукова, Раісу Баравікову, Браніслава Спрынчана, Уладзіміра Карызну.

**М. Р.**

●

У бібліятэцы СБП адбылося святкаванне 70-годдзя паэта Генадзя Кляўко, які напісаў пранікнёныя, лірычныя вершы пра родную зямлю. На вечарыне выступілі старшыня СБП В. Іпатава, паэты Генадзь Пашкоў і Ніна Галіноўская. Шчырымі ўспамінамі пра Г. Кляўко падзяліліся яго родныя.

●

8 мая была адкрыта мемарыяльная дошка на доме па вул. Янкі Купалы, дзе жыў пісьменнік, журналіст Іван Новікаў, чые кнігі пра Мінскае падполле, асабліва "Руіны страляюць ва ўпор", сталі яркай старонкай беларускай літаратуры.

На ўрачыстасці выступілі намеснік старшыні гарвыканкама М. Пятрушын, народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін, В. Іпатава, а таксама сын пісьменніка вядомы журналіст Р. Новікаў.

●

У СБП адбылася сустрэча пісьменнікаў з Генеральным сакратаром Інстытута планетарнага сінтэза Р. Шнайдэрам (Жэнева). Інстытут, які зарэгістраваны пры ААН, ставіць сваёй задачай аб'ядноўваць людзей незалежна ад іх веравызнанняў і палітычных поглядаў, дзеля задачы ўратавання Зямлі ад глабальных катастроф. У абмеркаванні прынялі ўдзел пісьменнікі В. Якавенка, І. Качаткова, прафесар А. Грыцкевіч, дырэктар Інстытута гуманітарных і экалагічных тэхналогій Я. Фядзюшын, навуковец М. Панчышын і інш.

Кіраўніцтва СБП і ІПС дамовіліся пра супрацоўніцтва ў галіне культуры.




# Вясна з Гомеля

Сярод багатых музычных традыцый горада над Сожам — вясновы фестываль. Сёлета ён завітаў у сталіцу. Літаральна праз суткі пасля заключнага канцэрта "Мінскай вясны" на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі выступілі са справаздачным канцэртам творчыя калектывы Гомельшчыны.

"Гомельская вясна" прынесла мінчукам свежыя і яскравыя ўражанні ад самабытнага музычна-паэтычнага, танцавальнага, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва палешукоў, ад майстэрства прафесійных выканаўцаў, што працуюць у абласной філармоніі, ад шчырай творчасці таленавітых дзяцей. Пры аншлагу прайшла маляўнічая, разнажанравая, дынамічная скампанаваная праграма.

На сцэне — лепшае з лепшага, і публіка трапляе ў палон святочнай стыхіі, ледзь паспяваючы засяроджваць увагу на "самым-самым": зычнасці паляшуцкіх спеваў, вынаходлівых танцавальных карунках, выбітнасці строяў у сюіце "Вясновы карагод"; суладнасці "залатых" інструментальных галасоў духавога аркестра Палаца культуры Беларускага металургічнага завода (кіраўнік А. Брэвус); чысціні ладу Камернага хору Гомельскай абласной філармоніі пад кіраўніцтвам А. Сакаловай; выкшталцоным вакале сапраўднай зоркі айчыннага акадэмічнага выканальніцтва Галіны Паўлянок... Рэдкасная нагода сабрала разам музычныя і танцавальныя гурты, вакальна-харэаграфічныя ансамблі "Радуніца" (мастацкі кіраўнік А. Туравец), "Надзея" (м.к. Т. Пятрэнка), "Сож" (м.к. М. Дубінін), "Гомій" (м.к. П. Свярдлоў), "Сваякі" ды "Сваячкі" (м.к. А. Зайцаў), "Апельсін плюс" (м.к. І. Ветрава). А яшчэ — квінтэт "Лірыца", дзявочую "Светліцу". І знаны канцэртна-эстрадны аркестр абласной філармоніі пад кіраўніцтвам Ю. Васілеўскага з яркімі салістамі Кацярынай Бут, Максімам Сапацьковым...

Больш як 300 удзельнікаў канцэрта прадстаўлялі ўсю Гомельшчыну: Рэчыцу і Мазыр, Жлобін, Рагачоў і Светлагорск, Навагуцкі ды Брылёўскі сельскія дамы культуры. Пры канцы вечара




ў падарунак сталіцы прагучала прэм'ера арыгінальнай песні "Мінскі марш". Апафеозам жа сталася выкананне ўжо класічнага песеннага твора І. Лучанка "Жураўлі на Палессе ляцяць". Саліраваў юны салоўка Ягор Фарашчан, падтрыманы ўсімі ўдзельнікамі праграмы.

І — замест пастскрыптума. "Гомельская вясна" ў Мінску адкрыла цыкл справаздачных канцэртаў, з якімі выступяць на галоўнай філарманічнай сцэне краіны майстры мастацтваў з усіх абласцей. Заўтра, 18-га мая, чакаецца імпрэза прадстаўнікоў Гродзеншчыны.

**С. Б.**




# Польская школа плаката

Выстава польскага плаката 1956-1965гадоў адкрылася ў Музеі сучаснага мастацтва ў Мінску. Калекцыя плакатаў прадстаўлена Музеем плаката ў Вілянове (Варшава) і сабрана па заказе Польскага інстытута ў Мінску для прэзентацыі ў Беларусі.

Варта адзначыць, што за апошнія гады некалькі разоў прэзентаваліся ў Мінску выставы польскага плаката. Яны нязменна выклікалі вялікую цікавасць гледачоў і спецыялістаў. Польскі мастацкі плакат другой паловы XX стагоддзя адбыўся ў свеце як з'ява, новы пластычны стыль і школа. Гэта новае мысленне ў графічным праектаванні, асновай якога стала экспрэсія, чысціня формы, жывасць колераў. Сцвярджэнне новага польскага плаката распачалося яшчэ ў 1948г., калі ні Міжнароднай выставе кінаплакатаў у Вене Генрых Тамашэўскі атрымаў адразу пяць залатых медалёў. Перавага сацрэалістычнай манеры не перашкаджала свабоднаму развіццю польскага плаката, нават палітычнага, польскія плакатысты вучыліся ў кубістаў, экспрэсіяністаў, сюррэалістаў, абстракцыяністаў.

Выстава "Польская школа плаката" прадстаўляе гледачу сузор'е імёнаў мастакоў, такіх як Генрых Тамашэўскі, Ян Леніца, Война Фангор, Раман Цяслевіч, Віктар Гурка, Юліан Палка і іншыя. Усе яны выдатна валодалі фактурай і колеравай плямай, спосабамі ўздзеяння на гледача эмоцыямі, гумарам, паэзіяй, іроніяй. Форма і кампазіцыя іх плакатаў здаецца няскончанай, эскізнай, але ў аснове мае дакладную прадуманасць. Развіццё плаката падштурхнула ў Польшчы развіццё і шрыфтавой графікі, дызайна. І пры гэтым плакат ствараўся не столькі як выставачны, ён жыў у гарадскім асяроддзі, фарміраваў погляды і густы людзей. А лепшыя адбіткі сёння ўжо класікаў польскага плакатнага майстэрства для нас з'яўляюцца не толькі дакументамі мінулага, але і пазачасовай школай майстэрства.

**Н.ШАРАНГОВІЧ**

# Курс на пабудову моцнай і квітнеючай Беларусі застаецца нязменным



***23 красавіка Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выступіў перад дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў і членамі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь са штогадовым Пасланнем Парламенту Рэспублікі Беларусь. Цалкам выступленне Прэзідэнта грамадзяне нашай краіны маглі пачуць у прамым эфіры па радыё і тэлебачанні, а таксама прачытаць у вядучых рэспубліканскіх газетах. Прапануем увазе нашых чытачоў адзін з раздзелаў выступлення Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб развіцці навукі, адукацыі і культуры".***

Важнейшы інструмент рашэння прыярытэтных задач, павышэння канкурэнтаздольнасці беларускай эканомікі — навука і адукацыя. Менавіта разуменнем высокай ролі навуковага патэнцыялу краіны прадыктаваны рашэнні аб рэфарміраванні Нацыянальнай акадэміі навук.

Бюджэтнае фінансаванне навуковых даследаванняў (асабліва фундаментальных навук) будзе на належным узроўні. Але і навука (перш за ўсё прыкладная) павінна пачаць па-сапраўднаму зарабляць. Рэфарміраванне сферы навукі мае ясную і простую мэту —ператварэнне яе ў прадукцыйную сілу. Новаму кіраўніцтву акадэміі навук, як прэзідэнту дадзены ўсе паўнамоцтвы і магчымасці. Рэалізуйце іх. Але патрэбен вынік.

Прыярытэтныя задачы ў галіне адукацыі — высокая якасць навучання і выхаваўчай работы, зніжэнне вучэбнай нагрузкі і ўмацаванне здароўя школьнікаў, наладжванне ў навучальных установах якаснага харчавання, абнаўленне матэрыяльна-тэхнічнай базы ўстаноў.

Вырашаюцца яны, на жаль, марудна. Час не церпіць. Краіне патрэбна больш дасканалая сістэма адукацыі. І справа не толькі ў пашырэнні платных паслуг. Патрэбны змяненні змястоўнага характару.

Урад, Міністэрства адукацыі, вобразна кажучы, павінны бачыць "фронт" работ і працаваць ініцыятыўна. Не ад добрага жыцця я на гэтым тыдні з паўторна разглядаю пытанне аб падрыхтоўцы падручнікаў гуманітарнага цыкла, разбіраюся са структурай міністэрства. І займаюся гэтым вымушана, таму што кіраўнікі, чый непасрэдны абавязак вырашаць гэтыя праблемы, іх упускаюць.

Паўтару тое, што я казаў у заключным слове на нарадзе кіраўнікоў. Больш за ўсё мяне як кіраўніка дзяржавы, чалавека ўвогуле інфармаванага, сёння хвалюе не сельская гаспадарка, не фермы і заводы, больш за ўсё мяне хвалюе (і сітуацыя вельмі напружаная) стан у нас навукі і адукацыі, асабліва вышэйшых выкладчыцкіх кадраў. І той, хто з вас быў на семінары кіруючых работнікаў, прабачце мне за гэта, убачылі жудасную "галечу" гэтых людзей. Калі яны выходзілі, гаварылі, аўдыторыя не разумела, пра што яны гавораць.

Гэта гаворыць аб тым, што яны са сваімі жоўтымі канспектамі засталіся не проста ў мінулым стагоддзі, а ў пачатку мінулага стагоддзя. Гэта гаворыць аб тым, што яны настолькі адарваны ад жыцця, што не хвалявацЬ гэта не можа. І я не мог з гэтым мірыцца. Вы мяне зразумейце. Вы б на маім месцы, любы іншы гэтак жа дзейнічалі б. Таму мне давялося прымяняць, прымаць жорсткія меры і ў навуцы, і ў адукацыі. Я не магу проста спакойна глядзець на тое, што адбываецца. Вось гавораць, усё добра, мы вось тут напісалі, мы вось тут абараніліся, шмат дактароў і дацэнтаў. А я вам скажу, што гэта мноства дактароў і дацэнтаў і адсутнасць эфекту прымусіла мяне ВАК перападпарадкаваць прэзідэнту. Таму што зрабілі нейкую кармушку. Кандыдат навук — тры тысячы долараў, доктарская дысертацыя — пяць тысяч. Не ў нас, так у Піцеры, у Маскве абаронімся.

Вось дзе яшчэ неаранае поле. Гэта вымушаныя дзеянні.

Я разумею, што часам даводзіцца дзейнічаць насуперак існуючай практыцы ў свеце. А што рабіць? Не будзе навукі, адукацыі і здаровага чалавека, усе нашы прыярытэты, усе нашы праграмы пойдуць прахам. У нас няма нафтавай і газавай прамысловасці, як у Расіі і іншых дзяржавах, дзе зямлю прасвідравалі, трубу паставілі, падключылі — і пайшоў газ. Нам мазгамі, уласнымі рукамі і працай, мазалямі, як гэта было заўсёды ў гісторыі, зарабляць на сваё жыццё. А без навукі і адукацыі мы гэтага не зробім. Такая наша доля.

Нацыянальнаму сходу Закон аб адукацыі трэба дапоўніць законамі аб вышэйшай і аб прафесійна-тэхнічнай адукацыі.

Нашаму грамадству, паважаныя таварышы, уласцівы высокая духоўнасць і клопат аб развіцці культуры. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, мы знаходзім вялікія грошы на рэканструкцыю Нацыянальнага мастацкага музея, Нацыянальнага тэатра оперы і балета, Музея Вялікай Айчыннай вайны і шэрагу іншых аб'ектаў.

З'яваЙ не толькі культурнага жыцця краіны павінна быць будаўніцтва сховішча ведаў, сабора ведаў — Нацыянальнай бібліятэкі. Па сваёй архітэктуры, уключаючы і навакольны ландшафт (мы спецыяльна захоўвалі гэты раён горада свабодным, там ужо даўно за шалёныя грошы прапаноўвалі пабудаваць жыллё), будынак Нацыянальнай бібліятэкі пры ўездзе па Маскоўскай шашы ў Мінск будзе ўпрыгожаннем нашага горада. Але галоўнае — змест. Бібліятэка будзе аснашчана самымі сучаснымі тэхналогіямі захоўвання і перадачы інфармацыі. Гэта будзе адпаведны порт, куды будуць прыходзіць караблі ведаў. Яна будзе звязана перадавымі сродкамі камунікацыі з буйнейшымі бібліятэкамі свету і, адначасова, з гарадамі і раёнамі Беларусі.

Нацыянальная бібліятэка стане сімвалам суверэннай і адукаванай Беларусі. І будаваць яе мы будзем усёй краінай. Пакуль, на жаль, мы не давялі да грамадскасці нацыянальную значнасць гэтага праекта. У гэтым годзе мы абавязкова павінны пачаць хоць бы "капаць зямлю" на месцы будаўніцтва гэтага аб'екта. Калі хочаце, імем рэвалюцыі, але павінны. І ў 2005 годзе бібліятэка павінна адкрыцца, бо загінуць тыя 78 мільёнаў кніг, якія сёння туляцца і марнеюць, калі гэта можна сказаць пра кнігі. Яны таксама жывыя.

Гаворачы аб духоўнасці, не магу не сказаць і аб будаўніцтве рэлігійных храмаў. Дзяржава аднолькава адносіцца да ўсіх канфесій, да якіх належаць яе грамадзяне. Але гэта не азначае, што мы не ўсведамляем асаблівай ролі праваслаўя для беларускага народа. У маі мы разам з Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Алексіем ІІ адкрыем Дом міласэрнасці — унікальнейшы комплекс, якому няма роўных у славянскіх дзяржавах і ўвогуле ў дзяржавах, якія вызнаюць праваслаўе.

Але я вас вельмі прасіў бы (я баюся нават гэта казаць, гэта настолькі далікатнае пытанне) вось пра што: у нас намецілася нездаровая тэндэнцыя і ў гэтай сферы, асабліва ў плане будаўніцтва. Я ўжо аб гэтым гаварыў нашым свяшчэннаслужыцелям, у мяне і размова з Патрыярхам была на гэту тэму, калі абмяркоўвалі праблемы праваслаўя ў Беларусі. Паглядзіце, колькі пачалі будаваць храмаў і колькі храмаў не дабудавана. І кожны дзень просьбы: давайце тут адкрыем храм і пачнём будаваць. Пытаюся, а грошы дзе возьмеце? Чаму я пра гэта гавару? Таму што грошы шукаюць і свяшчэннікі, і наш мітрапаліт, і многія-многія іншыя. А дзе шукаюць? "Напружваюць" прадпрымальнікаў, буйных бізнесменаў, сярэдніх, дробных, і асабліва дзяржаўныя прадпрыемствы. А хто можа сёння (тут ужо іншы крэн) у гэтай сітуацыі адмовіць? Ніхто. І вось яны ўжо мне пацыху пачынаюць гаварыць, што нешта нядобрае робіцца. І адмовіць нельга, і не багатыя ж. Паглядзіце, да чаго прывялі завод "Атлант". Калі правяралі гэта прадпрыемства, аказалася, што дзесяткі кілаграмаў сусальнага золата закуплялася, штампавалася, распрадавалася, раздавалася па ўсёй тэрыторыі былога Савецкага Саюза. Купалы, крыжы і гэтак далей. Няўжо мы такія багатыя? Нам бы хоць нашу Беларусь гэтым забяспечыць.

Вось вам канкрэтны прыклад. Таму трэба быць руплівымі і памятаць, што храмы трэба будаваць, але ў нас іх ужо столькі пабудавана, што не ва ўсіх храмах сёння, не толькі праваслаўных, але і іншых спецыялістаў хапае. Вось я каталіцкай царкве прапаную замяніць замежных свяшчэннаслужыцеляў-католікаў на беларускіх. А ў праваслаўнай царкве на спецыялістаў-свяшчэннаслужыцеляў яшчэ больш дэфіцыт.

Вельмі далікатнае пытанне. Я хачу, каб вы правільна зразумелі. Я доўга думаў, як аб гэтым сказаць. Але не сказаць зноў жа не маю права. Калі я не скажу, аб гэтым не скажа ніхто. І, напэўна, усё ж я аб гэтым павінен сказаць. Давайце будзем руплівымі і тут. Давайце будзем памятаць, што галоўны храм для чалавека — гэта яго жыллё. А добры абраз ці крыжык ён купіць і паставіць у сваім храме і памоліцца, калі ён сапраўдны вернік.

## АБСЯГІ

### ГОМЕЛЬШЧЫНА...

## Вытворчы камбінат працуе творча

Гомельскі камбінат "Мастацтва" — адна з творчых структур абласной арганізацыі Саюза мастакоў. Тут працуюць высокакваліфікаваныя майстры. За апошні час яны выканалі бюсты землякоў — народных пісьменнікаў Беларусі Івана Мележа і Андрэя Макаёнка (устаноўлены на радзіме творцаў), бюст Аляксандра Пушкіна для абласнога цэнтра. У перспектыве — работа над бюстам народнага мастака СССР Я. Маісеенкі для Буда-Кашалёва. Зараз майстры камбіната аднаўляюць Успенскі сабор у Рэчыцы. Гэтым летам сабор адзначыць 130-годдзе.

## Дыпломы з Чарнігава

У Чарнігаве прайшоў традыцыйны фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы". У ім бралі ўдзел артысты з Украіны, Расіі і Беларусі. Нашу рэспубліку прадстаўлялі Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы і Гомельскі абласны драматычны. Гамяльчане паказалі спектакль "Нёманская пастараль" паводле аповесці Э. Ажэшкі "Хам". Дыпломам за лепшую сцэнаграфію ўзнагароджаны мастак С. Кулажанка. Адзначана таксама і ігра актрысы Т. Ганчаровай.

## Усё неба Мазыршчыны

Мастаку з Мазыра Міколу Дубраве споўнілася 50 гадоў. З гэтай нагоды ў карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў адкрылася юбілейная персанальная выстава "Неба і зямля Мазыршчыны". На ёй — жывапісныя работы, створаныя мастаком за апошні год. Гэта палотны пра чарнобыльскую бяду, партрэты дзеячаў культуры роднага краю, маляўнічыя пейзажы.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

### ВІЦЕБШЧЫНА...

## Ніл Гілевіч: "Людзі павінны жыць па законах праўды"

Напрыканцы красавіка народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч правёў творчыя сустрэчы з моладдзю і інтэлігенцыяй Віцебска. Паэта цёпла віталі студэнты і выкладчыкі мясцовага універсітэта. Сам Ніл Сымонавіч прызнаўся, што студэнцкая аўдыторыя для яго вельмі дарагая, бо ён, прафесар кафедры беларускай літаратуры Дзяржуніверсітэта, сустракаўся з ёю штодня на працягу 30 гадоў. А яшчэ паэт зазначыў, што ён напалову зямляк віцьблян: ягоная жонка, Ніна Іванаўна, з якой яны вось ужо 45 гадоў разам, нарадзілася ў Сенненскім раёне.

Першы верш, які прачытаў Ніл Гілевіч, быў прысвечаны чарнобыльскай навале (сустрэча праходзіла 26 красавіка). Гучалі вершы аб радзіме і гісторыі, выдатныя пераклады са славянскіх моў. Пытанняў да паэта было шмат, а адказваў ён на іх вельмі шчыра, таму сустрэча стала своеасаблівым маналогам аб жыцці і творчасці, аб літаратуры і малодшым пакаленні. "Я вельмі рады, калі ў душах моладзі пераважае грубаваты прагматызм, але яна павінна быць шчаслівейшай за нас. Агульная слабасць усяго нашага грамадства — недастатковая нацыянальная свядомасць. Дрэнна, калі і самі пісьменнікі мала цікавяцца гісторыяй сваё літаратуры і краіны.."

## Новая кніга

Прэзентацыя кнігі віцебскага паэта Барыса Беляжэнкі "Пушкин — древо жизни — Белая Русь" прайшла ў Віцебскім універсітэце. Паэт чытаў вершы і ўрыўкі з паэм, якія ўвайшлі ў зборнік, расказваў пра пушкінскі радавод і ўзаемазалежнасць гісторыі дзвюх культур — рускай і беларускай.

**Святлана ГУК**

### ГРОДЗЕНШЧЫНА...

## Дзень польскай культуры

прайшоў у старажытнай Лідзе. У час змястоўнай імпрэзы прысутныя пачулі цікавую інфармацыю аб культурным жыцці суседняй краіны, з задавальненнем пагледзелі і паслухалі выступленні спевакоў і танцораў з мастацкіх калектываў, што працуюць пры Лідскім і Шчучынскім Дамах палякаў.

## Госці з Маладзечна

У Іўі, самым маладым горадзе Прынёмання, пабывалі на гастролях абласны драматычны тэатр з Маладзечна. На працягу двух дзён госці паказалі лірычную меладраму Аляксея Дударава "Вечар" і дзіцячы спектакль "Буслік супраць Кадука" па п'есе Георгія Марчука. У абодвух пастаноўках галоўныя ролі выконваў зямляк гледачоў — артыст Віктар Багушэвіч.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

### БРЭСТЧЫНА...

## Яшчэ адзін музей

У цытадэлі над Бугам гасцінна расчыніў дзверы мастацкі музей. У ім — 11 залаў, на шматлікіх стэндах — гісторыя стварэння і дзейнасці Брэсцкага аддзялення Саюза мастакоў, экспануецца 120 карцін майстроў жывапісу, у тым ліку і на тэму абароны Брэсцкай крэпасці. Шырока прадстаўлены і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, графіка як прафесійных, так і самадзейных твораў. Увагу прыцягваюць драўляныя скульптуры Івана Супрунчыка і Мікалая Тарасюка, вырабы майстроў саломапляцення Веры Гаўрылюк і Галіны Шацкай, кераміка Антона Такараўскага...

У хуткім часе ў 15-ым па ліку музеі на Брэстчыне будзе адкрыты рыцарскі пакой з камінам, даспехамі мінулых стагоддзяў і старасвецкай мэбляй. Менавіта ў ім будуць часцей сустракацца скульптары і мастакі, паэты і музыкі, як маладыя, так і сталыя аматары мастацтва.

**Мікола ПАНАСЮК**

### МІНШЧЫНА...

## Прарок Адраджэння

У Чэрвеньскім раённым краязнаўчым музеі адкрылася выстава, прысвечаная 120-годдзю Янкі Купалы. Яна зладжана Дзяржаўным літаратурным музеем і называецца "Янка Купала — Прарок адраджэння", бо паказвае песняра як паэта-грамадзяніна, публіцыста, грамадскага дзеяча... Да старажытнай Ігуменскай зямлі Купала мае непасрэднае дачыненне, бо ў 1846 годзе тут, у засценку Пяскі (цяпер Уздзенскі раён), нарадзіўся бацька паэта Дамінік Ануфрыевіч Луцэвіч.

**А. ЗАБАРОНАК**



ЧАСАПІС

## "Шчаслівая ў далячынь ляцець"

**У лістападзе 2001 года пры Смалявіцкім раённым аддзеле адукацыі пасля невялікага перапынку аднавіла сваю работу літаратурнае аб'яднанне "Узлёт", у якое ўваходзяць школьнікі,што пішуць вершы і апавяданні. А для таго, каб з пачаткоўцаў выраслі сапраўдныя мастакі слова, я лічу, патрэбен не толькі талент, але падтрымка і дапамога старэйшых творцаў. Таму сустрэча з аўтарамі любімых кніг, вядомымі пісьменнікамі заўсёды жаданая і чаканая. І вось у госці да маіх узлётаўцаў прыехалі госці: вядомыя паэты Алесь Пісьмянкоў, Віктар Шніп, Уладзімір Марук і бард (ён жа гісторык, археолаг, даследчык) Пётр Русаў.**

**Сваё пасяджэнне, якое праходзіла 26 красавіка, мы прысвяцілі гадавіне чарнобыльскай трагедыі. Сустрэча, а гэта была літаратурная гасцёўня, праходзіла на базе сярэдняй школы № 2 г. Смалявічы. Хочацца падзякаваць намесніку дырэктара школы Аліне Кузняцовай і асабліва настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Галіне Графутцы, вялікаму энтузіясту, цудоўнаму педагогу, улюбёнаму ў свой прадмет, за вялікую дапамогу ў арганізацыі і правядзенні гасцёўні. "Звон жалобны над краем: Чарнобыль..." — так называлася пасяджэнне.**

**У час сустрэчы ішла зацікаўленая гутарка, панаваў добры, цёплы мікраклімат, узаемны давер, творчая атмасфера. Вучні лавілі кожнае слова, стараліся ўсвядоміць заканамернасці творчага почырку літаратараў, звярталі ўвагу на характэрныя асаблівасці іх мастацкай індывідуальнасці. Пачаткоўцам было цікава даведацца, як прыйшлі ў літаратуру іх старэйшыя сябры.**

**Пачынаючыя паэты і празаікі трымалі своеасаблівы экзамен перад гасцямі: яны чыталі свае творы. Вядома, хваляваліся, бо гэта было іх першае публічнае выступленне, ды яшчэ перад вядомымі паэтамі.**

**Усім, хто любіць паэзію, літаратуру, спрабуе пісаць, вельмі патрэбны такія сустрэчы. Мне хочацца падзякаваць супрацоўнікам "ЛіМа" за тое, што яны адгукнуліся на маю просьбу і парадавалі ўзлётаўцаў сваёй прысутнасцю на нашым пасяджэнні.**

**А юным літаратарам хочацца пажадаць, кажучы словамі беларускага класіка, "шчасліва ў далячынь ляцець".**

**Вольга ВАЛАСЮК,**
**метадыст раённага аддзела адукацыі, кіраўнік літаб'яднання "Узлёт"**

## Гумарыстычны "марафон"

**"Жыць стала лепш, жыць стала весялей?" Што тычыцца першай часткі вядомага выказвання, то — як для каго. А вось каб жылося весялей, адпаведныя "спецыялісты" прыкладаюць усе намаганні, каб людзі больш усміхаліся. Асабліва вясной, калі не хапае вітамінаў, а смех іх добра дапаўняе. Ці не таму супрацоўнікі і аўтарскі актыў часопіса "Вожык" наладзілі своеасаблівы гумарыстычны марафон? З 1-га красавіка — Дня гумару — і да майскіх святаў яны правялі каля дзесяці сустрэч у бібліятэках і навучальных установах Мінска і вобласці. На фінішы "марафону" галоўны рэдактар часопіса "Вожык" Міхась Пазнякоў і член рэдкалегіі Павел Саковіч пабывалі ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы г. Барысава. Яны расказалі ўдзельнікам сустрэчы пра часопіс, чыталі свае творы, адказалі на шматлікія пытанні.**

**Дваццаць пятага красавіка М. Пазнякоў і П. Саковіч былі запрошаны на тэматычную літаратурна-музычную гасцёўню "Адгукніся, душа" ў БДУ культуры. Яе арганізатары — работнікі універсітэцкай бібліятэкі — наладзілі своеасаблівы творчы конкурс паміж удзельнікамі гэтага неардынарнага мерапрыемства. Спачатку "ўзбаламуціў" публіку універсітэцкі фальклорны гурт "Баламуты" пад кіраўніцтвам Валянціны Трамбіцкай. На высокім гумарыстычным узроўні прайшлі выступленні і гасцей-літаратараў, якія прадставілі вясёламу суду гледачоў свае эпіграмы, пароды, жарты.**

**Затым старшы выкладчык кафедры рэжысуры святаў Ларыса Іўліева чытала вершы, у тым ліку свае, што друкаваліся ў "Вожыку". А напрыканцы вечарыны Наталля Іўчанка, кампазітар, старшы выкладчык кафедры тэорыі музыкі прысела за піяніна, якое зусім невыпадкова апынулася ў бібліятэцы, і выканала свае песні, рамансы, большасць з якіх — на словы вядомага паэта Івана Карэнды.**

**На развітанне пісьменнікі атрымалі невялічкія керамічныя сувеніры, зробленыя рукамі студэнтаў і, у сваю чаргу, падарылі бібліятэцы падшыўку часопіса "Вожык".**

**С. КІРЫЛАЎ**

НАДЗЁННАЕ

# Пад холдынгавым дахам

***Часопісы "Полымя", "Крыніца", "Маладосць", "Нёман", "Всемирная литература" і газета "Літаратура і мастацтва" аб'ядноўваюцца ў холдынг. У недалёкай перспектыве ўзгаданыя выданні займеюць адзіную матэрыяльна-тэхнічную базу. Па словах генеральнага дырэктара новаўтварэння Сяргея Касцяна (намеснікамі яго, як вядома, сталі Яўген Новікаў і Таіса Бондар), такія захады робяцца для ўмацавання выдання беларускай літаратуры.***

***Якім будзе новы вытворча-творчы саюз пад адзінай холдынгавай назвай "Літаратура і мастацтва"? Ці паспрые ён канструктыўнаму вырашэнню такіх балючых на беларускай прасторы пытанняў як галоснасць, папулярызацыя роднага слова, доўгачаканае спалучэнне інтарэсаў дзяржаўных і нацыянальных? Натуральна, вырашэнне гэтых праблемаў хвалюе не толькі газетна-часопісных супрацоўнікаў. Па каментары мы звярнуліся да пісьменнікаў...***

**Іван ШАМЯКІН:**

— Думаю, нічога кепскага тут не здарыцца.Але пры адной умове: калі генеральны дырэктар з намеснікамі будуць займацца матэрыяльна-фінансавымі пытаннямі літаратурнага аб'яднання, возьмуцца за папулярызацыю перыядычных выданняў, павелічэнне іх накладаў, а выбар публікуемых мастацка-публіцыстычных твораў будзе залежаць толькі ад волі галоўных рэдактараў і творчых калектываў.

**Янка БРЫЛЬ:**

— Я абураны тым, што адбываецца зараз вакол беларускіх часопісаў. Такая кадравая палітыка толькі нанясе шкоду, і выданням, і літаратуры.

**Генадзь ПАШКОЎ:**

— Апошнімі днямі ўважліва чытаю ўсе газетныя публікацыі, звязаныя з холдынгам. Надта здзіўляе аргумент тых, хто катэгарычна не прымае новай формы літаратурных выданняў: маўляў, чакаецца імгненны паварот да славянскага накірунку. Не трэба палохаць славян славянскімі матывамі! Так што не бачу ў сённяшняй сітуацыі нічога істотнага, з-за чаго варта было б кідацца ў роспач.Ва ўсе часы галоўныя рэдактары не заседжваліся на сваіх пасадах дзесяцігоддзямі, заўжды адбывалася ратацыя. У Саюзе пісьменнікаў больш за паўтысячы літаратараў. Хіба ж не хапае падрыхтаваных людзей? Так, звольненым рэдактарам крыўдна, але ж гэта жыццё. На змену ім прыйшлі не менш таленавітыя і здольныя людзі. Працэс ад гэтага нічога не згубіць.Наадварот, новыя кадры бяруцца за справу з новымі ідэямі. А што трэба многае мяняць —неаспрэчна. Маю на ўвазе не мастацкія творы (горш ці лепш іх валявым рашэннем не зробіш), а публіцыстычныя матэрыялы. Неабходна ўзнімаць на ўзроўні з часам больш надзённыя праблемы, каб не было выданне трыбунай толькі для вузкага кола людзей.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ:**

— Гэта павінна было адбыцца. Здзіўляюся толькі, чаму так запознена?! Ацэньваю сённяшнія падзеі так: улада апынулася паміж молатам і кавадлам, паміж Захадам і Расіяй, апынулася — і дацяміла ўрэшце, што саюзная дзяржава можа цалкам і беззваротна паглынуць Беларусь. Таму нашай бюракратыі тэрмінова спатрэбілася суверэнная нацыянальная ідэя, але не выпакутаваная свядомымі добраахвотнікамі-адраджэнцамі, а створаная рукамі набліжаных да ўлады людзей. А яны, мякка кажучы, не маюць ніякіх кампрамісных прапаноў, а значыць, разбураць — разбураць, але невядома што пабудуюць... Часопіс "Крыніца", які неймавернымі высілкамі галоўнага рэдактара Алы Канапелькі ўзняўся на ногі, зараз змушаны сысці ў "тыл" беларускага нацыянальнага адраджэння.

**Таіса БОНДАР:**

— Як стаўлюся да новага ўтварэння — Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва"? Як да неабходнага ў сённяшніх абставінах кроку. Неабходнага, у першую чаргу, для нас, пісьменнікаў, колькі б хто, заплюшчыўшыся на ўсё, што адбываецца ў свеце (і ў свеце літаратуры ў тым ліку), ні даводзіў адваротнае.

Рынак, рынкавая плынь сусветнай эканомікі, у якую ўцягваецца (дзякуй Богу, няспешна і свядома) і Беларусь, бяспечныя толькі для тых, хто ўжо навучыўся "плаваць", навучыўся выкарыстоўваць на сваю карысць яе рух і законы. Вядома ж, даўшы нырца ў вірлівую плынь, можна і не вынырнуць, не выбрацца на бераг. Асабліва не падрыхтаванаму — ні фізічна, ні псіхалагічна. А мы, давайце шчыра прызнаемся, не падрыхтаваныя: якое нацыянальнае выдавецтва, якое беларускае выданне выжыве сёння без падтрымкі дзяржавы, без дзяржаўнага фінансавання? На нумар-другі грошай яшчэ ў каго са спонсараў выпрасіш ( ды і тое пад іх умовы), а клопат пра выданне ніхто на сябе не возьме. Гэта ж не газеткі і рознага кшталту ўлёткі, якія аплачваюцца з фондаў замежных спецслужбаў з пэўнай мэтаю: усталяваць у Беларусі свой марыянетачны рэжым, гэта — літаратура, збіральніца духу народнага, якую — ва ўсім яе аб'ёме — не так проста (немагчыма, калі ўзгадаць гісторыю) пераўтварыць у служку чыйгосьці капіталу! Вось і асцярожнічаюць магчымыя "фундатары" — па адным апрацоўваючы вызначаных, выбраных на ролі "нацыянальных геніяў" літаратараў, аплачваючы іх камандзіроўкі, гранты і замежныя прэміі, каб потым з іх "галасоў" чуў свет абвінавачванні беларускаму народу і яго лідэру, каб потым ад іх імя абражаліся ўсе, каго нельга купіць ці запалохаць.

Ні для каго сёння гэта не сакрэт, і лямант, які ўсчаўся пасля рашэння аб стварэнні цэнтра літаратурных выданняў і змены некалькіх галоўных рэдактараў, сведчыць адно за тое, што сёй-той усур'ёз прыпісаў сябе да "касты неприкасаемых", незаменных і ў літаратуры, і ў часопісна-выдавецкай палітыцы. Ніхто ж ніводнага разу ў часе палемікі нават не ўзгадаў, што ні ў адной з рэспублік на постсавецкай прасторы не існуе на сённяшні дзень ніводнага літаратурнага выдання, фінансуемага дзяржаваю. Ніводнага! У Беларусі ж, па рашэнні беларускага ўрада, беларускага Прэзідэнта, усе гэтыя гады фінансавалася выданне ўсіх часопісаў і кніг. Не ў той ступені, што раней, але фінансавалася. І цяпер, уступаючы ў рынкавыя адносіны з іншымі краінамі, дзяржава не кідае літаратуру ў стыхію рынку. Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва" і ствараецца, каб выданні выжылі, каб творчыя калектывы вучыліся і навучыліся працаваць у новых, рынкавых, умовах. І не лямантаваць, а працаваць трэба, выказваючы не толькі сваю занепакоенасць сітуацыяй, якая склалася, але і хоць якую ўдзячнасць.

"Дзяржава абавязана нас фінансаваць!"— крычаць асобныя. Але дзе, якая ў свеце дзяржава фінансуе чыюсьці пыху і няўдзячнасць? Калі і хто з дзяржаўных дзеячаў займаўся бясконцымі пісьменніцкімі звадамі і разборкамі? Адкуль у пісьменніцкім асяроддзі з'явілася ўстаноўка: сапраўдны пісьменнік заўсёды ў апазіцыі да ўлады? Азірніцеся — і ўбачыце, што пісьменніцкая апазіцыя ўладзе даўно ператварылася ў апазіцыю свайму народу. А гэта сапраўднаму пісьменніку недаравальна.

Мажліва, літаратурныя выданні, спакойна, годна скарыстаўшы дадзены шанц, пры дзяржаўнай падтрымцы прызвычаўшыся да рынкавых умоваў, не пазбавяцца ўсіх сваіх праблем, але на сёння — гэта адзіны шанц выжыць. І чым раней мы гэта зразумеем, тым лепей.

**Рыгор БАРАДУЛІН:**

— Гаворка вядзецца пра практычнае знішчэнне беларускамоўных выданняў. Неаспрэчна тое, што знізіцца падпіска, бо часопісы ўжо зараз губляюць свой твар. З гэтага натуральна вынікае, што холдынг праз пэўны час будзе выдаваць які-небудзь "Северо-Западный край" і прымусова яго распаўсюджваць...

**Андрэй ФЕДАРЭНКА:**

— Перамены патрэбны былі адназначна, але алах керым! — навошта так з пляча, так рэвалюцыйна, так непрадумана; не ведаю... тым не менш я аптыміст і прымушаю сябе верыць, што ўсё да лепшага.

ВЫСТАВЫ

# Тарас Шаўчэнка — мастак

Пастановай Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі 2002 год аб'яўлены годам Тараса Шаўчэнкі ў Беларусі. 22—23 красавіка ў Мінску прайшлі дні культуры Кіева. У рамках гэтай праграмы адбылося адкрыццё помніка Тарасу Шаўчэнку (побач з украінскім пасольствам). Не менш значнай падзеяй стала выстаўка "Тарас Шаўчэнка — мастак", адкрыццё якой адбылося 23 красавіка ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. На адкрыцці прысутнічалі Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Анатоль Дронь, міністр культуры Рэспублікі Беларусь Леанід Гуляка, генеральны дырэктар Нацыянальнага музея Т. Р. Шаўчэнкі ў Кіеве Сяргей Гальчанка, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзімір Пракапцоў, дырэктар літаратурнага музея Я. Купалы Жанна Дапкюнас, начальнік Галоўнага ўпраўлення культуры і мастацтваў у Кіеве, народны артыст Украіны Аляксандр Быструшкін, мінчане і госці сталіцы. Шчыра і сардэчна гучалі словы пра вялікага Кабзара, шмат цёплых слоў было сказана ў адрас гасцей-кіяўлян. У вестыбюлі музея гучалі нацыянальныя песні ў выкананні ўкраінскага фальклорнага ансамбля "Берагіня". І, як кожнае свята, — не абышлося без падарункаў. Літаратурны музей Я. Купалы атрымаў у падарунак ад Нацыянальнага музея Т. Шаўчэнкі рукапіс верша, прысвечнага Тарасу Шаўчэнку, які быў вельм прыемнай нечаканасцю — такія матэрыялы не паступалі ў музей ужо болей як 20 гадоў, і ў сваю чаргу таксама зрабіў кіяўлянам падарунак — альбом афортаў Янкі Раманоўскага, пляменніка Я. Купалы і сувенірнае выданне паэмы Купалы "Тарасова доля". Нацыянальнаму мастацкаму музею пашчасціла атрымаць у падарунак ад калег з Кіева факсімільны альбом Тараса Шаўчэнкі 1845 г. з графічнымі творамі і афорты "Жывапісная Украіна".

На выстаўцы быў прадстаўлены 51 твор Тараса Шаўчэнкі. Над стварэннем гэтай экспазіцыі працавалі загадчык аддзела выставак Нацыянальнага музея Шаўчэнкі Таццяна Чуйко і вядучы навуковы супрацоўнік гэтага ж аддзела Людміла Давідоўская.

Тарас Шаўчэнка пісаў партрэты, пейзажы, кампазіцыі на біблейскія, гістарычныя і бытавыя сюжэты, працаваў у розных тэхніках: алей, акварэль, сепія, аловак. У апошнія гады жыцця Шаўчэнка ўдасканаліў сваё майстэрства ў афорце, за што атрымаў званне акадэміка гравюры Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў (1860).

У экспазіцыі змешчаны арыгінальныя творы Тараса Шаўчэнкі, якія ахопліваюць розныя этапы жыцця мастака — ад першых мастацкіх спроб, зробленых яшчэ да пачатку вучобы ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, да работ, выкананых напярэдадні ссылкі; творы гадоў ссылкі; творы апошняга перыяду жыцця мастака.

У ссылцы, нягледзячы на цяжкі стан душы, Тарас Шаўчэнка змог заўважыць і адлюстраваць у сваіх пейзажах незвычайную прыгажосць чужога, незнаёмага яму краю. Там ён стварыў больш за трыста твораў.

Росквіт партрэтнага таленту Тараса Шаўчэнкі, прыгажосць і выразнасць малюнка алоўкам дэманструе партрэт Міхаіла Шчэпкіна, зроблены ўжо пасля вяртання са ссылкі (1858).

У перыяд 1858—1959 гадоў Шаўчэнка шмат праце ў тэхніцы афорта і акватынты. Ён значна ўзбагаціў традыцыйныя тэхнічныя сродкі афорта, што паўплывала на далейшае развіццё гэтага віда мастацтва на Украіне і ў Расіі — гравюра "Прытча пра работнікаў на вінаградніку", зробленая з жывапіснага палатна Рэмбрандта і афорт "Старац на могілках".

Мастацкая спадчына Тараса Шаўчэнкі — гэта не толькі дапаўненне яго паэтычнага таленту. Гэта цэласная і самастойная галіна шматграннай творчасці Шаўчэнкі, якая займае значнае месца ў гісторыі ўкраінскага выяўленчага мастацтва.

Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь гасцінна запрашае ўсіх жадаючых наведаць выстаўку "Тарас Шаўчэнка — мастак", якая будзе экспанавацца да 22 мая бягучага года, кожны дзень, акрамя аўторка, з 11.00 да 19.00.

**С. ШУКАН,**
**загадчык рэдакцыйна-выдавецкага аддзела НММ Рэспублікі Беларусь**

# Чакаю суразмоўніка

ЗАМЕСТ ЮБІЛЕЙНАГА

Алена ВАСІЛЕВІЧ



...Калі надыходзіць ноч і не прыходзіць сон. Калі на грудзі каменем навальваецца ўсё, што знесла душа твая за бясконца доўгае жыццё — тады пачынаеш...

Бачу — і самой мне хочацца засмяяцца — як кісла крывіцца адданы лімаўскі чытач:

— Ну вось — зараз зноў пачнуцца ўспаміны гэтых старых! Якія яны былі некалі. Якое некалі было ў іх...

Не бойцеся! Не бойцеся: я сама не люблю ўспамінаць уласныя у с п а м і н ы (даруйце мне гэтую наўмысную маю таўталогію).

У бязладдзі душы, калі яна не здольная, здаецца, азвацца ўжо ніводным жывым гукам, я... "Не сілю сябе пісаць, калі не пішацца. Сілю жыць, калі жыць не хочацца".

Божа мой, ды гэта ж пра мяне самую напісана! Такое было пачуванне, калі трапілі мне на вочы радкі (не вершаваныя) у паэта Алеся Каско. А потым стрэла іх у рэцэнзіі, дакладней, не рэцэнзіі, а нават у в ы с о к і м  с л о в е другога паэта Леаніда Галубовіча "Скразная лінія паэта" (не лепшая, па-мойму, назва ў загалоўку).

Паэтам пра сваіх сабратоў-паэтаў, мусіць, цяжэй пісаць п а х в а л ь н а е слова, чым крытыкам. Крытыку — што? "То вознесет тебя высоко, то в бездну бросит без стыда"... А паэту? Паэт, як жанчына... Яшчэ амаль два стагоддзі таму несмяротны Гогаль сцвярджаў: "Жанчыне лягчэй з чортам пацалавацца, чым назваць прыгожай другую жанчыну"... Ці не падобнае ж адчуванне нярэдка спасцігае і паэт? (Вы будзеце пярэчыць, паэты?)

(Дарэчы, ці не замнога "паэтаў" на такой міні-плошчы?)

Але Галубовічу што? Галубовіч выдаў сабе новую кнігу, паклаў яе на стол чытачу і прыўсенародна абвясціў: "апошнія вершы леаніда галубовіча". І чытачу — думай, што хочаш. Праўда гэта ці няпраўда? І як нам, чытачам, быць з ім: шкадаваць, што н а  а д н а г о  п а э т а ў нас паменшала (а ў дзверы амаль ужо нежывога Саюза пісьменнікаў вунь колькі грукаецца н о в ы х — усе хочуць у п а э т ы!), ці, наадварот, з кожнай новай празаічнай яго публікацыяй захоплена цешыцца: якое адметнае, важкае слова выспела і перасеялася з паэзіі ў прозу! Праўда і тое, што спелілася яно пры нястомнай адборнай селекцыі. І не на адным толькі сталічным вымарачаным асфальце. Яго ж скрозь жывілі і наталялі няспынныя жыццядайныя сокі правінцыі і яе глыбінкі. Ды і, хоць і даўнаватыя ўжо, гады навучання ў Маскве, на Вышэйшых літаратурных курсах — гэта што, дробязь, гэта неістотна?.. Паэту-празаіку Леаніду Галубовічу таму і няцяжка, а, наадварот, можа, нават, у ахвоту адгукнуцца на прыкметнае з'яўленне на беларускім літаратурным небасхіле — не мае значэння, адкуль падало яно голас: з Брэста, з Баранавіч, з Капыля ці з Паставаў...

Вось вам і "жаночае" адчуванне. У паэтаў.

А дарэчы — у паэтак?

Ну, што ж тут рабіць з іх нейкае нелагічнае выключэнне? Бог не абдзяліў іх таксама гэтай парнаскай прывілеяй. Кожнай самой крыляць у паднебных вышынях і зусім не захапляцца, не тое каб спрыяць надта, сяброўчым памкненням узняцца вышэй.

Паэткі... Мне асабіста, праўда, у гэтым вызначэнні і бачыцца і чуецца нешта як бы знарок прызменшанае (ці так гучаць п а э т ы!). Як, дарэчы, і ў "жаночай прозе"... Аднак зусім не збіраюся рваць на сабе валасы і кідацца ў бойку. Ёсць, ёсць, існуюць яны — і "жаночая проза", і "паэткі". Існуюць.

...І тут мяне зноў ужо і добра весяліць чытач-скептык (чуеце яго інтанацыю?).

— Ну, а ў цябе самое, хоць, якая проза?

Запыт непрыхаваны. Адкрытым тэкстам. Гэтакі ж мусіць быць і адказ.

— Чорт яе ведае!.. Іншым разам напішаш, і самой здаецца, як быццам і нічога. Як быццам і не занудней, чым У... Не горш ЗА... Але часцей за ўсё — прачытаеш, як напісалася, і вочы не бачылі б!

А чытач-лімавец — яго не спыніш — мне зноў:

— Дык навошта пішаш?

— Пішу... Усе пішуць!

І тут мы абое — і мой скептычны чытач (усё ж паблажлівы), і сама я, добра ўсё разумеючы, смяёмся ўжо разам.

— І хутчэй друкаваць?!

— ???

— "Силен бес", — нагадвае мне мой уласны, не такі ўжо даўні (таксама ў "ЛіМе") "аргумент" памятлівы чытач.

Шляхі боскія нязведаныя, непрадказальныя... Ці сасніў бы калі — у самым неверагодным сне — валадар модных літаратурных густаў на самым пачатку яшчэ мінулага стагоддзя, што, можа, знарок эпатажны выгук на старонцы яго кнігі, нават у самой назве апавядання, не згубіцца ў неабсяжнай часавай прасторы і гэтак дзіўна абзавецца і прагучыць у новым тысячагоддзі? І дзе? У... Северозападном крае!.. Думаю, што яму, мастаку пісьменніку амбітнаму, было б гэта ўсё ж памысна. Ён, напэўна, самазадаволена ўсклікнуў бы: "Леанид Андреев — на все времена!"

•

Працягваю руку, дастаю са свае "узгалоўнае" тумбачкі чытанне — на ноч — апошняе, новае. "Крыніца" (№ 2 — 2002) — не ўжыву трывіяльнага "крышталнага звону" — пачынаецца з магутнага напору-гамонкі в ы с а к а л о б ы х.

Інтэлектуалаў. Палемістаў. Філосафаў.

Не выпадковых н е к і х заезджых "навучальнікаў" я к  ж ы ц ь  н а м  н а  р о д н а й — ім самім чужой — зямлі. Сваіх. Гадаваных і мужнелых на беларускай глебе.

Уладзімір Арлоў. Як малады яшчэ Зеўс — у самай сіле і ў неабсяжным ужо розгаласе славы — на прыступках да вяршыні літаратурнага Алімпа вядзе дыялог з Юрыем Станкевічам. Пра Сябе і пра Час. Пра Час і пра Сябе.

Хто ведае, хто ведае... Можа, Час яго яшчэ наперадзе? І гэтая вяршыня стане падуладная яму?.. Сёння на ёй — вельмі ж хістка, ненадзейна і няўтульна.

Следам за Зеўсам, як і належыць, світа, ці, калі хочаце, карагод таксама мудранебных. Нарэшце, і яны дамагліся сабе адпаведнага месца. Не ў "падвёрстцы", як было яшчэ нядаўна (у рэдакцыйнай практыцы), быццам і не ўладары думак яны, а нейкія "падтанцоўшчыкі" з эстрадных сённяшніх шоу — "пад нагамі" ў "зорак". Зараз у с е  н а  с в а і х месцах! І ў кожнага с в а я  ў л а д а. (І над "грамавержцам" таксама...)

У іх гэтак жа ёсць і свая, так бы мовіць, "акадэмія". (Няхай не Платонава, не Афінская, дзе Ісціна здабывалася ў высокіх гутарках і спрэчках Настаўнікаў і Вучняў — пад антычным небам і сонцам, у непараўнальных Садах думак і спасціжэнняў.) У сціплай жэкаўскай трохпакаёўцы самыя абраныя з іх сустракаюцца часам і ў макроцце і ў халадэчу (колькі таго сонца на Беларусі...) і, захінутыя кожны ў свой адметны хітон, з задавальненнем п'юць, хоць і не перасаладжаную, затое заўсёды гарачую гарбату, падоўгу м ы с л я ц ь, спрачаюцца — зноў жа — пра Час і пра Сябе, адмаўляючы, па-філасофску, адзін аднаго, а стаміўшыся спрачацца і адмаўляць і, часам, канчаткова заблытаўшы Арыядніну нітку да выйсця са сваіх філіпік, вяртаюцца, нарэшце, да згоды, да памяркоўнага, як тут лепш і найсучасней сказаць, кансенсусу мудрых. І задаволеныя (ці наадварот) развітваюцца да наступнага спаткання. Абраннікаў.

Схіляю заўсёды галаву перад Розумамі і Талентамі.

•

Пачытаю прозу. Мікола Купрэеў у "Крыніцы" — сталы, даўно ўжо с в о й аўтар. З тых часоў, калі амаль зусім забыты ўсімі і ўжо зусім амаль мала каму вядомы, упершыню, быццам сапраўды акраплёны свянцонай крынічнай вадой, удзячна пачаў шчыраваць на яе беразе. І колькі трапяткой, пранізлівай прозы змясціў ён на "крынічных" старонках! Не збіраюся рабіць ні агляду, ні разгляду творчасці Купрэева. Яго нават на Дзяржаўную прэмію вылучалі! — ды больш спрытныя перахапілі яе... Сёння ў мяне чамусьці, асабліва на эмацыянальнай маёй памяці, "Прагулкі з Паэтам па вуліцы Карла Маркса". Хто не чытаў — нагадаю: Паэт — гэта беспрытульны, як і сам апавядальнік, бяскрыўдны і адданы яму шчанючок. І гэта роднасць і глыбіня шкадавання — яны робяцца шчаслівейшым сэнсам існавання чалавека. І як трагічна абрываецца гэты сэнс, калі мілага, ласкавага Паэта жорстка губіць другая рука, другой істоты, таксама званай чалавекам...

Не, "Пастуха ў космасе" Міколы Купрэева з "Крыніцы" сёння я пакіну на іншы вечар.

•

Адгарну вершы — звычайна з іх пачынаю чытанне. Што ж — вершы як вершы. Як амаль зараз скрозь — амаль цераз паэта — гараванне і стогны ПА мове (быццам дзейнасць і справы менш надзённыя і істотныя сёння). Яны ўжо, шчыра кажучы, і стамілі, і не робяць балюча... А здараецца, "вялікія плачы" сваім прымітыўным "патрыятызмам" і безгустоўшчынай проста абураюць!

*Што можа быць за мову даражэй,*
*А гэтыя бы на другой планеце.*
*Ім ёю авалодаць шмат цяжэй,*
*Чым сакратаркаю — у кабінеце.*

Думаю, каментар не патрабуецца?

*Нас выдушаць усіх па аднаму,*
*Прыбіліся яны да ўлады лоўка,*
*І ведаць ім "Ну, проста ни к чему",*
*Што ёсць у нас патэльня і рыдлёўка.*

Не хапае ў гэтым "патрыятычным" гараванні яшчэ качаргі, чапялы ды згрэбача з матыкаю, ды яшчэ ж і курыныя седалы ў нас не звяліся!.. Толькі ўсяго ў нас і ёсць?! Толькі і маем гонару?.. А г а л о ў, а р о з у м а ў, а т а л е н т а ў — у нас няма?! І, можа, даволі ўжо нам захапляцца гэтым нашым "залатым фондам" з рыдлёвак і патэльняў? (Мы ж на кожным кроку далдонім: "мы — эўрапейцы!")

Паглядзіце, аднак, і паслухайце, х т о ўсчыняе галашэнне. І ці гэтак ужо баліць яму яго вершаваныя "рыдлёўкі" і "патэльні"?

*...Бель зімы.*
*Дарагі легкавік*
*Несцярпіма-чырвонага колеру...*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Скінем вопратку, цела ахопіць мароз*
*(Вось бы зараз па кубачку кавы!)...*
*Басанож мы ідзём напрасткі да вады,*
*Нібы ў сне альбо ў дзіўнай імпрэзе.*
*І ляжаць, быццам пацеркі, нашы сляды*
*На світальна няспляжаным снезе.*
*Вольхі ў рэчку глядзяцца і ссохлы палын —*
*Як улетку мы тут балявалі!*

(Уяўляеце, колькі пустых бутэлек і бляшанак, колькі бруду пасля таго "балявання" засталося ў тым палыне (?), пад вольхамі (?).)

*...І абгортвае цела сцюдзёная плынь,*
*Б'юцца ў грудзі халодныя хвалі.*
*А табе — хоць бы што —*
*ты гарыш галышом,*
*Аплываеш вадою, як свечка.*
*І такая вада, быццам срэбным крыжом*
*Асвяціў і гэтую рэчку.*

**("Вадохрышча")**

Чым не "прыгожае" жыццё?..

Не будзем бедаваць па гэтых с ё н н я ш н і х, на "Дарагіх легкавіках несцярпіма-чырвонага колеру", што "галышом", "як свечкі"... Гэтыя, думаю, не прападуць.

Але ж мы не вычарпалі яшчэ наша паэтычнае натхненне, не вычарпалі да дна рэлігійны экстаз... "Вадохрышча" толькі што адбылі. А яму папярэднічала "Хрыстова Раство"...

*"Ну, адумайся, хлопча,*
*даўчасна згарыш"...*
*Я закіну ўсе тлумныя справы,*
*Бо дзяўчынка мая адлятае ў Парыж*
*Праз Варшаву...*

("У Парыж — праз Варшаву"... Вось так яны сёння — лёгенька — "лётаюць", гэтыя "дзяўчынкі"... Амаль як у Асіповічы праз Пухавічы... электрычкай.)

*І душа мая болей ужо не пяе,*
*Па каханай сумуе і плача*
*Тыдняў з пяць, нават болей не будзе Яе.*
*Не пачую, не стрэну, не ўбачу...*
*Так мне хочацца кінуць маё рамяство*
(Можа, і варта было б?..)
*І пазбыцца сяброў і суседзяў.*
*Тыдняў пяць... І настане*
*Хрыстова Раство —*
*І тады ты прыедзеш.*

Але і гэта яшчэ не ўсё. Абавязкова будзе яшчэ і Вялікдзень, і царкоўныя званы з іконамі... І ўсё ў аднаго паэта!

Усё сапраўды "Гэтак, як ёсць":

*Вып'еш проста з бутэлькі віно,*
*Да парога правёўшы знаёмых,*
*І завесіш, нарэшце, акно.*
*Сёння — дома!*
*Сёння будуць шчаслівыя сны,*
*Бы ў Вялікдзень вялікія звоны.*
*А пакуль з адчуваннем віны*
*Адстаўляеш фатэль да сцяны,*
*Каб дайсці да іконы.*

**(Аляксей Белы)**

Ойча наш, усёцярплівы і ўсёдаравальны, ці маеш ты патрэбу ў такім набажэнстве? І як ты трываеш яго ў гэтым рыфмаваным убостве?!

•

...Дачытаю Аксану Забужку (пачынала ў 1-м нумары "Крыніцы"). Вядомую ўкраінскую пісьменніцу, аўтара шматлікіх кніжак паэтычных, прозы і літаратурна-філасофскіх даследаванняў. Яна — кандыдат філасофскіх навук.

Гэта маладая жанчына з тварам вытанчанай агрэсіўнай прыгажосці (мяркую па фотаздымку) у космасе сусветнай літаратуры ўзарвала новую — атамную, вадародную, ці якія яшчэ там патаемна майструюцца — бомбу... У 60-я гады свет гэтак жа раскалоўся на кавалкі, хіба што чытаючы раманы Франсуазы Саган. Ф р а н ц у ж а н к і. Сённяшняя ў к р а і н к а Аксана Забужка з яе "Палявымі доследамі ўкраінскага сексу" сягнула куды далей! пакінуўшы француженку ў яе "дзіцячым садку"... Аднак, апрача пяра, Аксана Забужка ўзброіла сябе яшчэ і гастрэйшай сацыяльнай рыдлёўкай (навейшага кшталту) і капанула н а  г л ы б і н ю, зазірнуўшы ў якую, агаломшаны заходні чытач ад жаху і захаплення такой жаночай адвагаю абамлеў: "І гэта завецца ў вас там жыццём?!"

Галіна Булыка (яны з Алесем Астраўцовым зрабілі — віртуозна зрабілі!) пераклад "Доследаў..." з украінскай на беларускую мову; ён — увесь празаічны раманны тэкст, яна — паэтычных радкоў самой Аксаны Забужкі, дасканалай мазаікай арганічна ўведзеных у празаічнае палатно. У сваіх уводзінах ("Сястра мая чарнакніжніца") да рамана "Палявыя доследы ўкраінскага сексу" як бы рыхтуе-папярэджвае загадзя "падрыхтаванага" ўжо чытача: "У інтрыгуючай назве рамана ключавое слова не с е к с, а  ў к р а і н с к і".

Зрэшты, мяркуйце самі. І, даруйце, цытата будзе задоўгая. З захаваннем сінтаксісу і пунктуацыі самой Аксаны Забужкі, несумненна, вытрыманым і ў перакладзе.

"...У рабстве народ выраджаецца, — натоўпы, што напаўняюць кіеўскія аўтобусы, усе гэтыя ссутуленыя, з памятымі тварамі мужчыны, на па-жакейску сагнутых у крук нагах... маладзёны з дэбільным смехам і воўчым прыкусам, што пруць напралом, не разглядаючы дарогі (не адступішся — саб'юць з ног і не заўважаць), і дзявулі з груба вымаляванымі паверх скуры лічынамі... — гэта няйнакш рэчы, змайстраваныя без любові, абы-як, на адчэпку; гналі план у канцы квартала, патрабаваліся дзеці, каб стаць на кватэрную чаргу, або трахнуліся дзесьці ў пад'ездзе, ці, па п'янай справе, у тамбуры цягніка (я н а  ехала некалі ў такім цягніку, з Кіева ў Варшаву, на фэст паэзіі, падумаць толькі! — драпежная навала тарбэшнікаў, плацкартны вагон, затараны бэбахамі пад самую столь, — т а в а р, вось як яно ўсё ў іх звалася, зусім такі па-навуковаму, на радасць Карліку Марксу, — смурод клазета, правіслыя на адной завесе дзверы ў тамбур... Агідлівы выраз на свежапагаленай пысцы польскага мытніка, які бярэ — па пляшцы гарэлкі з "пшэдзялу", і гэта яшчэ х а р а ш о, запэўняюць памаладзелых ад радасці цёткі, абтрасаючыся і выцягваючы — уфф! пранесла! — з бяздонных спартовых рэйтузаў па дзве-тры цудам уцалелыя пляшкі, кожная пацягне ў Холме на дзесяць баксаў: яно ў Ягодзіне было раз — давайце, кажуць, па бабе ад аўтобуса, дык прапусцім! — І-і, дык вы што, так і далі? — А што рабіць было?.. — уночы яна ляжала на верхняй паліцы, слухаючы какафонію разнатоннага храпення, і балесна любіла свой няшчасны народ, і народ пачуў і адгукнуўся: масіўная постаць паказалася ў спёртай паўцемры, павяла па твары цяжкім, узбуджаным выдыхам: "Мамачка... малышка... ну хадзі сюды, чуеш? Чуеш мяне? — заводзячыся, дадалі мацней: "Ну, чо ты? Хадзем... чуеш?"

Спыняю цытату.

"Яка погана жінка!.." Сапраўды, пра ш т о  і  я к  яна піша... Ды яшчэ друкуюць яе, каб людзі чыталі... Такі чуецца мне в ы р а к  р о д н а й  м а т і н к і Украіны сваёй блуднай дачцэ, бо Аксана Забужка і сапраўды аб'ездзіла і нажылася ў свеце. "Палявыя доследы ўкраінскага сексу" — раман яе на радзіме быў надрукаваны

(Праця́г на стар. 12)

## Размова пра сучаснасць у музеі Купалы

**У Літаратурным музеі Янкі Купалы прайшла беларуска-нямецкая сустрэча па тэме "Сучасная літаратура: тэндэнцыя і пазіцыя". З нямецкага боку ў ёй бралі ўдзел доктар Томас Вольфарт, Беларусь прадстаўляў Андрэй Хадановіч. Ладзіў сустрэчу Інстытут Гётэ.**

**Гэтую сустрэчу можна назваць водгуллем "Літаратурнага экспрэсу—2000", тым больш, што сп. Вольфарт быў арганізатарам тае акцыі.**

**Літаратурнае жыццё ў Германіі мае спецыфічныя рысы, пра якія і вёў гаворку доктар Вольфарт. Праблематычнай, да прыкладу, паўстае адаптацыя літаратараў былой ГДР да рэчаіснасці аб'яднанай Германіі. Але разбурэнне Берлінскага муру прымусіла і заходніх немцаў пабачыць сябе з іншага боку. Доўгі час у літаратуры абедзвюх Германій прысутнічаў комплекс вінаватасці за злачынствы нацыскага рэжыму. Пераадоленне гэтага комплексу, усведамленне новым пакаленнем немцаў сябе як грамадзян новай Еўропы ў значнай ступені вызначае сацыяльную і культурніцкую сітуацыю ў краіне. Фактычна і літаратары ГДР, і літаратары ФРГ працавалі на тое, каб мяжа паміж дзвюма нямецкімі дзяржавамі заставалася мірнай і гэтым рыхтавалі глебу аб'яднання.**

**Сёння і ў сацыяльным жыцці, у літаратуры Германіі сур'ёзнай праблемай з'яўляецца адна з праяў рэальнай дэмакратыі — роўнасць палоў ва ўсіх праявах жыцця. Сёння ніводны палітык не можа ігнараваць тыя 10% электарату, якія складаюць у Германіі прыхільнікі нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыі. Гаворачы аб праблемах сексу, нельга абмінуць і СНІД.**

**Размова аб тэндэнцыях германскай літаратуры і пазіцыі літаратуры адносна супярэчлівай рэчаіснасці ілюстравалася відэаматэрыяламі і тэкстамі.**

**Гаворкі пра Беларусь, тэндэнцыі нашай нацыянальнай літаратуры многія не дачакаліся, бо імпрэза і так ужо доўжылася больш за дзве гадзіны, а пра Беларусь планавалася пасля перапынку. Так што развагі Андрэя Хадановіча (у адрозненне ад развагаў сп. Вольфарта) пачулі нямногія.**

**П. В.**

## "Роднае слова", № 1

**Лірыку В. Вябры разглядае ў артыкуле "Дажджлівых раніц пазалота..." А. Бельскі. Творчасць А. Гурло ў цэнтры ўвагі А. Андруковіча ("Плешча мора вечнай воляй..."). Пад рубрыкай "Дайсці да Беларусі" М. Шавыркін разглядае Я. Купалу, Я. Коласа, Цётку, З. Бядулю, М. Багдановіча як знакавыя постаці ("Лёсавызначальнае сузор'е"). Г. Тычка выступае з артыкулам "Драматычная паэма Янкі Купалы "Сон на кургане" і яе повязі з рэгіянальнай польскамоўнай літаратурнай традыцыяй". Змешчаны артыкулы В. Міцкевіч "Дарога снам незабаронна..." (сон у творчым увасабленні Я. Коласа), С. Гараніна "Літаратурны працэс на мяжы эпох: ад ранняга да позняга Сярэднявечча", І. Бароўскай "Паэтыка песенна-любоўнай лірыкі", С. Шчэрбы "Парадыраванне як спосаб сатырычнай тыпізацыі", М. Пажарыцкага "Мова твораў Васіля Быкава" (лінгвістычна-культуралагічны аналіз). У сувязі з 50-годдзем В. Рагаўцова прапануецца слова А. Пісьмянкова "Ад матчынай песні..." і артыкул В. Рагаўцова "Кантраснае ўжыванне слоў і выразаў як асنова камічнага эфекту ў беларускай драматургіі". 50 гадоў споўнілася і Т. Тамашэвічу. Ён разважае пра некаторыя адхіленні ад нормаў у мастацкіх тэкстах ("З любоўю да слова"). Да 110-годдзя з дня нараджэння Б. Тарашкевіча прапануецца матэрыял А. Губкінай "Бацька "Беларускай граматыкі". Сярод іншых публікацый — "Партрэт Якуба Коласа" Зянона Паўлоўскага" Г. Зайцавай, "Маладняк" і беларускія цымбалы" Н. Яканюк, "Дзяржаўны Літаратурны музей Янкі Купалы ў Мінску" Д. Кавалевіч, "Снабачанні і сусветныя рэлігіі" В. Наталевіч, "Конь — эмблема года: шматаспектнасць, сімвал вобраза" Т. Шамякінай. "РС" віншуе з 50-годдзем У. Васілевіча. Ён у артыкуле "Зямлёю закрытае — не забытае..." гаворыць пра каштоўнасць фальклорнай спадчыны. Ёсць і шэраг іншых матэрыялаў, што не пакінуць абыякавым чытача.**

КНІГАРНЯ

# Вяртанне... у будучыню

Апошнім часам Валянцін Блакіт не так і часта друкуецца, а пісьменнік, цікавы, аб чым, у прыватнасці, засведчылі лепшыя яго кнігі "Час прылётку жураваў", "Шануй імя сваё", "Усмешка Фартуны" і іншыя. Таму прыхільнікі творчасці Валянціна Уладзіміравіча з такой цікавасцю сустрэлі яго новую аповесць "Вяртанне на Саарэмаа", змешчаную спачатку ў часопісе "Полымя" (2001, № 2), а затым і ў адзінаццатай кніжцы "Нёмана" за мінулы год у аўтарскім перакладзе. Рускамоўны варыянт, у параўнанне з арыгіналам, крыху больш аб'ёмны, што дазваляе яшчэ лепш заглыбіцца ў свет герояў празаіка, адчуць, чым жывуць яны, а галоўнае — глыбей спасцігнуць характар асноўнага персанажа Міхаіла Бакульчыка, які, дасягнуўшы ў жыцці многага, ніяк не можа развітацца са сваім юнацтвам, а вяртанне ў гады, калі праходзіў армейскую службу — гэта і магчымасць разабрацца ў сабе сённяшнім, паспрабаваць суаднесці сваё колішняе і цяперашняе жыццё з лёсам нekалі вялікай краіны.

Сюжэтная канва аповесці — амаль суцэльныя рэтраспекцыі. Прыём, як вядома, у літаратуры апрабаваны, але толькі пад пяром пісьменніка, здатнага ўзвысіцца да значных абагульненняў, адчуць усю складанасць жыцця, знайсці той філасофскі пачатак, дзякуючы якому асобныя факты, падзеі, лёсы выстройваюцца ў стройную сістэму ўзаемадачыненняў, дасягае поспеху. В. Блакіт — з такіх аўтараў. Яго "Вяртанне на Саарэмаа" — гэта і пераацэнка шмат якіх маральных каштоўнасцяў, і жаданне ідэалы ўяўныя адрозніць ад сапраўдных, але гэта і імкненне лепш зразумець сябе сённяшняга, а падобная пастаноўка пытання правамоцная, не зважаючы на тое, наколькі прысутная ў творы дакументальная аснова. Больш значная ці менш — не важна. Істотна іншае: на месца Бакульчыка можна паставіць кагонебудзь іншага з пакалення, якое ўжо дасягнула ў сваім жыцці шасцідзесяцігадовага рубяжа і, калі гэта чалавек сумленны, ён не можа не пераацэньваць свой пройдзены шлях.

Іншая справа, што служба Бакульчыка праходзіла там, дзе і ў гады "інтэрнацыянальнай роўнасці і брацтва" пасапраўднаму нацыянальна свядомыя людзі, а гэта ці не ўсё, за рэдкім выключэннем, насельніцтва, адчувалі сябе менавіта дзецьмі гэтай, а не іншай зямлі. Дый інакш адчуваць сябе яны проста не маглі, бо пачуццё нацыянальнай свядомасці ніколі не пакідала іх: праходзячы з малаком маці, адыходзіла толькі з апошнім уздыхам, паспеўшы перад гэтым перадацца дзецям, унукам, а тым самым атрымліваўся непарыўны ланцуг, які не па сіле нікому і ніколі разарваць. Хіба што на паўны час можна вырваць асобныя звенні. У асобных выпадках, не надта задумваючыся, па сутнасці рабіў гэта і Бакульчык. І з-за маладой лёгкаважкасці, і з-за таго, што верыў у ідэалы, на якіх выхоўваўся.

Сёння ж яму няма спакою, асабліва, калі пачнецца непагадзь. Тады ў думках знаходзіцца далёка ад роднага дома: "От жа вар'яцкае недзе стыхія там, на Саарэмаа, падумаў Бакульчык і амаль рэальна ўявіў, як кіпіць, са стогнам выварочвае сваё глыбіннае нутро мора, шалёна кідаецца на камяністы бераг ды з такой неўтаймаванай сілай, што ўздрыгвае зямля. Ледзь не фізічна адчуў саланаваты прысмак паветра, прэлы пах патрывожаных заточных водарасцяў. Сціхае дыханне вецер, хочацца за нешта схапіцца, каб утрымацца на нагах...

Пабыць бы там зноў, пабачыць, адчуць наяве... Хоць на хвілінку глянуць на знаёмыя краявіды!

Служыў жа Бакульчык у Эстоніі, там дзе размясціліся "тры вялікія астравы — Саарэмаа, Хіўма, Муху". Як патлумачылі яму адразу, самым буйным быў Саарэмаа. Па прыездзе даведаўся, што эстонцы не надта прыхільна ставяцца да савецкай улады. Не сказаць, каб гэта адразу выклікала ў яго душы нейкую прыкметную рэакцыю, бо спярша трывожыла іншае: як справіцца з задачай, якую паставіў перад ім начальнік пагранічнага атрада палкоўнік Меркур'еў:

"— Малодшаму сяржанту Бакульчыку, кандыдату ў члены КПСС, камандаванне даручае адказнае заданне... — Ягоны голас набыў строгасць, урачыстасць, што сведчыла пра асабліва важную місію, якая на яго ўскладвалася. — Перад малодшым сяржантам Бакульчыкам ставіцца наступная задача... — Вытрымаў паўзу. — Зрабіць з паўразложанай, паўанархічнай шайкі, якой з'яўляецца сёння пражэктарны разлік, узорнае вайсковае падраздзяленне са строгай дысцыплінай і такімі ж строгімі вайсковымі парадкамі".

А яшчэ даведаўся Бакульчык, што "пражэктарны разлік ніколі не быў на добрым рахунку, сёння — бяльмо на воку атрада", а начальнікі "за маральнае разлажэнне, марадзёрства, грубейшыя парушэнні вайсковай дысцыпліны, невыкананне загадаў камандавання" кожныя паўгода альбо разжалваюцца, альбо аддаюцца пад суд.

Як і трэба чакаць, у аповесці шмат расказваецца пра тое, як Бакульчык наводзіў у разліку парадак. Робіцца В. Блакітам гэта псіхалагічна праўдзіва, з дакладным узнаўленнем многіх рэалій, што скляліся ў падраздзяленні. Прываблівае і галоўны герой. І сваёй рашучасцю ў жаданні навесці парадак, і высокай сумленнасцю, і жаданнем ні на крок не адступаць ад патрабаванняў статута. Праўда, сям-там пісьменнік усё ж крыху ідэалізуе галоўнага героя, калі гаворка заходзіць пра яго, як камандзіра разліку. Часам Бакульчык выглядае залішне правільным. Іншая рэч — эпізоды, дзе расказваецца, як персанаж пачынае адкрываць для сябе карэнных жыхароў такімі, якімі яны ёсць у сапраўднасці, а не кіруючыся меркаваннямі вышэйшага начальства. Праз некаторы час Бакульчык мусіць прызнацца, што памыляўся, аднабакова падыходзячы да гэтых людзей. Яму, выхаванаму ў духу інтэрнацыянальнага патрыятызму, нялёгка было зразумець, што ёсць іншае жыццё — не рэгламентаванае інструкцыямі, не падагнанае пад схемы, не прыпісанае да розных ізмаў. Цяпер, на адлегласці пройдзеных жыццёвых дарог, сорамна за сябе ранейшага, за тыя паводзіны.

Пакутна на душы Бакульчыка, але без гэтых пакут не можа быць ачышчэння: "Зараз, калі памяць зноў падсунула-закруціла нekалі зафіксаваныя падзеі, твары, думкі, пачуцці, страсці, было жаданне бачыць іх толькі такімі, якімі зафіксаваліся, глядзець на сябе, быццам і не на сябе, а на нейкага чужога, глядзець збоку, нейтральным поглядам нічога не прыхарошваючы, не шукаючы ніякіх тлумачэнняў і апраўданняў, бо апраўданні заўсёды бываюць трохі фальшывымі. Аднак удавалася гэта з вялікай цяжкасцю: мінулае нястрымна ўрывалася ў сённяшняе, сённяшняе — у мінулае, бо яны проста не маглі існаваць адно без аднаго, жыць паасобку".

Бакульчык і набліжаецца да ачышчэння. Праз пераацэнку колішняга. Праз памяць аб пражытым. Праз усведамленне, што тыя нямногія кантакты, якія адбыліся з эстонцамі, не проста пакінулі глыбокі след у душы, а многае перавярнулі ў ёй. А наколькі шмат, зразумеў толькі цяпер, у сталым узросце. Прыйшоў да такой высновы і з радасцю, што гэта нарэшце ўсвядоміў, і з горыччу, што ўсё адбылося так позна. Але і са шкадаваннем: калі б быў тады больш чуйным, адкрыў бы для сябе куды больш. Таму б і не блукаў доўгія гады ў пацёмках нацыянальнага змроку, таму і зрабіў бы менш учынкаў, за якія сёння сорамна.

У аповесці нямала старонак, што ўражваюць сваёй бескампраміснай праўдай. Нават такой, якая напачатку гатова нават выклікаць у душы некаторы пратэст, бо, як на першы погляд, тое, пра што даведваешся шмат у чым амаральна ў сваёй сутнасці. Ды будучыні. Даў жа зборніку назву аднайменны верш:

*Мы вучымся мудрасці*
*ў Бога.*
*Узнёсласці думак —*
*У неба.*
*Каханню, любові —*
*Ў Зямлі.*
*Як дыхае ўзнятая*
*Глеба,*
*Як пахне ў хаце*
*Хлебам,*
*Як спеюць плады*
*На гронцы,*
*Як чуйна імкнуць*
*Да Сонца,*
*Бы думак узлёт,*
*Жураўлі...*

Такая лучнасць з navakolьным светам нязменна прысутнічае ў вершах паэта. Малюнкі, створаныя ў лепшых з іх, запамінальныя сваёй непасрэднасцю, той сціплай прыгажосцю, без якой жыццё б наша нашмат збяднела, здрабнела. Але, калі згадваецца маленства, да месца і тужлівыя матывы. І ад гэтага нікуды не падзенешся: калаўрот жыцця ніколі не спыняецца:

*Казытліва-чырвоныя промні —*
*Неспакой успамінаў і дум.*
*І самотна шчымліва напомніць*
*Клапатлівай мінуўшчыны тлум.*
*Я адчую дзяцінства нябёсы*
*І мазоль першы мой і гузак...*
*Бачу: едуць з сенам калёсы —*
*Не даедуць да хаты ніяк...*
**("З дзяцінства")**

І гэтае вяртанне туды, куды па сутнасці звароту няма, таму і цяжкае, бо, калі і наступае радасць, дык мімалётная. Паранейшаму больш тугі, смутку.

Ды нязменна імкнецца душа лірычнага героя да вечнага, да зямнога: "Бяроз убачыцца свячэнне, — // І праз віхуру і слату // Ад тлуму тут знайду збавенне, / / Да іх на споведзь я іду". Падобныя матывы надаюць кнізе А. Крывіцкага своеасаблівую настраёвасць, а лепшыя творы запамінаюцца.

**Алег ГУЛІЦКІ**

# "Чуйнасць"




Такую назву даў сваёй новай кнізе паэзіі, што стала лістападаўскім зборнікам "Бібліятэкі часопіса "Маладосць" за мінулы год, Анатоль Крывіцкі. З яго творчасцю лімаўскі чытач добра знаёмы. А. Крывіцкі нарадзіўся ў гарадскім пасёлку Круглае, што на Магілёўшчыне. З 1965 года жыве ў Салігорску. Вершы пачаў пісаць падчас вучобы ў Магілёўскім педагагічным універсітэце, гісторыка-геаграфічны факультэт якога скончыў. Новая кніга з'явілася дзякуючы падтрымцы старшыні Салігорскага райвыканкама Сяргея Прахорчыка, а тэматычна яна звязана з паўсядзённымі рэаліямі. Лірычны герой А. Крывіцкага ўспамінае сваё маленства, што пастаянна нагадвае яму, і як кожнаму, збалелая памяць, захапляецца харастовом роднай прыроды, імкнецца па-свойму асэнсаваць тое адзінства, якое з'яўляецца повяззю часоў: учарашняга, сённяшняга і

# "Даведнік па гісторыі Беларусі"

Нямецкамоўны "Даведнік па гісторыі Беларусі" — першае выданне такога тыпу ў сучасным навуковым, грамадскім і культурным жыцці адразу для некалькіх краін: Аўстрыі, Беларусі, Венгрыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Канады, Польшчы і Швейцарыі, прадстаўнікі якіх на рубяжы тысячагоддзяў непасрэдна спрычыніліся да распаўсюджання гістарычных ведаў пра беларускую краіну і яе людзей.

Кніга пабачыла свет у германскім гарадзе Гёцінген (зямля Ніжняя Саксонія) увосень 2001 года і амаль адразу стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Патрэба ў даведніку для сённяшняга нямецкамоўнага чытача ў Германіі і па-за межамі тлумачыцца тым, што ён утрымлівае "разгорнуты агляд сацыяльнай і культурнай гісторыі Беларусі ад часоў сярэднявечча і да пачатку XXI стагоддзя". На думку аўтараў выдання, такі падыход прадыктаваны рознымі прычынамі: з аднаго боку практычнымі, а з другога — канцэптуальнымі. Зыходзячы з гэтага, галоўнай мэтай працы навукоўцаў, даследчыкаў і аўтараў было імкненне "зменшыць адлегласць" паміж мінулым і сучаснасцю шляхам павелічэння попыту на гістарычныя веды пра Беларусь. Таму ў 1990-я гады наша краіна трапляе з "сваёй" гістарычнай тэматыкай у поле навуковага інтарэсу германскіх даследчыкаў, дзякуючы якім у сучаснай гістарыяграфіі ФРГ знайшлі адлюстраванне вынікі найноўшых навуковых пошукаў і дыскусій па гісторыі беларускай дзяржавы, беларускага народа.

"Даведнік па гісторыі Беларусі" ўключае 30 тэматычных артыкулаў, якія сабраны ў трох частках: вакол праблем гістарыяграфіі і геральдыкі, храналагічна акрэсленых

толькі на першы погляд. Лепш прааналізуеш сітуацыю і разумееш: інакш нельга было. Гэтая, здавалася б амаральнасць, самае чыстае і святое ў сваёй сутнасці, бо яна дапамагае не проста выжыць, а выстаяць. І не толькі самому, а захаваць нацыю, народ.

Маладая эстонка Лейда, якую Бакульчык спрабуе выхоўваць, ушчуваючы за сувязі з салдатамі, прыпадносіць яму ў адказ сапраўдны ўрок, і, як высвятляецца, яна куды больш маральная ў сваіх учынках, чым сам "настаўнік":

" — Не твая і не мая віна, што нашы мужыкі аказаліся па той бераг мора (паўцякалі ў Швецыю. — **А. М.**), жыццё збілася са звыклага кола.. Думаеш, для ўцехі і забавы пайшла з вашым Ёзасам? Не, Міша, не для гэтага. І ўсе нашы дзеўкі, што кладуцца з вамі, таксама, ведай, кладуцца не дзеля гэтага. Нам дзяцей трэба нарадзіць, каб не апусцела, абязлюдзела наша зямля, каб не засялілі ўсю, як Нарву. Нас, эстонцаў, і так мала... А для мяне дык ужо і зусім бяда... Пад трыццаць, а з-за свайго дурнога характару так нікога і не ўклала... Быў калісь адзін, але дзіця так і не зрабіў, не ведаю, чыя віна..."

Пасля Ледзінай праўды, Бакульчык "стаяў аглушаны пачутым, пасаромлены, абсмяяны, ад хвалявання дрыжэлі рукі. Больш за ўсё гняло, дапякала, што і на гэты раз не даў належнага адпору, дазволіў узяць над сабою верх гэтай скандалістцы і антысаветчыцы". Гэта тады, у гады маладосці, а цяпер іншае пачуццё перажывае, пераасэнсоўваючы сваё колішняе. І шукае апраўданне ранейшым учынкам. І гэтаму, і пазнейшым у нечым знаходзіць яго, але ад гэтага лягчэй не становіцца, бо шлях да ісціны — куды складанейшы і даўжэйшы, чым падаецца спачатку. Сцвярджэнне: "Ды каб забіў трывогу, высунуўся з прапановамі.., першае, што зрабілі б — адабралі партбілет, аб'явіўшы апартуністам, рэвізіяністам, пасадзілі б у вар'яцкі дом..." — хоць і апраўданне, але малое. Жывучы ў сваім часе, чалавеку, нават сумленнаму, нялёгка вырвацца з-за яго. Але куды страшней, калі з гадамі не робяцца падобныя патугі. Тады гэта не проста кансерватызм поглядаў, а жаданне быць цішэй вады, ніжэй травы... А якраз так Бакульчык жыць не хоча, таму і вяртаецца часта ў думках на Саарэмаа.

Новая аповесць В. Блакіта засведчыла, што пісьменнік у сваёй творчасці знайшоў не толькі новую тэму, а і раскрыў яе памастацку дасканала, а гэта надае ўпэўненасці, што "Вяртанне на Саарэмаа" зойме ў сучасным літаратурным працэсе сваё належнае месца. Тое, пра што расказана ў творы, гэта па сутнасці вяртанне... у нашу будучыню, калі нарэшце ўвесь беларускі народ усвядоміць сябе нацыяй.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

гістарычных падзей, а таксама з'яў, працэсаў, фактаў з палітычнай, сацыяльнай, культурнай гісторыі Беларусі.

Рэдактары, падсумоўваючы вынікі гістарычнага вывучэння Беларусі і не ідэалізуючы іх, упэўнены ў тым, што існуючыя працы пакуль недастаткова поўна паказваюць сапраўдныя здабыткі гістарычнага развіцця беларускага народа. Таму ў даведніку яны паспрабавалі падаць увесь спектр гістарычнага мінулага, пры гэтым акрэсліць галоўную праблематыку з улікам інтарэсу якраз заходняга чытача, прычым у самых розных сферах жыцця беларусаў: гаспадарчай, этнічнай і канфесійнай, горадабудаўнічай, моўнай і культурнай.

Даведнік мае, апрача прадмовы і ўводзін, яшчэ тры самастойныя часткі: "Гістарыяграфія і геральдыка", "Храналогія ад X да пачатку XXI стагоддзя", "Аспекты сацыяльнай і культурнай гісторыі". Пры гэтым апошняя ўключае пяць асобных тэматычных раздзелаў, адпаведна: "Сацыяльнае становішча і гаспадарка", "Функцыі і культура горада", "Этнічнасць і веравызнанне", "Вайна і выжыванне ў XX ст.", "Мова і літаратура". І ў рэшце рэшт даведнік мае дадатак, які ўключае карты, храналагічную табліцу гістарычных падзей, спісы скарачэнняў і асноўнай бібліяграфіі, а таксама паказальнік імёнаў, рэгістр геаграфічных назваў і спіс аўтараў.

Такім чынам, у даведніку нямецкамоўнаму чытачу прапанавана сістэма найноўшых ведаў пра беларускую краіну, яе людзей, іх лёсы і г.д. Звярнуўшы ўвагу на тэматыку, якая прадстаўлена ў гэтым выданні, і параўнаўшы яе з сучаснай канцэпцыяй нацыянальнай гісторыі, можна адразу заўважыць, што шэраг гістарычных і беларусазнаўчых пытанняў застаецца па-за межамі акрэсленай вышэй тэматыкі. Але гэта не бракуе навуковай і грамадскай значнасці даведніка.

**Сяргей НОВІКАЎ,**
**загадчык кафедры гісторыі і беларусазнаўства МДЛУ**

---

ВІНШУЕМ!

# Азірніся з любоўю

## ДА 60-годдзя Анатоля БАРОЎСКАГА



*З В.Казько, А.Рыбаком, Р.Баравіковай і І.Шамякінам*

Яго пазнаеш у любой грамадзе, нават натоўпе (хаця па характары ён далёка не свецкі чалавек). Па ягонай ладнай, дужай, элегантнай паставе, шчырай, адкрытай, добразычлівай усмешцы, а крыху раней і па чорным, як смоль, казацкім заліхвацкаму чубе. У манерах адчуваецца тое няўлоўнае, што ў раманах пра арыстакратаў называлі пародай. Хаця спецыфічнасць паводзін, уменне з годнасцю трымацца ў любой кампаніі ў пэўнай ступені тлумачыцца і ўнутранымі патрабаваннямі ягонай асноўнай спецыяльнасці, якая стала па сутнасці лёсавызначальнай ва ўсёй долі Анатоля Мікалаевіча Бароўскага. І сапраўды, нягледзячы на тое, што па дыпломе аб вышэйшай адукацыі ён настаўнік (за плячыма Мазырскі педінстытут), а працаваць даводзілася і на заводзе, і ў таварыстве "Веды", і нават начальнікам ваеннага клуба ў Полацку, і служыць у войску, усё ж такі яго асноўная прафесія — журналіст і пісьменнік. Гэтыя дзве іпастасі адзінага боства, якому ён аддана і плённа служыць усё жыццё, так цесна перапляліся ў ягонай душы, што практычна немагчыма вылучыць кожную паасобку. За амаль чатыры дзесяцігоддзі творчай працы ён стаў не абы-якім майстрам сваёй справы, бо ўсё было пры ім — і "нюх" на злабадзённыя падзеі справы, і аператыўнасць, і здольнасць аб'ехаць хоць цэлы свет у пошуках сюжэту ці цікавага чалавека, і здольнасць заглянуць у ягоную душу, разгаварыць, прымусіць падзяліцца самым запаветным і дарагім, і выключная бескампраміснасць. Невыпадкова, што ў той час, калі газеты, а значыць і супрацоўнікі былі выстраены па ранжыры, газета "Чырвоная змена" з артыкуламі А. Бароўскага станавілася сапраўдным бестселерам. Бо поруч з краявідамі роднай Мазыршчыны, Палесся, апавяданнямі пра майстроў сваёй справы, такіх як Мікалай Пушкар, ён пісаў пра злачынствы, учыненыя прадстаўнікамі ўлады або іх разбэшчанымі дзеткамі. (Пра свой родны Мазыр, у ваколіцах якога нарадзіўся, а потым на ягоных узгорыстых вуліцах радаваўся ўсмешкам маленькіх дачушак, напісаў асобную кнігу "Цвітуць над Прыпяццю сады".) Шмат сіл аддаў напісанню адпаведных тамоў з кнігі "Памяць".

Але найбольш яскрава талент журналіста раскрыўся ў постчарнобыльскі перыяд. Здавалася б, хто толькі не пісаў у нацыянальнай літаратуры пра трагедыю тысячагоддзя, хто толькі не згадваў салаўёў з бусламі над рэактарам, паказваючы кантраст мірнай стваральнай працы і катастрофы, ціхіх досвіткаў і рэхаў штучных грымотаў, толькі лянівы не цытаваў прароцтвы Яна Багаслова, абыгрываў сімволіку злой зоркі, горкага Палыну, атручаных водаў. Ці не таму на амаль "аднакаляровым слаі" (М. Багдановіч) звыклай традыцыі сапраўднай з'явай у асэнсаванні трагедыі сталася кніга А. Бароўскага "Белы бусел — чорны цень: аповед пра энергетыкаў-ліквідатараў". Сам аўтар аб'ехаў усе мястэчкі і вёсачкі засыпанага стронцыем Палесся. З першых дзён аварыі працуючы ў Хойніцкай раёнцы (ад "Чырвонай змены") жыў па сутнасці ў зоне, а таму спазнаў яе не наездамі (а хіба ў Гомелі было лепш?!), а так, як усе палешукі, уласным здароўем. Толькі тады ён адчуў (якая плата за веды!) — спазнаць катастрофу і яе страшэнныя вынікі на самых разнастайных узроўнях, а тым самым зразумець, што ацаніць яе памеры і ўплыў на ўсе бакі жыцця нацыі немажліва аднаму, нават самаму геніяльнаму творцу. Вось чаму ў сваёй кнізе ён ідзе на смелы мастакоўскі эксперымент. Як некалі вайну паказвалі праз прызму ўспрымання салдата, жанчыны, дзіцяці, трагедыю тысячагоддзяў ён увасабляе вачыма і душамі ліквідатараў-энергетыкаў. Ён лічыць, што станцыя хоць і атамная, перш за ўсё электрычная, а раз так, то правадамі яна звязана і з Гомелем, і з Мінскам, і з Масквой і з усім светам. Яскравая журналісцкая знаходка дазволіла аўтару паказаць і міністэрства, і ЦК, і саміх звычайных рабацяг РЭС, што едуць у "пылацмоках" і не могуць зразумець, чаму ў роце так елка. Якраз падобным чынам яму ўдалося паказаць двурушнасць вышэйшага начальства, іх панічны страх і разгубленасць: ніколі не абедалі ў Хойніках і Брагіне, заскоквалі толькі на хвілінку ў радыеактыўныя раёны, нават месца для дэзактывацыі выбіралі з верталёта. Такое нельга прыдумаць, гэта ўсё Анатоль Мікалаевіч і сам бачыў на ўласныя вочы, і чуў з вуснаў сваіх персанажаў. Нібы таленавіты рэжысёр, што памірае ў акцёры, А. Бароўскі па-майстэрску растварыўся ў сваіх героях і духоўнай энергетыцы кнігі, якая стала своеасаблівай мемарыяльнай дошкай для ўсіх ліквідатараў, асабліва тых, хто ўжо памёр, адпакутаваўшы на гэтай зямлі. Але сам спіс загінуўшых расце пастаянна, і ў цэнтры велізарных Рандоўскіх могілак стаіць гранітны абеліск, дзе пахаваны ўлюбёны герой А. Бароўскага, Пётр Сяргеевіч Сіліч, колішні кіраўнік энергетыкаў. Гэты былы марак да Чарнобыля не хварэў нават грыпам, а ўсе сілы аддаў на тое, каб ачысціць родны край ад бруду. Ці не таму ён амаль крычаў у Маскве аб трагедыі, калі ўскормленыя чыноўнікі хацелі сагнаць яго з трыбуны воплескамі. Не збылася мара П. Сіліча лавіць рыбку на юшку з унукамі ў чыстай Прыпяці, як і надзеі многіх і многіх.

У свой час, адкрываючы кнігу "Я з вогненнай вёскі", многія проста канстатавалі, што яе немажліва чытаць. А як чытаць гісторыю братоў Журбоў — Валерыя і Янкі, маладых, здаровых хлопцаў, якія, вярнуўшыся "адтуль" з зоны, пакрыліся струпамі і язвамі і ад болю лезлі на сцяну. І як не зразумець гора іх маці, што з сякерай кінулася на самазадаволенага ваенкома, які адправіў сыноў у пекла і не даў грошай на пахаванне аднаго з іх. Кніга А. Бароўскага зрабіла сваю справу, яна пайшла туды, адкуль прыйшла, — у народ, разышлася па зоне і "чыстых" мясцінах.

Самае галоўнае, што А. Бароўскі ад асэнсавання канкрэтных фактаў перайшоў да абагульненняў, а таму трагедыю Чарнобыля ён успрымае ў кантэксце ўсіх выпрабаванняў, што выпалі на долю беларусаў у XX ст. — "зірніце пільна ў вочы беларусу, у іх — і боль, таемны страх, адчай". Так, нядаўна ён пазнаёміўся з галоўным урачом хімзаводскай бальніцы Гомеля, таленавітым (залатыя рукі) хірургам і арганізатарам медыцыны, Якавам Сцяпанавічам Кратом, які з болем у сэрцы распавёў яму пра трагедыю многіх хворых, вымушаных усё жыццё быць прыкаванымі да апарата гемадыялізу. Няма сумнення, што сустрэча двух таленавітых і неабыякавых да чужога болю людзей выльецца ў новую кнігу чалавечых лёсаў, аб'яднаных адзінай трагедыяй. І разлічана яна не толькі на мясцовага чытача, але і на Еўропу, дзе, не сумняваемся, знойдзе свой рэзананс.

Здольнасць суперажываць чалавеку, жаданне зрабіць яго лепшым паступова прыводзіць да ўсведамлення таго, што цеснавата робіцца ў звыклых, падчас празмерна традыцыйных формах рэпартажа, нарыса, замалёўкі, дэтэктыўнага расследавання. Усё часцей узнікае думка паспрабаваць свае сілы ў мастацкай прозе, не так сурова скаванай памерамі газеты ці часопіса і заўсёдным цэйтнотам. Праўда, А. Бароўскі недзе з канца шасцідзесятых пачынаў пісаць гумарэскі, апавяданні, якія друкаваліся ў "Вожыку", "Чырвонай змене", "Во славу Родины". А сур'ёзна ўзяўся за прозу ў канцы сямідзесятых, калі з'явілася яго першая аповесць "Тросніца". Якраз тады нарадзіўся яго любімы герой, малады хлопец, які толькі ўступае ў вялікае жыццё, шукае сваё прызначэнне, каханне, сэнс жыцця, наогул, шукае сам сябе.

Этапнай у гэтым плане была кніга "Каліна пад вакном", дзе надрукаваны дзве аповесці і шэраг апавяданняў. Лірычны характар зборніка выразна падкрэслівалі нават загалоўкі твораў: "Вера-Веранiка", "Шыпшынавы цвет", "Верасы", "На схіле дня". Спрыяла гэтаму і шчодрае, дасканалае апісанне краявідаў Палесся, дзе ў асноўным адбывалася дзеянне твораў. Менавіта таму апошнія набывалі камернае, падчас нават інтымнае гучанне, дзе якраз дарэчы былі і светлыя элегічныя ноткі суму і далёкай тугі, як заўсёды бывае, калі стаіш на парозе развітання. І няхай цябе чакае наперадзе радасць жыцця, тваё маладое сэрца ўжо пацiху, як героі Ф. Саган, заяўляе — "Добры дзень, журба".

Калі б патрэбна было адным словам вызначыць спецыфіку эвалюцыі Бароўскага-празаіка, то гэтае слова, безумоўна, рост. А сінонімы можна падбіраць па гусце — імклівы, натхнёны, мэтанакіраваны, нават непрадказальны. Па сутнасці, кожная новая кніга А. Бароўскага становіцца этапнай у творчым развіцці пісьменніка і падчас нават адмаўляе папярэднія пошукі. Гэта характэрна і для зборніка аповесцей "Азірніся ў каханні", крыху мадэрнізаваную назву якой мы паставілі ў загаловак. І не толькі таму, што ён спрабуе асэнсаваць важкасць, сутнасць прыроды для духоўнага станаўлення чалавека ("Княжабор") ці спрабуе аб'яднаць і асэнсаваць дзве агульнанацыянальныя трагедыі — Афганістан і Чарнобыль і іх уплыў на чалавечую душу і долю нацыі ў цэлым ("Бронік-афганец). Бадай што ўпершыню аўтар адмаўляецца ад традыцыйнага, звыклага для беларускай літаратуры капіравання рэчаіснасці, а творча, па-свойму, выкарыстоўвае прыроду ўмоўнасці, якую лічыць фундаментальным, асноватворчым прынцыпам мастацкага спасціжэння быцця. Таму ў аповесці "Азірніся ў каханні" ён у фантастычнай форме разважае аб сутнасці чалавека і ягоных асноўных якасцяў. Сапраўды, праблемы сучаснасці нельга зразумець толькі з дапамогай розуму, логікі, рацыянальнага (згадаем народнае "не розумам сцяміў, а сэрцам"). Вяртанне арганічнай светапогляднай камфортнасці існавання адбываецца ў значнай ступені за кошт фантазіі, якая бярэ пачатак са сферы пачуццёвага. Вось чаму фантазійная літаратура ўяўляецца цалкам заканамернай культурнай з'явай нашага падчас віртуальнага жыцця, глыбінна звязанай з каранёвымі, сутнаснымі пытаннямі рэчаіснасці. І гэта не проста даніна модзе, не штучнае механічнае клanaванне жыцця ці простае імітацыйнае перайманне, а рэальны спосаб і мажлівасць зразумець сутнасць бытавання. Якраз гэтым і абумоўлена выключна складаная будова аповесці "Ахутавана". Ягоная кніга аб мроях сведчыць аб пошуках новых кантактаў з рэчаіснасцю, прымушае чытача паверыць у самыя разнастайныя містычныя праявы: раздваенне асобы, трэці зрок, тэлепартацыю, пятае вымярэнне. У нейкай ступені ў творы нават праяўляецца матыў ідэі Ніцшэ аб Звышчалавеку. Фантастычнае, міфалагічнае, містычнае стала вызначальным у сучаснай прозе А. Бароўскага, асабліва гэта характэрна для ягонай кнігі "Пякельны рай", што ўжо не першы год ляжыць у выдавецтве.

І гэта не проста павевы часу. Усё падпарадкавана адзінай галоўнай ідэі творчасці пісьменніка. Гэта вяртанне народу ягонай сапраўднай гісторыі, гістарычнай памяці, без чаго не можа быць самаідэнтыфікацыі этнасу, шчасця-долі краіны. Надзвычай далікатна гучыць назва аповесці "Ахутавана". Якраз гэтае слова, як лічыць Сяргей Ханеня, лагічнае, чароўнае, дапамагае герою адчуць сваю справядлівую сілу — стаць звышчалавекам. Праз чароўную сілу слова ягоныя героі адкрываюць у сабе нешта такое, што дапамагае дасягнуць адвечнага і сакральнага, невыпадкова яно пачынае нагадваць магічнае чароўнае адценне ці то паганскай замовы, ці то хрысціянскай малітвы.

Нягледзячы на тое, што па характары сваёй прафесійнай дзейнасці А. Бароўскі перш за ўсё эпік, ён у душы перш-наперш паэт. Ён і пачынаў з вершаў, і ў многіх кнігах друкуюцца ягоныя сур'ёзныя паэтычныя творы. Аднак галоўнае, што ён захаваў абвостранадзіцячае, наіўнае ўспрыманне свету з ягонымі так рэдкімі, а таму вельмі дарагімі сэрцу радасцямі. Анатоль Мікалаевіч, як і ў юныя гады, любіць прыгажосць прыроды, роднай зямлі, яго, як і кожнага паэта, хвалюе прыгажосць жанчыны, Прыпяці, краявідаў Палесся (ён добры фатограф), сапраўднай мужчынскай дружбы, ён тонка разумее гумар.

Вышэй мы згадвалі, што самае галоўнае ў эвалюцыі А. Бароўскага — ягонае імклівае мастакоўскае сталенне і творчы рост. У сувязі з гэтым не трэба быць правідцам, каб прадказаць, што ў бліжэйшы час мы павінны чакаць ад Анатоля Мікалаевіча сапраўднага якаснага прарыву. Ды і для стварэння новага ў яго дастаткова фізічных і творчых сіл. Таму толькі і хочацца пажадаць, каб збыліся ўсе жыццёвыя і творчыя мары і задумы.

**Іван ШТЭЙНЕР**

Ну, а чым жа замянілі
Кінастужкі тых гадоў?

Там хлусні было нямала,
Але й тое штось было,
Што ўзвышала, уздымала,
Да святла й дабра вяло.

Што ж за фільмы, за мастацтва
На экране ў нас цяпер?
Толькі гнюснасць,
Толькі гадства,
Толькі ты — двухногі звер.
2002, сакавік

## Як жыць

"Як жыць і як пражыць свой век найлепш?" —
Задаў бабулі ўнук-студэнт пытанне.
"Так, каб як рукі на грудзях складзеш,
Было каму прыйсці на пахаванне.
Каб не сказалі: "Не дай Бог памерці,
Як ён — як горкі лёс судзіў яму:
І не прыйшоў ніхто слязіну ўцерці,
І вынесці труну няма каму".
2001, лістапад

## На супакаенне адной хворай на "чинобесие" асобе

Не бойцеся:
За хворую грымасу
Я ў гэты век трыумфу гадаўя
Не стану помсціць вам.
Не маю часу
На роскаш гэткую.
Ды і не з помсных я.

Скажу вам больш:
Я рад і шчыра ўдзячны
Святому Духу,
Што адкрыў мне ўраз,
Які быў я
Наіўны й неабачны, —
Ён вызваліў маю душу
Ад вас.
2002, студзень

## Парада

### Яшчэ не запозненая

Дарэмна ты, хлопча, крыўдуеш-злуеш
За праўду. Дарэмна сяртолішся.
Прыглядзься ты лепей,
З кім лыкаеш-п'еш,
Задумайся, з кім ты застолішся.

Іначай пад старасць,
Калека з калек,
Зальешся слязамі цялячымі:
"Быў здольны, быў знаны...
Чаму ж я свой век
Канчаю, як бомж сасцулячаны?.."
2002, сакавік

бачу, як сонца ўзыходзіць,
і як сонца заходзіць
як робіцца поўняю маладзік,
поўня робіцца ветахам.
Непаўторнае, неспатольнае,
спапяляльнае, дзіўнае,
кола жыцця не спыняецца ні на хвіліну.

Я ж на самай вяршыні вежы знаходжуся.
Я прайшоў праз кола жыцця
і ўзнёсся ў нябёсы,
праміну ўшы зямныя ўсе межы,
спыніўся ля вышніх,
беспрытульны, каб долу не ўпасці,
знайшоў сабе вежу.

## Цяжар

Асleплая, асмяглая душа
па пустцы безнадзейнай валаклася.
Дрыжала над абшарамі імжа,
змрок ціха на павекі клаўся.
...І голас прагучаў з нябёс:
Пакайся!
Цяжар грахоўны скінуць паспяшай!"

Душа ж,
у далеч рушыўшы, спярша
спакойна ад збавення адраклася:
"Цяжар?
Ён жа замест крыжа!"

**ВІНШУЕМ!**

**Сяргею ПАНІЗНІКУ 10 мая споўнілася 60 гадоў. А нарадзіўся ён у вёсцы Бабышкі Мёрскага раёна. Пасля заканчэння Магілёўскага медыцынскага вучылішча працаваў фельчарам Княжыцкай бальніцы каля Магілёва. Доўгі час служыў у арміі. Закончыўшы факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча, працаваў журналістам. З 1984 года — у выдавецтве "Юнацтва".**

**Пачаў друкавацца ў 1959 годзе. З таго часу выдаў каля дваццаці кніг паэзіі, сярод якіх "Кастры Купалля", "Палявая пошта", "Чало і век", "Мацярык", "Стырно" і іншыя.**

**Сяргей Панізнік — лаўрэат літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова.**

**З 60-годдзем Вас, Сяргей Сцяпанавіч. Жадаем Вам доўгіх год жыцця і нязменных творчых поспехаў!**

Сяргей ПАНІЗНІК



## Сэрца і хлеб

У вянок Янку Купалу і Якубу Коласу

"У большасці сваёй іх дзеці (менчукоў. — С. П.) адначасова вывучалі "мову хлеба" і "мову сэрца". Але ў сучасных умовах большая частка аддае перавагу "мове хлеба".
Жан П'ер Жанто, супрацоўнік Міністэрства адукацыі Францыі ("Наша слова" № 1, 3.1.2002).

Мова сэрца —
мова неба.
Як азерца —
мова хлеба.
Слова светлае
для службы.
Слова ветлае
для дружбы.
Госць у хату —
ў мову неба.
Хто на здраду —
з мовай хлеба.
Слова роднае
святое.
Слова зводнае —
звітое...
Спадкаемцу
мова неба.
Шлях да дзверцаў —
мове хлеба.
Мова неба
як цяпельца.
Мова хлеба
ў адшчапенца.
Ясь! Імя пайшло
на згубу.
Хто сказаў "Ало!"
Якубу?
О, ганеба —
мова хлеба.
Мова сэрца
ў аднаверца.
Мова нетраў,
неба мова —
як паветра,
як замова.
Неба — голас,
дол — апалак...
Промні: Колас
і Купала.

## Зараслае возера, або Прывіды Стаўраў-Гаўраў

У вянок Яну Баршчэўскаму

Сустоілася Нешчарда — мой верад.
Па восені — у водарасцях
нерат.
Па восені пасьлялістотна-ціха.
На бруствэры з брусьнічніку ласіха
пакінула ў гняздзе ад капытка
расінкам
белы кужаль павука.
З прымружанаю памяццю
вятрыска
ліст папараці гушкае — калыску
пустую: адляцела і спаўзло,
усё, што тут жыло і рэй вяло.
І ўжо смялеюць выварatні-здані:
"Дзе Стаўры-Гаўры*"
Там, дзе я ў каханні
у Далібор, Ізочу ці Асвею
з-пад Нешчарды да снегу не паспею.
І з вольхі каташкі
прылашчу ля шчакі, —
перачакаць кунежную завею.
О Стаўры-Гаўры*...
Промнікі на вею.

## Фантастычная гутарка з Баем у Мурагах Яна Баршчэўскага

Расцяробы зацярушаны.
Рунь — як рукапіс каравы.
З адзічэлай панскай грушыны
Бай глядзіць на клін патравы.
Лемяхом падмуркі збочаны.
Ад сядзібы — ані звання...
Хто б сказаў нам: "Побач крочылі
пан Баршчэўскі, пан Завальня?"
Бэз маўчыць. Шыпшына колецца,
аб крысо шкрабецца ў млосці.
Бай не байкамі тут корміцца:
— Да Завальні, ягамосці?
Вашы коні шпарка цокалі
на бяздумныя ігрышчы.
А зазеўралі гарышчы, —
у друзу аселі цокалі.
Што хацелі — тое маеце...
І хвілінай паярчэлай
вы цяпер глыжы збіраеце
тут, пад грушай адзічэлай...
— Бай, жывём не лежабокамі
Мы — над жылаю крынічнай!
Ставім дом зазыўны, з вокнамі
і са свечкаю грамнічнай.
Будзеш бегаць па сцяне —
у чырвоным каптане!

* Stauros (грэч.) — крыж.

З хатуля нам — непарожняга —
выньмеш незабудкі-краскі.
Абагрэш падарожнага
чарай чарадзейнай казкі.

## Запас жыцця

І вякі залатыя
Над намі засвецяць...
Ян БАРШЧЭЎСКІ

Ружа
спраўдзілася калючкамі:
гэтым самым яна праклінае хцівасць.

Поле
спраўдзілася каласамі:
гэтым самым яно праклінае нястачу.

Вецер
спраўдзіўся бураломам:
і я праклінаю сваю падатлівасць.

Воля
спраўджваецца народам,
яго запасам жыцця.

Не праклінайце
сваю свабоду!

## Асеннія матывы радзімазнаўства

Міхасю Казлоўскаму —
выдаўцу "Куфэрка Віленскага"

Як засушлівыя леты
тут мяняліся "саветы".
На ўладарных спадкаемцах
цэшкі крыўдамі гулі...
"Пры палякаx" і "пры немцах"
выжывалі, не жылі.
Хто айчыне быў аддany, —
пастарункі, магаданы
разыграў на струнах кратаў.
Люд і ў высылкі вялі...
Пад хлыстом калгасных спратаў
выжывалі, не жылі.
Нацыя гумовых ботаў
не спазнала смак свабодаў:
ад правоў ён — абавязкі,
для падаткаў — мазалі.
Тыя вязкія павязкі
на вачах не адцвілі.
Праз Глыбокае на Мёры
пралягла дарога зморы:
мне і чаркі-янычаркі
туманы не развялі.
Дрэма — драма на зямлі.
Што ж рабіць мне? З кім? Калі?
Без папроку, злое сваркі
прыкапаў надзей агаркі,
з імі — гэты верш няяркі
пад азіміну ў раллі.



Як матылькі, луналі над ракой,
Як матылькі, як мроі, як лятункі...

Ў калысцы — у блакітнасці нябёс —
Як хтосьці песціў наш і табою лёс...

●

Ты жывеш за вясну ад мяне,
Там, дзе пахне
фіялкай і мятай,
Дзе туга не глядзіць вінавата...
Ты жывеш
за вясну ад мяне.
Мне ж звярнуцца да нашае хаты
Можна толькі ў вясёлкавым сне —
Ты жывеш за вясну ад мяне,
Там, дзе пахне фіялкай і мятай...

●

Самотней суму соннае світанне,
Святлей світання спеўная самота...

І лістападзіць дрэваў пазалота,
Крычыць у ноч разгублена расстанне...

Апошніх дзён
ласкавых дакрананне
Азмрочыла слязьмі сляпая слота...
І не прыходзіць
спеўнае світанне,
І не праходзіць сонная самота.

●

Плывуць, плывуць
ружовыя аблокі,
Як сон кунежны, і святлом чароўным
Іх сустракае ветах адзінокі
Ў лагодным небе, небе вечаровым.

І гэта не аблокі — заміранні
Дзівоснай флейты, пацалункі цноты...
Заціхлі птушкі звонкія да рання —
Да рання нібы ўсе забылі ноты!

Дрыжыць пытанне,
як лісток зялёны:
"І хто ж прыдумаў прыгажосць такую?!"
Расхваляваўся
вецер улюбёны:
"Спытаю заўтра поўню залатую..."

●

Адзінота.
Ружовая чайка.
Аблокі. І мора.
Адзінота. І памяць.
Туманлівы бераг Місхора.
А на беразе хлопчык,
нястрымны ў пачуццях, як вецер...
Быццам ветразь па хвалях,
плыве адзінота па свеце.

Адзінота.
Маркота і ціш.
Як прыціхлыя раны.

Адзінота...
Глядзіш і глядзіш
сон бясконцы і цьмяны...
Хлопчык мроі ўсю ноч сцеражэ
і не спіць, светлавокі.
Адзінота —
надзея
ніколі не быць адзінокім.

●

Усё, як і раней...
Мы пра любоў ці марым?
Такая ціш — ніхто не песціць слых.
Плывуць маўкліва на зямлёю хмары...
Маўчым. І я маўчу званчэй за ўсіх.

Усё, як і раней...
Віна душы балеснай,
Што між дабром і злом няма мяжы?
Ды позна кленчыць літасці нябеснай —
Хрыстос ізноў сумуе на крыжы.

## “Песня і казка ходзяць у пары”

**Нядаўна ў музеі Янкі Купалы распачала працу выстаўка студэнтаў кафедры мадэлявання адзення і мастацкага ткацтва Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, прымеркаваная да 120-годдзя з дня нараджэння песняра.**

**Экспанаты выстаўкі: маляванкі, вышыванкі, ткацтва, жаночае адзенне і ўпрыгожанні да іх. “Песня і казка ходзяць у пары” — такую назву атрымала яна па радку з верша Янкі Купалы.**

**У выстаўку ўключаны працы, што выкананы ў 1999—2002 гг., а таксама частка дыпломных работ выпускнікоў кафедры. Маляванкі “Папараць-кветка”, “Адвечнае”, “Гэта крык, што жыве Беларусь”, “Вясна”, ткацтва “Па Даўгінаўскім шляху” (студэнты С. Амельчанка, Ю. Зеленая, Я. Сакалова-Кубай, Я. Вечар, Г. Яўглеўская, А. Обадава, Г. Кліменка, А. Андруховіч, Н. Мураўёва, А. Швайба, М. Каленік, М. Фінчук і інш.) зноў уводзяць нас у філасофскі свет творчасці народнага песняра. А гледзячы на рэканструкцыю аўтэнтычных кашуль, іх вышыўку, упрыгожанні (студэнты У. Сімончык, Л. Чулкова, Л. Баранава, Л. Дробышава, Н. Каўрыговіч, Л. Лабнова) гледачы дакранаюцца да спрадвечнага, уведваюць, што насілі жанчыны на Беларусі ў XIX стагоддзі, калі нарадзіўся Янка Купала.**

**У кожнай працы студэнтаў і выпускнікоў — часцінка душы, сэрца, духоўнасці выкладчыкаў кафедры В. Бартлавай, М. Канаваленкі, А. Атраховіч, Г. Мяшковай, Т. Шаблоўскай, С. Длатоўскай, Н. Бондара і інш.**

**Навукоўцы і выкладчыкі нагадалі пра традыцыі маляванак, што бяруць свой пачатак ад маляваных дываноў мастака Язэпа Драздовіча і народнай майстрыхі Алены Кіш. А пасля загучалі ў музеі спевы. Гурт у складзе выкладчыцы І. Мазюк, студэнтаў Н. Валынец і А. Філіпава выканаў аўтэнтычныя песні. Іх суправаджалі радкі з верша Янкі Купалы, што далі назву выстаўцы.**

*Песня і казка*
*У райскіх праявах*
*Шчасце збудуюць*
*З кветак яскравых.*

*Сэрца атуляць*
*Вечнаю ласкай...*
*Слухай жа, сэрца,*
*Песняў і казкаў.*

**А пад спевы ўдзельнікі адкрыцця выстаўкі ладзілі карагод.**

**Ф. ВАДАНОСАВА**

## Новае пра Уладзіслава Галубка

**Да 120-годдзя першага народнага артыста Беларусі Уладзіслава Галубка супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры падрыхтавалі выстаўку, прысвечаную жыццю і творчасці гэтага самабытнага драматурга, рэжысёра, акцёра, мастака.**

**На жаль, матэрыялаў пра яго захавалася няшмат: фатаграфіі з сямейнага архіва Ціхановічаў, рэканструкцыі касцюмаў да асобных п'ес зробленыя Яўгенам Ціхановічам, кашуля Міхася Лучанка, які іграў у тэатры майстра. Каштоўная рэліквія — пейзаж “Наваколле Гомеля” самога дзядзькі Галубка. Таму мы вельмі ўзрадаваліся, калі да нас звярнулася жыхарка Мінска Ала Рэвут і прынесла дакументы, звязаныя з сям'ёй Голубаў. Яе маці, Любоў Пятроўна, была жонкай малодшага брата Уладзіслава Галубка Станіслава Голуба.**

**Пажаўцелыя ад часу фотаздымкі, дакументы з тагачаснай арфаграфіяй і стылем. Яны выклікаюць асаблівае пачуццё, узгадваюць рэаліі пачатку мінулага стагоддзя. Апошні з шасці дзяцей Іосіфа і Аліны Голубаў, Станіслаў нарадзіўся 7 красавіка 1893 года, пра што сведчыць выпіска з метрык Мінскага Марыінскага касцёла. Каб узяць шлюб са Станіславам Голубам, праваслаўная Любоў Пятроўна вымушана была прыняць каталіцтва.**

**Са старога фотаздымка ўважліва глядзіць ужо немаладая жанчына са спакойным тварам — Аліна Уладзіміраўна Голуб. Простая сялянка, мудрая жанчына. Пасля жаніцьбы сына Станіслава яна жыла з ім і нявесткай Любай у доме № 3 па 2-ім Безымянным завулку. З гэтым домам звязаны цікавыя дакументы — “Проектъ на постройку деревяннаго дома и деревяннаго сарая съ отхожими мъстами” і “Планъ части гор. Минска съ показаніем плаца”, на якім гэты дом планаваўся.**

**У жыцці няма нічога вечнага. Адыходзяць людзі, але застаецца памяць. Мы, супрацоўнікі музея, звяртаемся да ўсіх, хто мае матэрыялы, звязаныя з тэатральнай і музычнай культурай Беларусі. Прынясіце іх у музей, тым самым вы накануне ім доўгае жыццё і ўнесяце свой уклад у захаванне нацыянальнай культурнай спадчыны.**

**Ларыса КАТКОВА**

МУЗЫКА

# З калегамі ды вучнямі

Старажытныя мудрацы ўзрост ад 40 да 60 гадоў называлі акмэ, гэта значыць найбольш актыўны, дзейны, плённы.

Залаты юбілей — 50-годдзе з дня нараджэння і 30-годдзе творчай дзейнасці адзначыў Яраслаў Валасюк. Ён цудоўны музыкант, які валодае многімі народнымі інструментамі (усёй сям'ёй домраў, мандалінай, ударнымі інструментамі), яркі выканаўца і цудоўны выхавацель музычнай моладзі. Ён з тых людзей, прафесія якіх неадлучная ад іх жыцця: энтузіяст, чалавек невычарпальнай энергіі, сур'ёзны, удумлівы, няўрымслівы, пастаянна ў пошуку.

Нават просты пералік спраў маэстра Валасюка на мастацкай ніве ўражвае: саліст-дамрыст і мандаліністу, ансамбліст, мастацкі кіраўнік ансамбля народных інструментаў выкладчыкаў Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі; аранжыроўшчык, які стварае адметны рэпертуар для свайго творчага калектыву, выкладчык не толькі Мінскага музвучылішча, а й Беларускага універсітэта культуры, дзе таксама стварыў ансамбль дамрыстаў з навучэнцаў і студэнтаў. Акрамя таго, Яраслаў Аляксандравіч узначальвае ў вучылішчы цыклавую камісію народных струнных інструментаў.

Творчы вечар Я. Валасюка стаўся прыкметнай падзеяй у народна-інструментальным мастацтве сталіцы, не толькі вясновай урачыстасцю для юбіляра, яго сваякоў, блізкіх, калегаў і вучняў, але, перш за ўсё, святам домра-мандаліннага жанру. Галоўным героем тут, вядома, быў юбіляр. Аднак канцэртная частка вечара наўрад ці набыла б такое яркае, шматпланавае гучанне, калі б у ім не бралі ўдзел сябры-аднадумцы. Гэта калегі “па цэху”, вядомы ў многіх краінах, выдатны дамрыст-віртуоз, які таксама дасканала валодае мандалінай, дацэнт Беларускай акадэміі музыкі Мікалай Марэцкі і народны артыст Беларусі, цудоўны спявак Іван Тамашэвіч, супрацоўніцтва з якім доўжыцца з сярэдзіны 80-х гадоў, і, вядома ж, ужо амаль 10-гадовае “дзіця” юбіляра — ансамбль народных інструментаў педагогаў Мінскага музычнага вучылішча. Ладная драматургія творчага вечара Я. Валасюка была дасягнута дзякуючы вядучай, таленавітаму музыказнаўцу Іне Зубрыч...



Вечарына праходзіла ў нязмушанай сяброўскай абстаноўцы. Ніякага афіцыёзу. Кожны нумар праграмы слухачы прымалі з натхненнем. У зычлівай атмасферы гралі вучні юбіляра: Ілля Драгуноў (1 курс), Кацярына Забайрачная і Алена




# Для моладзі... опера!

Яркі, маляўнічы спектакль “Паяцы” на музыку Р. Леанкавала ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы Беларусі сабраў нямала аматараў гэтага жанру. Адметнасць у тым, што выкананне партый Нэды і Сільвіа было дзяржэкзаменам для выпускнікоў Беларускай акадэміі музыкі Марыі Ліхашэрст і Уладзіміра Громава.

Эмацыянальна, артыстычна выступіла вучаніца Любові Каспорскай, уладальніца цудоўнага сапрана Марыя Ліхашэрст. Яна атрымала заслужаныя доўгія апладысменты. Адпавядаў ёй артыстычны і прыгожы Уладзімір Громаў, выхаванец Міхаіла Жылюка, ужо добра вядомы публіцы малады саліст оперы. На мой погляд, і Марыя Ліхашэрст вартая таго, каб працаваць у гэтым тэатры. Дарэчы, абое спевакі паспяхова здалі дзяржэкзамен, атрымалі самыя высокія адзнакі.

У той вечар усе артысты — Мікалай Майсеенка ў партыі Тоніё, Сяргей Франкоўскі (Каніё), Аляксандр Тузлукоў (Бепа) — сваім прафесіяналізмам, натхнёным выкананнем дапамагалі раскрыцца выпускнікам Акадэміі музыкі. Не магу не адзначыць асабліва яркае гучанне тэнара С. Франкоўскага. Аркестр пад кіраўніцтвам Алега Лесуна граў мякка, пявучасцю вызначаліся струнныя, але духавыя інструменты, на жаль, часам заглушалі спевакоў.

А напярэдадні мне давялося ўбачыць “Паяцы” на сцэне Акадэміі музыкі. Хаця ў гэтым студэнцкім спектаклі не заўсёды праяўляўся артыстызм спевакоў, часам адчувалася іх наіўнасць, неспрактыкаванасць, але кожны быў шчыры і ў музычным, і ў сцэнічным выкананні. Не было адзінства ў мове — хто спяваў парускі, а хто па-італьянску. Сцэна акадэміі невялікая, таму хор мусіў знаходзіцца ў зале, аркестр пад кіраўніцтвам Вальтэра Мнацаканава сядзеў у першых радах. (Дарэчы, у складзе гэтых калектываў — не толькі студэнты, але і прафесіяналы.) Беднасць адчувалася ў прымітыўным афармленні спектакля, выканаўцы мусілі скарыстоўваць у якасці сцэнічных касцюмаў уласнае адзенне. У партыі Нэды выступіла выпускніца Аксана Рагоўская (клас Валянціны Раговіч). Яна вельмі старалася, праўда, партыя ў яе прагучала не зусім роўна. У партыі Сільвіа зноў-такі выступіў Уладзімір Громаў, і здавалася, што на

ПРЭМ'ЕРЫ

# На сцэне — “Чарнобыльская малітва”

Тым, каго закранула чарнобыльская бяда, дапамагаць можна па-рознаму. Можна дасылаць гуманітарныя грузы, можна запрашаць да сябе ў госці дзетак. А можна і разам асэнсоўваць прычыны і вынікі трагедыі сусветнага маштаба, як гэта зрабілі супрацоўнікі французскага тэатра “Клермон-Фера” ў сумесным франка-беларускім праекце, прэзентацыя якога адбылася ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі.

Спектакль “Чарнобыльская малітва” паводле знакамітага твора Святланы Алексіевіч — першая на Беларусі спроба ўвасобіць на сцэне гэты складанейшы публіцыстычны матэрыял. Сама пісьменніца, якая прысутнічала на генеральных прагонах і прэм'еры, засталася вельмі задаволеная тым прачытаннем свойго твора, што прапанавала драматург і каардынатар праекта Вірджынія Сіманье. Гэтая француженка з беларускімі каранямі запрасіла да ўдзелу ў праекце выдатных прафесіяналаў: пастаноўшчыка і сцэнографа Бруно Бусаголя, а таксама тэхнічнага дырэктара і мастака па святлу Бертрана Санье. Падчас прэм'еры на сцэну выходзілі акцёры тэатра “Клермон-Фера” (менавіта адтуль спектакль быў перанесены на беларускую сцэну), якія прамаўлялі - пражывалі тыя ж маналогі, што і іх калегі з РТБД. З беларускага боку рэжысураі спектакля займаўся мастацкі кіраўнік тэатра Валерый Анісенка. Ён жа выходзіў на сцэну ў якасці акцёра разам з усёй астатняй трупай свайго тэатра. Вельмі да месца ў спектаклі прыйшліся беларуская народныя спевы ў выкананні заслужанай артысткі РБ Тацццяны Мархель, якія яна запісала ад сваёй маці Веры Кірылаўны ў вёсцы Шпакоўшчына Смалявіцкага раёна.

Ужо пасля першых хвілін спектакля стала зразумела, што “Чарнобыльская малітва” мае стацца самым моцным і самым незвычайным спектаклем сезона, сапраўднай падзеяй, якую так доўга чакала тэатральная грамадскасць. Парушаючы традыцыйную дыялагічнасць тэатра, спектакль уяўляе сабой публіцыстычны маналог, дэманструе пазабыты намі літаратурны тэатр. Тут усё незвыкла і нават эпатажна: глядач можа аказацца акцёрам, а акцёр — гледачом. Падчас спектакля нельга быць абыякавым — гаворка ідзе пра нацыянальны, сусветны боль, імя якому —Чарнобыль.

**Юля ПАЛАЧАНІНА**



*На здымку: сцэна са спектакля “Чарнобыльская малітва”.*
*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

Халяўская (2 курс), Кацярына Буранкова (3 курс), Ганна Цвікевіч (4 курс). Маладыя дамрысты выконвалі складаныя творы на сапраўды прафесійным узроўні, так бы мовіць, у "врата художественного мастерства" ўваходзілі не па-вучнёўску ўпэўнена, свабодна і смела. Адзначу выкананне вядомага рускага рамanса П. Булахава ў транскрыпцыі А. Шалава "Гори, гори, моя звезда". На народных струнных інструментах у адкрытых канцэртах творы, напісаныя для спеваў, тым больш элегічнага характару, выконваюцца даволі рэдка. Гэта дазваляюць сабе вялікія майстры. Ды навучэнка яшчэ 2-га курса Кацярына Забайрачная выканала яго так душэўна, пранікнёна, з такой шчымлівай інтанацыяй, што не часта сустрэнеш у музыканта-прафесіянала. Паводле задумы юбіляра, гэты твор у інтэрпрэтацыі яго выхаванкі прысвячаўся светлай памяці незабыўных настаўнікаў: прафесара Ленінградскай кансерваторыі І. Шыцянкова, дацэнта Белдзяржкансерваторыі Г. Жыхарава і калегі, заслужанага артыста РБ Л. Смялкоўскага.

Выступленне ж самога Я. Валасюка з калегамі слухацкая аўдыторыя сустракала авацыяй — пачынаючы з першага нумара праграмы, Сімфоніі Соль мажор К. Чаверэ для дзвюх мандалінаў і чэмбала ў 3-х частках. Яе выканалі Я. Валасюк, М. Марэцкі, а партыю чэмбала — І. Васілевіч на клавесіне. Інтэрпрэтацыя вызначалася высокім майстэрствам, глыбокім пранікненнем у задуму кампазітара, яркасцю і дакладнасцю.

Народны ансамбль народных інструментаў Мінскага музычнага вучылішча — гэта жывы арганізм з вольным дыханнем ды імкненнем да пошуку цікавых стасункаў з калегамі, навучэнцамі, слухачамі, з паважлівым стаўленнем да асобы і раскрыццём індывідуальнасці кожнага. Акрамя таго, непасрэдны ўдзел педагогаў у выканаўчым працэсе — цудоўны прыклад для выхаванцаў у наладжванні калектыўнай творчасці, плённым спалучэнні выкладчыцкай і выканаўчай дзейнасці, што лічыцца ідэалам для музыканта любога рангу. Карціна будзе няпоўнай, калі не прыгадаць яшчэ адну сферу дзейнасці ансамбля: акампанемент, майстэрства суправаджэння салістаў і невялікіх творчых груп. Калектыў пад кіраўніцтвам Я. Валасюка — чуйны партнёр. Сваёй ігрой усіх удзельнікаў ансамбля натхняе кіраўнік.

Больш за палову тут — музыканты-салісты, кожнаму з якіх даецца магчымасць найбольш ярка прадэманстраваць сваё творчае "я". Пастаянна супрацоўнічаюць Мікалай Марэцкі і Іван Тамашэвіч. (Дарэчы, вельмі цікавы факт: калі сусветна вядомы віяланчэліст і дырыжор Мсціслаў Растраповіч выбіраў для сваіх оперных і балетных пастановак мандаліністаў, ведаючы ўсіх, тым не менш, запрасіў 4-х беларусаў, на вядучыя партыі — Яраслава Валасюка і Мікалая Марэцкага.) Іван Тамашэвіч на вечарыне прадставіў дзве прэм'еры — песні "Дзікая ружа" з вакальнага цыклу "Плач жураваў" А. Чыркуна на словы А. Скарынкіна ды "Сівыя бярозы" М. Ліцвіна на словы М. Ясеня. Слухачы настойліва патрабавалі таксама выканання знаёмых песень, рамансаў, і спявак ахвотна адгукаўся на іх просьбы. Прысутных уражвалі не толькі яго майстэрства, але і збалансаванасць гучання з ансамблем, трапятлівасць выканання.

Творчы вечар Яраслава Валасюка стаўся сапраўдным святам народнай музыкі, падчас якога слухачы змаглі адчуць шматгранную дзейнасць знешне сціплага музыканта, адзначыць яго творчую сталасць.

**Міхась СОЛАПАЎ,**

**прафесар Беларускай акадэміі музыкі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі**

студэнцкай сцэне ён менш хваляваўся.

Опернай студыі БАМ 64 гады. За гэты час з ёй у якасці кіраўнікоў працавалі Юрый Ужанцаў, Васіль Ганчарэнка, Сямён Штэйн і многія іншыя. Ставіліся "Травіята" Вердзі, "Яўгеній Анегін" Чайкоўскага, "Вяселле Фігара" В. Моцарта, "Царская нявеста" Рымскага-Корсакава, "Матухна Кураж" Картэса і інш. Многія цяперашнія артысты Беларускай оперы прайшлі праз гэтую студыю. У апошні час яна працуе ў складаных умовах — няма пастановачных сродкаў.

Сярод сённяшніх і ўчарашніх студэнтаў багата талентаў. Нямала і тых, каго запрасілі працаваць, напрыклад, у Марыінскі тэатр Пецярбурга. Не так даўно, паведамлу загадчык кафедры опернай падрыхтоўкі Міхаіл Зданевіч, зноў запрасілі сем чалавек... Для маладых гэта гонар. А Беларусь губляе самых лепшых оперных спевакоў! Каб жа ў нас маглі па-сапраўднаму цаніць таленты...

Даўно неабходна арганізаваць пры Нацыянальным тэатры оперы Беларусі падрыхтоўчае аддзяленне і для самых лепшых стварыць усё, дастойнае талентаў, як гэта робяць у Санкт-Пецярбургу... А вось дэкан вакальна-харавога факультэта Валерый Аўраменка шмат гадоў прапануе арганізаваць маладзёжны оперны тэатр на месцы паўразбуранага памяшкання Дома культуры будтрэста № 1. Але ж няма сродкаў. І каб у абласных гарадах адкрыць музычна-драматычныя тэатры, таксама патрэбныя сродкі. На будаўніцтва лядовых палацаў у многіх гарадах Беларусі грошы знайшлі! Значыць, пры жаданні кіраўнікоў нашай дзяржавы мары сучасных энтузіястаў опернага жанру таксама могуць здзейсніцца. Бо не сакрэт, што музычнае мастацтва дабратворна ўплывае на моладзь — нашу будучыню, ратуе душы. І важней за гэта няма нічога!

**Вера КРОЗ**

ІМПРЭЗЫ

# Госці на бенефісе

Опера "Тоска" Д. Пучыні на сцэне Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі мела некалькі пастановак. Цяперашняя ажыццёўлена адзінаццаць гадоў таму рэжысёрам Маргарытай Ізворска-Елізар'евай. Спектакль, які з поспехам ідзе ў Мінску, быў таксама паказаны ў гарадах Іспаніі, Партугаліі.

Нядаўні яго паказ прысвячаўся 25-годдзю творчай дзейнасці заслужанай артысткі Беларусі, лаўрэата Усесаюзнага конкурсу вакалістаў імя М. Глінкі Надзеі Губскай. За гады працы на сцэне яна стварыла незабыўныя лірычныя, лірыка-драматычныя партыі, сярод якіх Леанора, Амелія, каралева Елізавета, Аіда, Тоска, Батэрфляй, Таццяна, Ліза ў вядомых класічных операх.

У юбілейны вечар ёй пашанцавала з партнёрам, выканаўцам партыі начальніка паліцыі, барона Скарпіа Яўгенам Васілеўскім — заслужаным артыстам Літвы, салістам Нацыянальнага тэатра оперы і балета Літвы, ураджэнцам Віцебска. На здымку бяу і выканаўца партыі мастака Марыа Каварадосі Аляксандр Тузлукоў. Упершыню ў Мінску выступіў малады італьянскі дырыжор Марчэла Матадэлі. Паказаўшы добрае веданне матэрыялу, яскравы тэмперамент, ён з энтузіязмам, на адным подыху правёў спектакль.

Шлях да дырыжыравання быў у маэстра Матадэлі няпросты. Спачатку атрымаў дыплом Міланскай кансерваторыі па класе аргана і кампазіцыі, потым працягваў вучобу ў Вене. У 1997-м яго запрасілі ў венгерскі оперны, дзе ён дырыжыраваў спектаклямі "Сельскі гонар", "Паяцы" Р. Леанкавала, "Чарадзейная флейта", "Дон Жуан", "Тоска", "Набука", "Трубадур" і інш. Летам 2000 г. гастраляваў па Еўропе з операмі Д. Вердзі "Баль-маскарад", "Рыгалета" і гала-канцэртамі пры ўдзеле салістаў, у тым ліку і Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі. А ў верасні Марчэла Матадэлі дырыжыраваў у Будапешце операй Д. Пучыні "Турандот", з якой праз год выступіў у ЗША. Пазней кіраваў спектаклем "Рыгалета" ў Кейптаўне (Паўднёвая Афрыка), дзе з сёлетняга года працуе музычным дырэктарам сімфанічнага аркестра.

І госці, і гаспадары нашай опернай сцэны пастараліся зрабіць усё, каб спектакль "Тоска" прайшоў у святочнай атмасферы.

**Вера КРОЗ**

МАНАЛОГІ

# Каб свет быў неаднастайным

***Ёсць педагогі, да якіх на занятк і дзеці ідуць з радасцю, з нецярпеннем чакаючы чарговай сустрэчы з настаўнікам. Да такіх адносіцца загадчыца кабінета і кіраўнік гуртка "Архітэктурная графіка і макетаванне з асновамі камп'ютэрнай граматы" Мінскага Палаца дзяцей і моладзі Таццяна КАЗЛОЎСКАЯ.***

— Нарадзілася я ў Новалукомлі. У дзяцінстве марыла быць мастаком, калі падрасла, хацела быць настаўнікам. Вучылася ў Дзіцячай школе мастацтваў, дзе мы займаліся танцамі, гралі на розных музычных інструментах. Я адчувала, што мне падабаецца працаваць з дзецьмі. Увогуле, дзеці лічаць мяне добрай і вясёлай, але думаю, што я валявы чалавек. Магу доўга сумнявацца, прымервацца, але раблю заўсёды тое, што задумаю.

На вочы трапіўся архітэктурны факультэт Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума. Я паступіла. Пасля закончыла факультэт мастацкай графікі Віцебскага педагагічнага універсітэта.

На працу ў Палац прыйшла восем гадоў таму. Трэба сказаць, што да гэтага я ўжо была знаёма з Палацам — была тут на азнаямляльнай практыцы. І, вядома, здзівілася і вельмі ўзрадавалася, калі праз некалькі гадоў трапіла на працу ў Палац, які, у свой час гэтак уразіў мяне сваёй архітэктурай.

Цяпер вяду заняткі ў дзвюх групах. Мае вучні займаюцца чарчэннем, тэхнікай графікі, асвойваюць шрыфтавую грамату, прынцыпы і метады макетавання, робяць макеты, знаёмяцца з гісторыяй архітэктуры і яе накірункамі. Знаёмяцца з рэстаўрацыяй, планіроўкай, інтэр'ерам, ландшафтнай архітэктурай.

Увогуле, мэта правядзення маіх заняткаў — развіццё творчага мыслення ў дзяцей, іх творчай ініцыятывы. Я хачу навучыць іх лагічна мысліць і, вядома, адна з галоўных мэтаў — падрыхтоўка спецыялістаў у гэтай галіне. Мы ходзім на экскурсіі ў Палац мастацтваў, на розныя выставы. Імкнуся паказаць дзецям работы прафесіяналаў. Праводзім творчыя сустрэчы з выпускнікамі гуртка, унутрыгуртковыя гульні — вiктарыны, конкурсы.

Я стараюся стварыць у гуртку атмасферу дружнай сям'і. Многія мае вучні жывуць далёка ад палаца і далёка адзін ад аднаго, а гурток — адзінае іх месца сустрэчы. І тыя, каму дома не хапае цяпла і любові, дружбы, знаходзяць усё гэта тут, сярод сваіх равеснікаў.

Напачатку гуртkoўцам даецца стандартная тэма — "Малапавярховы жылы дом". Яны "будуюць" такі дом, у якім хацелі б жыць. Робяць ягоны макет у любым стылі, галоўнае — гэта іх стыль. Хачу, каб у дзіцяці выпрацаваўся свой уласны погляд. У яго павінен быць уласны пункт гледжання, архітэктура — творчасць без межаў.

Другая работа, якую прапаноўваю зрабіць, — "Будынак грамадскага карыстання". Гэта могуць быць культавыя пабудовы або сучасныя будынкі, што існуюць або выдуманыя. Ну, а потым ужо ідзе аўтарскі праект з распрацоўкай планаў і фасадаў, уключаючы набор памяшканняў.

У маёй працы няма аднастайнасці. Кожныя заняткі прыносяць штосьці новае, цікавае, неардынарнае. Дзеці ў сваёй творчасці непрадказальныя. А адрозніваецца мая работа ад іншых, думаю, тым, што ў нас з дзецьмі неабмежаваная свабода пошуку.

Нядаўна ў палацы праходзіла VIII гарадская выстава тэхнічнай творчасці дзяцей. Для маіх вучняў яна ўжо чацвёртая. На ёй былі прадстаўлены чатырнаццаць работ. На ўсіх чатырох выставах мае вучні заўсёды займалі прызавыя месцы. На гэтай выставе я вылучыла б "Баярскі церам" і "Царквуза́ніцу" Кірыла Сталяра, макет сярэдневечнага замка Сашы Навасельскага, над якім ён працаваў два гады. Кірыл і Саша займаюцца ў мяне ўжо чатыры гады.

Мой былы вучань Дзіма Савельеў — рэдактар газеты "День Пик". Ён удзельнік гарадскога конкурсу "Родны мой горад". А Дзіма Хадоркін закончыў мастацкі факультэт архітэктуры, але займаецца дызайнам.

Неяк мы праводзілі семінар "Экалагічна чысты праект", на якім падаваліся вельмі цікавыя ідэі. Мой былы вучань Дзіма Тамашук распрацаваў будынак блізкай будучыні з міні-фабрыкай па перапрацоўцы другаснай сыравіны ў цокальным паверсе, і з галерэяй раслін на верхнім. За такімі маладымі хлопцамі будучыня!

Вучу іх ашчадна ставіцца да помнікаў архітэктуры і мне вельмі хочацца, каб у будучым свет быў цудоўным і неаднастайным!

**Гутарыў Андрэй ШВЕЦ**

*На здымку: Тацццяна КАЗЛОЎСКАЯ са сваімі вучнямі Вольгай ЛАКЦІЁНАВАЙ, Яраславам МАКАРАВЫМ, Толем ШУРАВЫМ і Антонам ЛЫГІНЫМ.*



***Сярод разнастайных крыніц вывучэння біяграфіі пісьменніка, асаблівае месца займаюць дарчыя надпісы. У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа сабрана і захоўваецца 87 дарчых надпісаў песняра. Напісаныя прыгожым выразным почыркам, заўсёды дакладна датаваныя яны з'яўляюцца каштоўнейшым матэрыялам для вывучэння творчых і сяброўскіх сувязей Якуба Коласа. Усе надпісы зроблены пяром, часам алоўкам. Колас ніколі не пісаў аўтаручкай.***

***Да 120-ай гадавіны з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа ў доме песняра зноў адкрыта незвычайная выстава. Праз пяць гадоў пасля першага паказа выстава "Інскрыпты Якуба Коласа" атрымала сваё другое экспазіцыйнае жыццё. Дарчыя надпісы як частка рукапіснай спадчыны пісьменніка нясуць яго думку, помняць дотык яго рукі. Таму і сёння знаёмства з выставай "Інскрыпты Якуба Коласа", якая не губляе сваёй актуальнасці і прыцягальнасці, будзе цікавай і павучальнай для яе наведвальнікаў і прыхільнікаў Коласава слова.***

***Выстава дапоўнена матэрыяламі з асабістых архіваў сыноў Якуба Коласа, старэйшага ўнука Якуба Коласа — Сяргея Міцкевіча.***

***Гэтая публікацыя з'яўляецца спробай пракаменціраваць некаторыя дарчыя надпісы Якуба Коласа, з якімі знаёміць наша выстава.***

# Інскрыпты Якуба Коласа

ДА 120-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

Адны з самых каштоўных экспанатаў выставы — кнігі з дарчымі надпісамі блізкім і родным: жонцы Марусі, сыну Данілу, нявестцы Наталлі, унуку Сяргею, свату Янку Маўру, стрыечнаму дзядзьку Ігнату Юр'евічу Міцкевічу. Іх гарманічна дапаўняюць фотаздымкі Якуба Коласа з роднымі. На адной з кніг чытаем: "Найвярнейшаму другу Марусі. Якуб Колас. 31 мая 1943." (на кн. Я. Колас "Суд у лесе", выд. ЦК КП(б)Б, 1943).

Шмат гадоў Колас быў у шчырых сямейных, сяброўскіх адносінах з роднымі братамі сваёй жонкі — Аляксандрам, Іванам, Міхаілам Каменскімі. Сям'я М. Дз. Каменскага дала Коласу прытулак у Клязьме ў гады ваеннага ліхалецця. Часта сустракаліся і да вайны. Аб гэтым сведчыць фотаздымак 1932 года: Міхаіл Дзмітрыевіч і яго старэйшая дачка Вольга ў гасцях у Міцкевічаў у Мінску.

На кнізе Я. Коласа "Новая земля" (Москва, 1934) дарчы надпіс паэта пляменніцы Вользе Каменскай: "Милой, симпатичнейшей Ольге Михайловне, на добрую память от дядьки Якуба Коласа. На память. Москва. 27. VIII. 1934 г." Тут жа фотаздымак Канстанціна Міхайлавіча з сынам Міхасём, 1930 года, з дарчым надпісам Вользе.

Экспануецца ліст Я. Коласа да Вольгі Каменскай, у якім паэт заклапочаны лёсам швагра Аляксандра Дзмітрыевіча Каменскага, рэпрэсіраванага ў 1938 годзе (арыгінал ліста знаходзіцца ў сям'і Каменскіх у Маскве, друкуецца ўпершыню, на мове арыгінала):

"Дорогая Олечка!

Надеюсь, что ты уже здорова. Настали такие чудесные дни, что болеть сейчас просто грешно. Решил написать тебе несколько слов. Виделся с Б. А. Он хлопочет, старается. Но с делом дяди Саши какая-то заминка из-за Минска. Минск представил не всё дело. Словом надо по приезде в Минск выяснить, в чем тут сила. Я вторично подал здесь заявление с просьбой ускорить пересмотр и сообщить результаты мне. Б. А. будет тебе звонить. Сегодня еду домой. Билет имею.

Написал бы ещё немного, но перо неважное, поэтому целую тебя и ставлю точку. К. М. 18.IV.1940 г."

Восем кніжак з фондавай калекцыі належалі малодшай сястры паэта Алене Міхайлаўне Лойцы. Яна ўспамінала: "У 1913 годзе я выйшла замуж за Лойку Міхаіла Іванавіча (родам з Мікалаеўшчыны). Ён адслужыў армію, жылося бедна, не было куды падацца. Дык мы ўзялі і паехалі ў Данбас, у Горлаўку. Там жыла старэйшая мая сястра Міхаліна... У 1926 годзе Марыя Дзмітрыеўна запрасіла на Коласаў юбілей... Была яшчэ два разы ў Коласа да вайны — у 1939 і 1940 гадах... Апошні раз мы наведалі Якуба Коласа недзе за год да яго смерці..." (Зб. Успаміны пра Я. Коласа. Мн.: 1982, с. 188—192). Да гэтага часу і адносяцца падараваныя Алене Міхайлаўне кнігі. Надпісы на іх простыя і лаканічныя, адчуваецца цеплыня і душэўнасць, братняя любоў да сваёй малодшай сястры.

"Дарагой сястрыцы Лене на добрую памяць ад брата. Якуб Колас. 07. 01. 1928 г. Мінск" — чытаем на першым выданні "У глыбі Палесся". "На памяць сястры Алене ад Якуба Коласа. 14. 02. 30 г." — надпіс зроблены на першым томе Збору твораў Коласа, выдадзеным у 1928 годзе. Гасціла Алена Міхайлаўна ў брата і ў 1936 годзе. Аб гэтым сведчаць аднолькавыя аўтографы на дзвюх кнігах: "Выбраныя творы", том першы і "Міхасёвы прыгоды" — "Дарагой сястры Лене ад Якуба Коласа. 20. III. 1936 г."

У 1938 годзе ў перакладзе на рускую мову выходзіць п'еса Якуба Коласа "Вайна вайне". Адзін экземпляр новай кнігі аўтар падпісвае сястры і яе мужу: "Дорогим Лене и Михаилу Лойко. Минск. 25. 03. 38".

З пачуццём хвалявання бярэш у рукі кнігі, надпісаныя Якубам Коласам сябрам і паплечнікам па рэвалюцыйнай маладосці. Адна з іх — падарунак Якаву Сямёнавічу Бязмену. Скончыўшы ў 1903 годзе Навагрудскія настаўніцкія курсы, ён настаўнічаў у Туміловічах на Барысаўшчыне. Меў уплыў на рэвалюцыйныя настаўніцкі рух Мінскай губерні. За гэта быў асуджаны царскім судом. Тры гады разам з Коласам прасядзелі яны ў адной камеры Мінскага астрога, разам дзялілі ўсе цяжкасці турэмнага жыцця.

У сваім артыкуле "Васемнаццатая гадавіна" (1924 г.), прысвечаным першаму рэвалюцыйнаму выступленню настаўніцтва на Беларусі, Якуб Колас называе свайго сябра "выдатным рэвалюцыянерам". У тым жа 1924 годзе паэт наведвае свайго сябра ў Растове-на-Доне. А праз год ён надпісвае яму кнігу "Першыя крокі": "Дарагому другу-сябру Якаву Сямёнавічу Бязмену на памяць ад Якуба Коласа. 12. 01. 25 г. г. Менск".

Колас вельмі паважаў і цаніў свайго сябра. Я. С. Бязмен паслужыў прататыпам вобраза Тургая ў трылогіі "На ростанях".

На выставе асабліва вызначаюцца дарчыя надпісы Якуба Коласа сябрам, калегам і знаёмым па 1920-х гадах. Шмат з іх загінула ў жудасныя 1930-я, многія былі рэпрэсіраваныя і пазней жылі далёка ад Бацькаўшчыны. Але душою і сэрцам былі адданыя роднай Беларусі. Гэтыя людзі, іх сем'і захавалі і перадалі ў Коласаўскі музей бясцэнныя для нас і дарагія для іх кнігі і фотаздымкі.

"На памяць дарагому другу Алесю Сянкевічу ад Я. Коласа. К. Міцкевіч. 26.X.1921 года" (на фотаздымку). Аляксандр Антонавіч Сянкевіч (1884—1938) — зямляк і сябар Я. Коласа, арганізатар нелегальнага настаўніцкага з'езда ў Мікалаеўшчыне, дзяржаўны і партыйны дзеяч БССР. Рэпрэсіраваны ў 1938 г. Расстраляны.

"Шаноўнаму прафесару Пятру Афанасавічу Бузуку. Якуб Колас. 24. XI. 1925 г. г. Менск" (на кн. Я. Колас "Сымон-музыка", 1925 г.). Пётр Апанасавіч Бузук (1891—1938) — мовазнавец, прафесар, з 1925 г. працаваў у Інбелкульце, пазней — у АН БССР. Рэпрэсіраваны ў 1934 г. Расстраляны.

"Нашай беларускай надзеі У. Чаржынскаму на памяць ад Якуба Коласа. 23. V 1924 г. Менск, Кухельпіва" (на фотаздымку). "выдатнейшаму беларускаму літаратурнаму крытыку У. Чаржынскаму ад аўтара. Менск. 30. III. 1925г." (на кн. Тарас Гушча "У ціхай вадзе". Мн: 1925). Уладзіслаў Вікенцьевіч Чаржынскі (1897—) — літаратуразнавец, крытык, працаваў у Інбелкульце, АН БССР. Рэпрэсіраваны. Жыў у Казані.

"Дарагому дзядзьку Я. Дылу на памяць. Якуб Колас. 17. XI.24 г. тэатр, лёжа 6. 1-ы спектакль. Муз. Тэхнікум" (на фотаздымку 1901 г.). Язэп Лявонавіч Дыла (1880—1973) — беларускі пісьменнік, драматург, крытык, грамадскі дзеяч, працаваў у Інбелкульце. Рэпрэсіраваны ў 1930 г. Жыў у Саратаве. Пазнаёміўся з Якубам Коласам ў 1921 г. Я. Колас і Я. Дыла разам працавалі на настаўніцкіх курсах у Слуцку. Я. Дыла напісаў успаміны пра Я. Коласа.

"На добрую памяць дарагому брату-беларусу ад Якуба Коласа. 13.X.1922 г. г. Менск" (на фотаздымку 1921 г. надпіс М. І. Грамыку). Міхаіл Іванавіч Грамыка (1885—1969) — вучоны, пісьменнік, працаваў у Белпедтэхнікуме, Інбелкульце, АН БССР. Рэпрэсіраваны ў 1930 г. Жыў на высылцы, пасля ў Маскве.








"На добрую памяць цётцы Алесі і дзядзьку Аркадзю Смолічам ад Якуба Коласа. Менск. 11.V.1924 г." (на фотаздымку). Аркадзь Антонавіч Смоліч (1891—1938) — вучоны, географ, прафесар, працаваў у Інбелкульце, БДУ і АН БССР. Рэпрэсіраваны ў 1930 г. Расстраляны.

Аляксандра Ігнацьеўна Смоліч, жонка А. А. Смоліча, настаўніца, жыла ў Омску, перапісвалася з Якубам Коласам пасля вайны. На стэндзе — яе фотаздымак 1950 года з асабістага архіва паэта і дарчы надпіс Коласа на сваім фотаздымку, зроблены ў 1928 годзе.

"Глыбокапаважаным і дарагім С. С. Шамардзіной і Я. А. Адамовічу на добрую памяць ад шчырага сэрца. Якуб Колас. Мінск. 8. I.1928 г." (на кн. "У палескай глушы" і "У глыбі Палесся"). Язэп Аляксандравіч Адамовіч (1897—1937) — дзяржаўны дзеяч БССР, у 1924-27 гг. старшыня СНК БССР; у абстаноўцы масавых рэпрэсій скончыў жыццё самагубствам.

Соф'я Сяргееўна Шамардзіна (1894—1980), жонка Я. А. Адамовіча, у 1920-я гады старшыня Галоўпалітасветы БССР. У сваіх успамінах пра Якуба Коласа яна пісала: "Адносіны з такім чалавекам, як ён, узбагачаюць кожнага... Язэп Адамовіч вельмі высока цаніў Якуба Коласа і беражліва захоўваў яго кнігі з дарчымі надпісамі, у сваіх дакладах і артыкулах не раз гаварыў аб яго дзейнасці і заслугах". (С. Шамардзіна. "Я рада, што ведала яго" — у зб. "У сэрцы народным", Мн: 1967, с. 173—177).

Шчырыя сяброўскія адносіны склаліся тады ў Якуба Коласа з братамі Гарэцкімі. На фотаздымку Я. Коласа 1925 года строгі лаканічны надпіс: "Дарагому Максіму Іванавічу Гарэцкаму. Якуб Колас. 26.IV1925 г." Максім Іванавіч Гарэцкі (1893—1938) — беларускі пісьменнік, літаратуразнаўца, працаваў у БДУ, Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, Інбелкульце, АН БССР. Рэпрэсіраваны ў 1930 г. Расстраляны.

Малодшы брат Максіма Гарэцкага — Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі (1900—1988), вучоны, геолаг, акадэмік — пазнаёміўся з Якубам Коласам яшчэ ў 1924 годзе, часта сустракаўся з паэтам у 1927—30-я гады падчас працы ў Інбелкульце і АН БССР. У 1930-м годзе Гаўрыла Іванавіч быў рэпрэсіраваны. Доўгія гады ён жыў і працаваў у Расіі. Якуб Колас прыклаў шмат намаганняў, каб дапамагчы выдатнаму беларускаму вучонаму Г. І. Гарэцкаму вярнуцца на Беларусь і працаваць на яе карысць. У ваенныя і пасляваенныя гады яны перапісваліся, некалькі разоў сустракаліся. Цяпер у музеі песняра захоўваюцца яго лісты да сям'і Гарэцкіх, а таксама кніга са сціплым надпісам:

*(Заканчэнне на стар. 14 — 15)*

## “Сэрца Эўропы” б’ецца ў Мінску

**Беларуская прэса дастаткова асвятляла з’яўленне арыгінальнага музычнага праекта — беларуска-польскага зборніка папулярнай і рок-музыкі “Сэрца Эўропы in rock”, які ажыццяўляецца моладзевай ініцыятывай BMAgroup пры падтрымцы Польскага**




**інстытута ў Мінску. Выданне змяшчае творы на беларускай і польскай мовах у выкананні гуртоў з Беларусі і Польшчы. Пры чым, часцяком беларусы спяваюць па-польску, (гурты “Крама”, “NRM”), а палякі — па-беларуску (беластоцкія гурты “Rima”, “Step”)...**

**І вось праект набыў сваю “жывую” выяву — у парк-клубе “Мінск” не так даўно адбылася прэзентацыя першага беларуска-польскага кампакт-дыска “Сэрца Эўропы in rock” з удзелам зорак беларускай і польскай рок-музыкі. Адкрыла прэзентацыйны сэт у парк-клубе “Мінск” сёлетняя рок-княэёўна, вакалістка гурта “Impett” Дана Жвалік, якая прадставіла творы, разлічаныя на прасоўванне нашай музыкі на расійскі музычны рынак. Што ж, камерцыя ў мастацтве таксама мае права на існаванне. Але ці можна з такой музыкай разлічваць на поспех у суседняй краіне — прызнаным цэнтры неабцяжаранай папсы?**

**Зусім неадназначнае ўражанне пакінуў гурт “Mo.re”, больш вядомы слухачам як “Безь білета”. Відавочна, музыкі пачынаюць блытацца ў эксперыментах, з кан’юнктурных памкненняў хапаюцца за адно, адкідваючы тое, што лічаць непатрэбным для дасягнення камерцыйнага поспеху. На жаль, усе гэтыя хістанні размываюць вобраз гэтага арыгінальнага беларускага гурта, адштурхоўваюць ад яго патэнцыяльных прыхільнікаў...**

**Своеасаблівым сюрпрызам для беларускіх аматараў рок-н-рола стала сапраўдная матэрыялізацыя вядомага віртуальнага гурта “Жыгімонт ВАЗА”, які стаўся магчымым з удзелам музыкаў гурта “Зьніч” ды рэпера Алеся Памідорава, які ў сваёй манеры праспяваў вядомыя кампазіцыі аўтарства лідэра “Жыгімонта ВАЗЫ” А. Скрыпнічэнкі.**

**Сапраўднай сенсацыяй гэтай прэзентацыі можна назваць выступленне знакамітай Касі Камоцкай і яе гурта “Новае Неба” з удзелам новага гітарыста Зміцера. Шчыра кажучы, такой экспрэсіўнай выканаўчай манеры мы даўно ўжо не бачылі ад беларускіх вакалістак! Выконваючы свае знакамітыя хіты “Цэпеліны”, “Гэта — мы!”, “Калыханку для краіны”, новую песню “Электарат”, Кася і яе гурт проста ўскалыхнулі глядзельную залу эмацыянальнасцю ды экспрэсіяй сваёй музыкі!**

**Польскія беларусы з Беласточчыны — гурт “Rima” прадставілі слухачам сённяшні стан беларускамоўнай рок-музыкі ў Польшчы. І трэба адзначыць, што гэтая музыка прыйшлася даспадобы тутэйшай публіцы, а для некаторых была своеасаблівым адкрыццём таго факта, што цікавыя беларускія гурты ёсць і за Бугам.**

**Завяршыў жа прэзентацыю новага беларуска-польскага праекта “Сэрца Эўропы in rock” лідэр беларускага рытм-энд-блюза — гурт “Крама”, які быў прадстаўлены на гэтым праекце іх лепшай жартоўнай кампазіцыяй “Польскі бізнес”. Гэтая песня была прынятая на “ўра” усімі ўдзельнікамі прэзентацыі ў парк-клубе “Мінск”. На завяршэнне “крамчукі” ад душы парадавалі слухачоў і лепшымі песнямі са свайго новага альбома “Хавайся ў бульбу!”**

**Альбом “Сэрца Эўропы in rock”, які можна было набыць падчас прэзэнтацыі, у той вечар стаў жаданым набыткам многіх беларускіх меламанаў, што трапілі на гэтую музычную вечарыну.**

Анатоль **МЯЛЬГУЙ**

# Інскрыпты Якуба Коласа

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)*

“Дарагім Гаўрыле і Ларысе Гарэцкім на памяць. Якуб Колас. 17 верасня 1955 г.” (на кн. “На ростанях”, Мн: 1955, т. 1) .

Гарэцкія змаглі вярнуцца на Бацькаўшчыну толькі ў канцы 1960-х гадоў, праз 13 гадоў пасля смерці Якуба Коласа. І сёння цёплыя сяброўскія адносіны звязваюць сем’і сыноў Коласа і Гарэцкіх і іх нашчадкаў.

Асобна варта сказаць пра кнігу Якуба Коласа “Новая зямля” (3-е выданне, 1934 г.), на якой зроблены надпіс: “Дарагому Васілю Карпавічу Шчарбакову. У вольныя часіны прачытайце. Якуб Колас. 14. VI. 1934 г.”. В. К. Шчарбакоў (1898—1938) — вучоны, гісторык, віцэ-прэзідэнт АН БССР у 1931—35 гг. Дык колькі ж заставалася тых пажаданых “вольных часін”, калі ў 1937 годзе В. К. Шчарбакоў быў незаконна арыштаваны і ў 1938 годзе расстраляны?

Кніга ж мела незвычайны лёс. У час Вялікай Айчыннай вайны яна трапіла ў Германію. У 1945 г. была знойдзена вайскоўцам В. І. Яськовым у адной з прыватных бібліятэк у пакінутым немцамі доме ў прадмесці Берліна, вернута на Радзіму і перададзена ў музей паэта.

Не меншую цікавасць уяўляюць дарчыя надпісы пазнейшага перыяду. На фотаздымку “Якуб Колас. г. Масква, гасцініца “Масква”, 1949 г.” дарчы надпіс тагачаснаму сакратару ЦК КПБ Міхаілу Васільевічу Зіменіну пачынаецца такім чынам: “Сам не ведаю, як, дзе і што. Я. К.”, а працягваецца на адвароце: “Мілы, дарагі і глыбокапаважаны М. В.! Пасылаю Вам на памяць сякія-такія фатаграфіі. Не ў фотаграфіях справа — Вы дастойны таго, каб Вас любіць, паважаць, як дастойнага сына беларускага народа. Якуб Колас. 29.XI.1949 г.”

Ташкенцкі перыяд жыцця Якуба Коласа адмечаны сяброўствам з Сяргеем Міхайлавічам Ліпатавым, вучоным, хімікам, віцэ-прэзідэнтам АН БССР у 1941—44 гг. На кнізе “Адпомсцім” (выд. газеты “Савецкая Беларусь”, 1942) чытаем: “Дорогому Сергею Михайловичу Липатову на память от Якуба Коласа. 21. VIII.1942 г. Ташкент”.

Работа пісьменніка заўсёды звязана з выдавецкай дзейнасцю, з людзьмі, якія працуюць у гэтай галіне. Таму, можа, невыпадкова на кнізе Якуба Коласа “На ростанях” (Дзяржвыдавецтва БССР, Мн: 1955) пакінуты надпіс дырэктару Белдзяржвыдавецтва ў 1950-я гады: “Дарагому, скупому, але разумнаму Захару Пятровічу Матузаву на добрую памяць. Якуб Колас. 1. VIII. 1955 г.” Захоўваецца ў фондах музея і кніга паэта “Новая зямля” (Белдзяржвыдавецтва, Мн: 1927, выд. 2.е) з дарчым надпісам супрацоўніцы выдавецтва Яўгеніі Маісееўне Заранкінай: “Мілай дзяўчынцы Заранцы ад Я. Коласа. 25.XI.-“.

У пачатку 1949 года Якуб Колас атрымаў ліст з Азербайджана: “Уважаемый Константин Михайлович! С детства я привык к Вашим произведениям (особенно стихотворениям), многие из них остались в моей памяти и наверное сохранятся до самой кончины... Во время войны всё, что я имел, в том числе и личная библиотека, уничтожены фашистскими захватчиками. После войны я неоднократно делал попытку приобрести полное собрание Ваших сочинений на родном белорусском языке, но все мои попытки остались безрезультатными. Вынужден обратиться к Вам с просьбой оказать помощь хотя бы советом, где и каким порядком можно их приобрести?.. Уважающий Вас капитан Лопатин”.

16 студзеня 1949 года Колас узяў у рукі кнігу “Вершы і паэмы” і зрабіў надпіс: “Фёдору Михайловичу Лопатину на память. Якуб Колас. 16. I. 1949 г.”.

У 1972 годзе кніга вярнулася ў Коласаў дом. Да кнігі прыклеены некралог, які быў надрукаваны ў газеце “Пионерская правда” ад 17.08.56 г. Радкі “писатель был человек благородным, скромным, очень внимательным и чутким к людям” падкрэслены і рукою Лапаціна напісана: “В этом я убедился лично”.

Яшчэ адзін аўтограф — сведчанне ўважлівых адносін Якуба Коласа да людзей. У 1949 годзе Колас надпісвае і пасылае на Харкаўшчыну ў невялікі гарадок Залачоў кнігу “Рыбакова хата” дзесяцігадоваму хлопчыку Толю Качалоўскаму. Пазней А. Я. Качалоўскі прыгадваў: “Это было в 1949 году. Я по радио услышал небольшой отрывок из поэмы Якуба Коласа “Рыбакова хата”, я начал искать эту книгу, но нигде не смог найти. В календаре я увидел день рождения писателя и послал ему поздравление, на которое незамедля получил ответ и книгу “Рыбакова хата”. Зараз кніга захоўваецца ў калекцыі дароўных надпісаў музея песняра, і мы чытаем Коласаў надпіс: “Толю Качалоўскаму на памяць. Якуб Колас. 21.XI.1949”.

Адносіны да дзяцей у Коласа былі надзвычай цёплыя. У 1920-я гады, калі Колас вярнуўся з Куршчыны ў Мінск, наладзіліся сяброўскія адносіны з сям’ёй Аляксандра Антонавіча Сянкевіча. Сябравалі сем’ямі. Канстанцін Міхайлавіч і Марыя Дзмітрыеўна вельмі любілі пацешных сыноў Алеся Сянкевіча — Антона і Георгія (Тосіка і Жоржыка) і пяшчотна іх называлі Тосікамі. У 1925 г. Якуб Колас дорыць сынам А. А. Сянкевіча дзве кнігі, якія толькі што выйшлі з друку: “Крок за крокам” — “Жоржыку Сянкевічу ад Якуба Коласа. 13.IV.25г.” і зборнік “На рубяжы” — “Тосіку і Жоржыку Сянкевічам ад Якуба Коласа, Мінск. 16.VI.25г.” На тытульных лістах кніг — экслібрыс братоў Сянкевічаў — хлопчык на гімнастычным кані.

Свет Якуба Коласа — свет дабрыні, прыгажосці і высокай маральнасці. Гэта пацвярджаецца яго адносінамі да людзей. Яшчэ адна старонка выставы.

“Юрку Лёсіку на памяць ад аўтара. 8.II.1934”. Гэты надпіс зрабіў Якуб Колас на тытульным лісце толькі што выйшаўшай з друку кнігі “Дрыгва” і падараваў яе свайму стрыечнаму брату, старэйшаму ўнуку Ядзвігіна Ш., сыну Ванды Лявіцкай і Язэпа Лёсіка. У 30-я гады, калі хваля рэпрэсій затапіла Беларусь, сям’я Лёсікаў адчула гэта адна з першых. Язэп Лёсік — “пракурор беларускай мовы” (выказванне Міхайлы Грамыкі), найбольш яркі дзеяч руху за ідэю адраджэння і незалежнасці Бацькаўшчыны апынуўся ў цэнтры камуністычнай крытыкі. Неўзабаве быў арыштаваны, сям’я вымушана была пакінуць родную Беларусь і як выпала трагічным лёсам Лёсікам — назаўсёды. У Мінску застаўся на кароткі час, каб закончыць сямігодку, адзін толькі Юрка. Сям’я Якуба Коласа ўзяла пад сваю апеку сына “нацдэма” Лёсіка. Па тым часе гэта быў высокі грамадзянскі подзвіг, высакародны ўчынак сям’і Міцкевічаў.

Пра Коласа, чалавека чулай душы, гавораць нам перапіска паэта з дзяўчынай Верай Мінінай — жыхаркай вёскі Акінчыцы. Інвалід з дзяцінства Вера з адкрытым сэрцам звярнулася па дапамогу да славутага земляка. Колас быў для яе тым промнем надзеі і святла, які даваў ёй сілы жыць і змагацца з хваробай. У пісьме да Коласа ад 22.03.55г. Вера пісала: “как и какими словами Вас благодарить за то, что Вы не забываете меня несчастную. Честное слово не знаю, какую благодарность написать...” Дзякуючы клопатам Якуба Коласа, Веры ўдалося набыць інвалідную каляску, пераехаць у Мінск, набыць прафесію манікюршы, атрымаць кватэру. У адным з пісем да Веры Мінінай Колас пасылае сваю фотаграфію з дарчым надпісам: “Дорогой Вере Михайловне Мининой на память. Якуб Колас. 17.IV.1954 г.”.

Ёсць на выставе і старонка дарчых надпісаў паэта, якія адрасаваны знаёмым жанчынам. Трэба сказаць, што да жанчын Колас ставіўся з павагай і пашанай. А ліра Коласа заўсёды клікала да дабра, і нават у адмоўных вобразах ён знаходзіў нешта чалавечае. Таму ў творах паэта мы не знойдзем вобраза жанчыны з адмоўнымі рысамі характару, а воблік Коласавых гераінь заўсёды — прыгожы.

У жыцці Колас сябраваў з многімі жанчынамі.

Летам 1907 года ў Вільні на Завальнай вуліцы ў рэдакцыі “Нашай нівы” Аляксандр Уласаў пазнаёміў маладога паэта Якуба Коласа з настаўніцай Аляксандрай Георгіеўнай Рамановіч.

“...Пасля мы часам спатыкаліся — ён заходзіў да нас, а калі я выехала з Вільні, мы пачалі перапіску, якая цягнулася да 1917 года. За гэтыя 10 гадоў мы некалькі разоў бачыліся з Коласам у Вільні і ў Мінску”, — успамінала Аляксандра Рамановіч (Зб. “У сэрцы народным”, Мн: 1967, с 169—172).

5 студзеня 1908 года вечарам у альбом А. Рамановіч Колас піша лірычны верш:

***“Маленькая лазейка в***
***собственную душу.***
***Сладкие думы,***
***тихие грёзы,***
***Лучшие чувства печальной души!***
***Вы не излились,***
***как теплые слёзы,***
***Вы затаились, как искры в глуши.***
***Вы в моём сердце***
***нежданно проснулись,***
***И также нежданно в душе умерли;***
***Вы пошлых ушей***
***ничьих не коснулись,***
***И вас не коснулась вся пошлость земли.***
***Сладкие думы, тихие грёзы,***
***Лучшие чувства***
***души одинокой***
***Вы не излились, как жгучие слёзы.***
***Вы сохранились в могиле глубокой.***

**Бывший человек, а ныне кандидат в четвертые роты. (Лидер огарческой фракции)”**

22 сакавіка 1913 года Колас дарыць А. Рамановіч сваю фотаграфію. На адваротным баку дарачны надпіс: “На память Александре Геогиевне Романович.

***Не шумі ты лес высокі,***
***Сумных песень не сьпявай,***
***Дзён даўнейшых, дзён далёкіх***
***Ты мне, лес, не ўспамінай.***

**Якуб КОЛАС.**
**Пінск. 22.III.1913 г.”**

Светлым успамінам адзначаны дарчы надпіс на фотаздымку, які быў падараваны паэтам беларускай актрысе Паўліне Мядзёлцы: “Дарагой, вясёлай і мілай Паўлінцы на добрую памяць. Якуб Колас. 27.IV1927г.”

З прыемнасцю чытаюцца і наступныя дароўныя надпісы Якуба Коласа да знаёмых жанчын. Са стэнда глядзіць на нас прыгажуня Соф’я Лук’яновіч — настаўніца біялогіі СШ 12 г. Мінска, знаёмая Я. Коласа з 1946 года. Побач падаюцца тры лісты паэта да С. Лук’яновіч. Гэта менавіта Соф’і Лук’яновіч у адказ на яе прызнанне ў пачуццях да паэта, уражаны Колас адказваў: “Не ведаю, дарагі мой незнаёмы друг Зося, ці чыталі Вы 10 запаведзей. У другой запаведзі гаворыцца: “Не сотвори себе кумира”. Не буду прыводзіць гэту запаведзь, бо і забыў яе...” (з ліста ад 20.XII.1946г.).

Колас падараваў Соф’і Лук’яновіч фотаздымак з лаканічным надпісам: “Зосі Лук’яновіч на памяць. Я. Колас”.

Варта прыпомніць і дзесяцігадовае сяброўства паэта з Аляксандрай Антонаўнай Кетлер, якая працавала галоўным бухгалтарам газеты "Советская Белоруссия". У фондах музея захоўваецца 160 адзінак пісем Якуба Коласа да Аляксандры Кетлер. У пісьмах перадаецца ўнутраны свет паэта, яго настрой, перажыванні, пакуты... 30 лірычных вершаў прысвяціў паэт Алесі Кетлер, дзе перададзены чыстыя, высакародныя, часам узнёслыя, пачуцці да гэтага чалавека. У вершах і лістах Колас часта называў яе "Алеся-Былінка". У сяброўстве ён быў шчырым і адкрытым. Гэта быў час, калі Колас адчуваў скруху па нядаўна памерлай любімай жонцы, ведаў, што ўжо ніколі не адчыніць дзверы роднага дому сын Юрка. Ён — паэт-філосаф, настаўнік нацыі, як ніхто прачула і глыбока разумеў свой народ... Душа яго балела і шукала выйсця, шукала суразмоўцу: "Мне просто нужен друг, нужен человек, который бы, ну, хоть снисходительно послушал бы добродушно мою болтовню. Но я не болтун: я просто заброшенный одинокий человек, для которого нужно солнце, тепло и человеческое участие..."(з ліста Я. Коласа да А. А. Кетлер ад 14.09.47 г., друкуецца ўпершыню).

За гады сяброўства Колас зрабіў некалькі дарчых надпісаў на кнігах і фотаздымках. Вось некаторыя з іх: "Добраму другу, мілай жанчыне, дарагой Алесі на памяць ад Якуба Коласа. 4.І.1948г. Вілла Коласа" ["Віллай" Колас называў Пухаўшчыну. — **аўт. заўвага.**]; "Дарагому другу, да канца маіх дзён, любімай Алесі. 22.ІІІ.1951".

У пасляваенныя гады Якуб Колас часта хварэў на запаленне лёгкіх, лячыўся ў стацыянары, якім у 1944—49 гг. загадваў доктар Давід Рыгоравіч Абрамовіч. Яму падараваў Колас сваю кнігу "Рыбакова хата" з надпісам: "Дорогому Давиду Григорьевичу Абрамовичу. "Да не услышит ухо Ваше легочных хрипов". Якуб Колас. 30.Х.1948г." Тады ж Колас прысвяціў верш "Маім цаліцелям" дактарам Абрамовічу і Міліцы Іванаўне Дашкевіч.

З успамінаў Д. Абрамовіча: "З усім персаналам бальніцы Якуб Колас трымаў сябе вельмі проста і сціпла. Мы ніколі не заўважалі ў яго зласлівасці, прыдзірлівасці або павышанай патрабавальнасці. Заўсёды спакойны і ветлівы, ён горача дзякаваў абслугоўваючаму персаналу за самую маленькую паслугу. А калі пакідаў стацыянар, выносіў усім пісьмовую падзяку". (Д. Абрамовіч. Узор чалавечай мудрасці. — У зб. "У сэрцы народным", Мн: 1967, с. 241—243).

Упершыню можна пазнаёміцца з рукапісам Я. Коласа, дзе жартаўліва скарочаны імёны дактароў, медыцынскіх сясцёр і абслугоўваючага персанала. Напрыклад, Колас пазначае: "1. Валентина Александровна, короче: Ваала. 2. Зинаида Прохоровна, - "- Зипроха.... 10. Галина Петровна, -"- Гапета...17. Сергей Иосифович, -"- Сеисфич" і г.д.

У цэнтры гэтага стэнда — адзін з апошніх фотаздымкаў Якуба Коласа, ён зроблены ў 1956 годзе малодшым сынам паэта Міхасём Канстанцінавічам Міцкевічам.

Няшмат дарчых надпісаў Якуба Коласа да сваіх калегаў па пяры ёсць у Коласаўскім музеі. Гэта і зразумела. Міхась Лынькоў, Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка... Сёння яны — класічныя постаці ў беларускай літаратуры. Пісьменніцкія архівы складаюць аснову фондаў літаратурных музеяў, а значная частка матэрыялаў захоўваецца ў сем'ях. Таму і кнігі і фотаздымкі з дарчымі надпісамі Якуба Коласа калегам-сябрам знаходзяцца ў розных месцах.

На выставе можна пабачыць арыгінальныя фотаздымкі ваенных гадоў Міхася Лынькова і Пятра Глебкі, якія складалі "карцінную" галерэю Коласа ў Ташкенце. З ліста Я. Коласа да М. Лынькова ад 01.12.1942 г.: "Падыму вочы на сцяну і бачу — сябе, цябе і вусатага Глебку. А над усёю "славной стаей" красуецца засушаны васілёк, што прыслаў ты мне ў пісьме з роднага беларускага поля..." (Зб. тв. у 14-ці тт., Мн: Мастацкая літаратура, 1977, т. 13, с. 335).

Тут жа жартаўлівы верш-прысвячэнне:

***"Маім радактарам —***
***Максіму і Пятру***
***(Лужаніну і Глебку)***
***Дарагія Максім і Пятро!***
***Я вам уступаю, я здаўся:***
***Выразайце адно мне "ядро".***
***Каб Главліт не чапляўся.***

**Якуб КОЛАС.**
**27.X.1951 г."**

Па-сапраўднаму каштоўнымі для нашага музея сталі кнігі, падпісаныя Я. Коласам Максіму Лужаніну, які ў пасляваенныя гады дапамагаў народнаму паэту: "Дарагому Максіму Лужаніну, другу, сакратару і памочніку на памяць. Якуб Колас. 9.VIII.1952г." (на кн.: Я. Колас Збор твораў, т.1, Мн: Дзяржвыд. БССР, 1952); "Дарагому майму памочніку, добраму паэту, міламу чалавеку, другу, шырока асвечанаму, на памяць. Якуб Колас. 20.VI.1951 г." (на кн.: Я. Колас. Стихотворения. Рассказы в стихах. Хата рыбака. М: 1951, т.1).

Прадстаўлены таксама прысвячэнні і дарчыя надпісы К. Крапіве, П. Броўку.

Сябраваў Якуб Колас і з рускім паэтам і перакладчыкам Сяргеем Гарадзецкім.

Сяргей Мітрафанавіч Гарадзецкі быў шырокавядомым паэтам. Ён быў адным з заснавальнікаў акмеізму — мадэрнісцкай плыні ў рускай паэзіі на пачатку стагоддзя, куды ўваходзілі такія славутыя паэты як Гумілёў, Ахматава, Мандэльштам. С. М. Гарадзецкі — перакладчык паэтычных твораў Я. Коласа на рускую мову, першы перакладчык "Новай зямлі". Як сведчанне шчырых сяброўскіх і творчых адносін засталася багацейшая перапіска двух паэтаў. Гарадзецкі пісаў Коласу: "Я так светло мечтал о нашей встрече в эти дни! Что-то договорить хотелось о философских корнях и взлётах твоей насквозь земной, родниковой, пьющей силу из чистейших криниц народной души поэзии." (з ліста ад 5 лістапада 1955 г.).

Шмат кніг і фотаздымкаў з цікавейшымі дарчымі надпісамі захоўваецца ў Коласавым Доме.

"Дорогому Сергею Митрофановичу от Якуба Коласа. 26.V1933"; "Дорогому другу, первому переводчику белорусской поэзии, милому Сергею Митрофановичу Городецкому. Минск. 11.II.36 г."; "Моему дорогому другу, моему первому и одному из лучших переводчиков на русский язык моей поэзии, милому Сергею Городецкому на добрую память от рядового белоруса Якуба Коласа на память и ещё раз на память и на дальнейшую дружбу. Якуб Колас. 25.II.1947. Москва".

На выставе экспануюцца кніжныя матэрыялы з незвычайнымі надпісамі. Якуб Колас абураецца, разважае, жартуе.

На запрашальным білеце на дзіцячыя спартыўныя спаборніцтвы, якія праходзілі ў Мінску ў 1956 годзе: "Міністэрства Асветы Беларускай ССР магло бы прыслаць мне, народнаму паэту рэспублікі, аддаўшаму справе беларускай мовы і культуры ўсё жыццё, **запрашэнне на беларускай мове**. Якуб Колас." (падкрэслена паэтам. — **аўт. заўвага.**).

На кнізе Вальтэра Скота "Роб Рой": "**Диана Вернон** (Мой самый любимый литературный образ женщины). 24.11.1953 г. Якуб Колас".

На адрыўным календары 1953 года:
"Дарагі мой каляндар!
Няхай наступны будзе ў дар.
31.XII.1953г.
Якуб Колас."

Праца над пошукам і вывучэннем дарчых надпісаў Якуба Коласа працягваецца.

**Антаніна ГАРОН, галоўны захавальнік фондаў музея Якуба Коласа, Вера МІЦКЕВІЧ, унучка Якуба Коласа**

# Міхаіл ПТАШУК

Беларускі кінематограф панёс незаменную страту. 26 красавіка 2002 г. на шасцідзесятым годзе жыцця трагічна загінуў адзін з вядучых кінарэжысёраў нашай краіны, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міхаіл Мікалаевіч Пташук.

Міхаіл Мікалаевіч нарадзіўся 28 студзеня 1943 года ў вёсцы Федзюкі Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Прафесійную адукацыю атрымаў у Маскоўскім тэатральным вучылішчы імя Б. Шчукіна і на Вышэйшых рэжысёрскіх курсах Дзяржкіно СССР, з 1974 года яго дзейнасць была звязана з кінастудыяй "Беларусьфільм".

Значнае месца ў творчасці Міхаіла Пташука займала тэма Вялікай Айчыннай вайны. Геаічнай барацьбе беларускага народа з фашысцкімі захопнікамі прысвечаны такія яго кінастужкі і тэлевізійныя фільмы, як "Час выбраў нас", "Вазьму твой боль", "Знак бяды". Праблемы фарміравання і выяўлення чалавечага характару ў складаных жыццёвых абставінах знайшлі адлюстраванне ў фільмах "Наш бранепоезд", "Кааператыў "Палітбюро", або Будзе доўгім развітанне" і іншых работах кінарэжысёра.

Міхаіл Мікалаевіч шмат зрабіў для ўмацавання і развіцця творчых сувязяў паміж беларускімі і расійскімі кінематаграфістамі. Яскравым прыкладам гэтага плённага супрацоўніцтва стала стварэнне фільма "У жніўні 44-га...".

Сваім багатым вопытам ён шчодра дзяліўся з вучнямі, браў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы маладых рэжысёраў у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Творы Міхаіла Пташука карыстаюцца вялікай папулярнасцю і прызнаннем гледачоў. Яго фільмы неаднаразова адзначаліся ўзнагародамі міжнародных кінафестываляў у Беларусі, Іспаніі, Расіі, Чэхіі, Швецыі, Югаславіі і іншых краінах.

Міхаіл Мікалаевіч Пташук вырваны з жыцця ў росквіце творчых сіл, поўны няздзейсненых задум і планаў. Светлая памяць аб гэтым вялікім майстры беларускага кіно назаўжды захаваецца ў нашых сэрцах.

**А. Р. ЛУКАШЭНКА, Г. В. НАВІЦКІ, У. Р. ЛАТЫПАЎ, С. Н. КНЯЗЕЎ, У. Н. ДРАЖЫН, Л. П. ГУЛЯКА, М. В. ПАДГАЙНЫ, М. Я. ПАЎЛАЎ, І. А. КАРЭНДА, У. В. ГАСЦЮХІН, І. М. ДАБРАЛЮБАЎ, В. А. НІКІФАРАЎ, В. Д. РУБІНЧЫК, В. П. РЫБАРАЎ, С, І. СУХАВЕЙ, Ю. М. ЦВЯТКОЎ, У. У. ЦЭСЛЮК, В. В. ШЭНЬКО, Р. І. ЯНКОЎСКІ, А. В. ЯФРЭМАЎ.**

# Лілія ДАВІДОВІЧ

Тэатральнае мастацтва Беларусі, грамадскасць рэспублікі панеслі цяжкую страту. 25 красавіка 2002 г. на 66-м годзе жыцця перастала біцца сэрца актрысы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, народнай артысткі Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Ліліі Міхайлаўны Давідовіч.

Л. М. Давідовіч нарадзілася 25 снежня 1936 г. у г. Гродна. У 1960 г., пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, была залічана ў трупу тэатра ім Янкі Купалы, з якім назаўсёды звязала свой творчы і жыццёвы лёс. Ёй пашчасціла працаваць побач са славутымі майстрамі гэтай сцэны, арганічна ўвабраць лепшыя мастацкія традыцыі купалаўцаў і з годнасцю іх увасобіць у сваёй творчасці.

Вялікі талент, працавітасць, пераемнасць вопыту старэйшых артыстычных пакаленняў — усё гэта стала галоўнымі састаўляючымі яскравага, безупыннага творчага развіцця артыстычнай асобы Ліліі Давідовіч. Яна ўмела пранікала ў псіхалогію беларускай дзяўчыны, старой грузінкі, характары герань з п'ес рускай класічнай драматургіі, была дасціпнай удзельніцай спектакляў трагедыйнага і камедыйнага жанраў.

Гледачы 60-х гадоў захапляліся яе шчырай і непакорлівай Ганнай Чарнушкай у "Людзях на балоце" паводле І. Мележа. За выкананне ролі ў тэлевізійнай версіі гэтага твора актрыса была ўзнагароджана Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь.

Вобразы, створаныя актрысай у беларускім рэпертуары, вылучаліся глыбокай жыццёвай праўдай, нацыянальным каларытам: Соня, Галя, Рая ("Лявоніха на арбіце", "Трыбунал", "Пагарэльцы" А. Макаёнка), Наталля Фадзееўна ("І змоўклі птушкі" І. Шамякіна), Тамара ("Начное дзяжурства" А. Дзялендзіка), Ганна ("Плач перапёлкі" І. Чыгрынава) і інш.

Маштабнасць мыслення, акрэсленасць псіхалагічных характарыстык, філасофская абагульненасць уласцівыя вобразам, створаным Л. М. Давідовіч у класічным рэпертуары: Насця ("На дне" М. Горкага) Дзіяна ("Канец — справе вянец" У. Шэкспіра), Аманда ("Блакітная Ружа" Т. Уільямса), Эліда ("Жанчына з мора" Г. Ібсена). Сярод апошніх работ, якімі здзіўляла і ўражвала аматараў тэатра Лілія Міхайлаўна Давідовіч, сталі ролі каралевы Боны Сфорцы ў спектаклі "Чорная панна Нясвіжа" А. Дударава, Агаты ("Паўлінка" Я. Купалы), Дар'і ("Ажанніца — не журыцца" бр. Далецкіх, М. Чарота), Зуйчыхі ("Страсці па Аўдзею" У. Бутрамеева), Сямёнавай ("Піраміда Хеопса" Ю. Ломаўцава), Уршулі ("Ідылія" В. Дуніна-Марцінкевіча), Філіпы Дэймс ("Умовы дыктуе жанчына" Э. Эліса, Р. Рыза). На творчым рахунку Л. М. Давідовіч — каля сямідзесяці роляў у тэатры, тэлепастаноўках ("Крах", "Ткачы", "Федра"), у стужках кінастудыі "Беларусьфільм" ("Іван Макаравіч", "Руіны страляюць...", "Людзі на балоце", "Подых навальніцы", "Чужая бацькаўшчына").



Л. М. Давідовіч на працягу апошніх гадоў узначальвала журы многіх тэатральных фестываляў, займалася педагагічнай і грамадскай дзейнасцю. З'яўлялася членам Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.

Ад нас пайшоў чалавек шчырага сэрца, добрай душы і вялікага таленту. Памяць аб Ліліі Міхайлаўне Давідовіч назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**У. Н. ДРАЖЫН, С. Н. КНЯЗЕЎ, І. А. КАРЭНДА, Л. П. ГУЛЯКА, Я. У. РЫБАКОЎ, М. Я. ПАЎЛАЎ, Г. А. АРЛОВА, Г. С. АЎСЯННІКАЎ, В. Д. АНІСЕНКА, А. Ф. АНДРОСІК, В. М. БАРКОЎСКІ, В. С. БЕЛАХВОСЦІК, З. І. БРАВАРСКАЯ, І. І. ВАШКЕВІЧ, Г. М. ГАРБУК, Б. Ф. ГЕРЛАВАН, Г. Б. ДАВЫДЗЬКА, А. А. ДУДАРАЎ, М. Г. ЗАХАРЭВІЧ, А. І. КЛІМАВА, Б. І. ЛУЦЭНКА, А. Л. МІЛАВАНАЎ, А. К. ПАМАЗАН, В.М. РАЕЎСКІ, Р.Б. СМОЛЬСКІ, Г.С. ТАЛКАЧОВА, В.П. ТАРАСАЎ, Ф.І. ШМАКАЎ, А.В. ЯФРЭМАЎ, Р.І. ЯНКОЎСКІ.**

# Слава яго знойдзе

Такое можа быць толькі ў нас, беларусаў!

Жыў і тварыў побач з намі таленавіты чалавек — піяніст, кампазітар, педагог, паэт і мастак. Жыў цягам доўгіх дзесяцігоддзяў — нарадзіўся, паводле адных звестак, у 1884 годзе, паводле другіх — у 1893-ім, памёр — у год першага палёту чалавека ў космас, на 43-ім годзе існавання бадай што цацачнай, аднак усё ж Беларускай ССР. Тым не менш, адышоў у лепшы свет нікім нязнаны і непрызнаны ні тут, у нас, на Беларусі, служэнню якой ахвяраваўся яшчэ ў юнацтве, ні ў Польшчы, дзе ў выніку абставін, трагічных выкрунтасаў гістарычных падзей вымушаны быў правесці другую палову свайго нялёгкага, складанага жыцця.

Гаворка ідзе пра Яна Тарасевіча. Гэтае імя наўрад ці што гаворыць лімаўскаму чытачу. І нядзіўна: яшчэ зусім нядаўна яно не было вядома нават спецыялістам-музыказнаўцам. Адкрыў яго, вярнуў з небыцця, напісаў і выдаў грунтоўную і надзвычай цікавую кнігу пра ягоны жыццёвы і творчы шлях наш вядомы оперны спявак, даследчык гісторыі музычнага мастацтва Беларусі Віктар Скорабагатаў, даўшы ёй горка-тужлівую назву: "Абышоўся без славы..."

Адразу ж скажам: гэта незвычайная кніга! Аповед пра лёс і творчасць таленавітага піяніста і педагога (гэта найпершыя іпастасі шматграннага творцы) чытаецца як дэтэктыў, на адным дыханні, у адзін, як кажуць, прысест. Бо ўжо сам лёс Яна Тарасевіча — гэта бясконцы ланцуг нечаканых, часта трагічных падзей, здарэнняў, паваротаў і акалічнасцяў. Вось толькі паасобныя з іх.

Шчаслівае маленства ў сям'і харобрага афіцэра-падпалкоўніка Аляксея Андрэевіча Тарасевіча, шляхціца Мінскай губерні, удзельніка руска-турэцкай вайны 1877—78 гг., кавалера шматлікіх ордэнаў і медалёў і шляхцянкі Гродзенскай губерні Марыі Восіпаўны са старажытнага і слыннага роду Кушаляў, які згадваецца Г. Сянкевічам у рамане "Агнём і мячом". Ранняя смерць ад раку маці ў 1900 годзе і тым жа годам у цягніку па дарозе ў Пскоў — бацькі. Апякунства над трыма сіротамі цёткі Леакадзіі Улазоўскай і яе мужа Нічыпара Улазоўскага, калежскага радцы з Сакольшчыны на Беласточчыне, уладальніка тамтэйшага маёнтка Шындзель. Вучоба Яна, паводле старой шляхецкай традыцыі, у Полацкім кадэцкім корпусе, дзе панаваў "мастацкі дух" — выкладаўся курс ігры на струнных інструментах, існаваў прыстойны аркестр з сарака выканаўцаў, выходзіў рукапісны часопіс "Полочанин", і дзе кадэт Тарасевіч, які яшчэ з маленства цудоўна граў на піяніна, не спыняе заняткаў музыкай, і ў выніку — рэдкі выпадак! — ідзе не на службу, а паступае на фартэпіянны факультэт Пецярбургскай кансерваторыі. Абуджэнне нацыянальнай свядомасці, асабліва пасля таго, як у 1912 годзе малады піяніст і педагог зноў паступае ў кансерваторыю — гэтым разам на кампазітарскае аддзяленне, у клас прафесара Язэпа Віталя, які добра ведаў беларускую культуру і спрыяў юнаку-беларусу, пра што сам Тарасевіч пісаў так: "У астатнія два года перад вайной, паддаўшыся ўплыву праф. І. Віталя, я ўглыбіўся ў нашу нацыянальную музыку. У гэтым кірунку працую і да сягоньня". Вайсковая служба і фронт, раненне і шпіталь, праца ў Чырвоным Крыжы, у Камітэце дапамогі ахвярам вайны, якім кіравала дачка Мікалая II вялікая княжна Таццяна Мікалаеўна. Знаходжанне ў Зімовым палацы ў якасці прыдворнага піяніста і знаёмства з другою дачкою цара — Марыяй, прыхільніцай яго таленту. Вяртанне ў маёнтак Шындзель, гаспадаром якога Ян стаў па спадчыне — пасля смерці цёткі, дзядзькі і брата Сцяпана, няпростыя стасункі з тутэйшымі сялянамі. Запрашэнне ад В. Іваноўскага з Менска ў 1920 годзе на пасаду дэкана музычнага факультэта будучага Беларускага нацыянальнага універсітэта, які так і не быў адчынены (не БДУ імя У. І. Леніна). Дзяржаўная мяжа пасля Рыжскай дамовы 1921 года. Праца ў Саколцы (да вайны) і ў Беластоку (пасля вайны, ужо ва ўмовах ПНР) педагогам-піяністам і кампазітарская праца — "творчасць для шафы", бо: "Я — беларус, але грамадзянін Польшчы". І вынік: Я. Тарасевіч не быў улучаны ў культурнае жыццё БССР, а ў Польшчы меў усяго толькі рэгіянальную вядомасць як музыкант і педагог. А між тым...

А між тым, у дадатку да кнігі змешчаны ноты шматлікіх і розных фартэпіянных канцэртаў, санатаў, фантазіяў, сюітаў, эцюдаў, мазурак, прэлюдый, накцюрнаў, вальсаў, вакальных твораў, у тым ліку на словы Якуба Коласа і Францішка Багушэвіча, — а гэта ж толькі тое, што ацалела, зберагалося ў ягоных удзячных вучняў.

"Абышоўся без славы..." На жаль, сапраўды гэтак. Пры жыцці слава абышла Яна Тарасевіча. Аднак жа няма сумневу, што яна яго знойдзе. Ужо знаходзіць. Яго творы вяртаюцца з нябыту і ўжо гучаць у канцэртах хоць бы "Беларускай Капэлы", створанай тым жа В. Скорабагатавым, побач з творамі іншых нашых кампазітараў, якія воляю лёсу былі адлучаны ад Бацькаўшчыны.

Аб тым, што слава знойдзе Я. Тарасевіча, сведчыць і гэтая кніга пра ягоныя жыццё і творчасць, выдадзеная летась нашым ужо досыць вядомым і аўтарытэтным у краіне і за яе межамі выдавецтвам "Тэхналогія" (рэдактар — Алена Трусава, мастацкае афармленне Віталя Катовіча). Кнігі "Тэхналогіі" вылучаюцца сярод сённяшняй кніжнай прадукцыі не толькі сур'ёзнасцю тэматыкі і важкасцю зместу, але й высокай культурай выдання. Не стала выключэннем і кніга В. Скорабагатава пра Я. Тарасевіча: яна вабіць і цешыць вока, яе прыемна ўзяць у рукі, бездакорны густ адчуваецца літаральна ва ўсім — ад фармату і паперы да шрыфтоў, шмуц-тытула і вокладкі.

Шкадаванне хіба адно, сумнатрадыцыйнае: наклад гэтай надзвычай прыгожай і доўгачаканай (ужо адно з пашаны да памяці забытага творцы) кніжкі — усяго 250 паасобнікаў.

**М. МІХАЙЛАВА**




## Свята звону

25—26 мая 2002 г. у старажытным Полацку адбудзецца III Міжнародны фестываль звонавага мастацтва "Свята звону". У ім прымуць удзел званары з Беларусі, Расіі, Украіны і Латвіі. Мэта фестывалю — адраджэнне звонавага мастацтва ў нашай краіне. Кожны, хто зацікавіцца святам, можа наведаць у гэтыя дні Полацк.





*Наступны нумар штотыднёвіка "ЛіМ" выйдзе 31 мая 2002 г.*

# На хвалях Беларускага радыё

Нямала цікавых праграм прагучала ў маі на хвалях першага Нацыянальнага канала і канала "Культура". Гасцямі эфіру былі пісьменнікі Сяргей Панізнік, Мікола Мятліцкі, Алесь Пісьмянкоў, Віктар Шніп, Генадзь Пашкоў, Кастусь Цвірка, Уладзімір Мехаў, Уладзімір Мархель, Уладзімір Юрэвіч і іншыя.

Перадача "Сучасная літаратура: ад задумы да твора" была прысвечана паездцы творцаў да воінаў-пагранічнікаў. Сваімі ўражаннямі дзяліліся Алесь Савіцкі, Уладзімір Карызна, Яўген Каршукоў, Міхась Пазнякоў, Браніслаў Спрынчан.

"Дзеяслоў" — так называецца новая праграма на канале "Культура", аўтарам якой выступіла Людміла Рублеўская.

Насычаным на літаратурныя праграмы будзе і наступны тыдзень. Адкрыецца ён праграмай Ганны Кашубы **"Музейныя тайны" ў панядзелак, у 22-10.** Праграма "Музейныя тайны" прысвечана Міжнароднаму Дню музеяў. Герой праграмы — дырэктар аб'яднання літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь, прэзідэнт Беларускага Камітэта міжнароднага савета музеяў Леанід Хадкевіч і галоўны рэдактар выдавецтва "Чатыры чвэрці" Ліліяна Фёдараўна Анцух.

У які ж час у аўторак пісьменнік Уладзімір Дзюба запросіць на перадачу **"Пародненыя музеі"**, дзе прагучаць пераклады Анатоля Шаўні апавяданняў італьянскіх пісьменнікаў на беларускую мову.

**У сераду "Белы аркуш"** са Святланай Шалімай запрашае на сустрэчу з маладымі творцамі.

**23 мая — чарговая перадача да 120-годдзя Я. Купалы і Я. Коласа**, якую вядуць Навум Гальпяровіч і Галіна Шаблінская.

**У пятніцу** аматары прыгожага пісьменства змогуць паслухаць перадачу **"Сучасная літаратура: ад задумы да твора"** з удзелам пісьменніка Уладзіміра Ліпскага.

**"Літаратурны праспект" у нядзелю, 26 мая, у 15.30** пазнаёміць з падзеямі літаратуры, кніжнымі навінкамі, а ў рубрыцы "Літклуб. Сустрэчы для вас" слухачоў чакае знаёмства з новай кнігай паэта Навума Гальпяровіча "Святло ў акне".

На канале "Культура" **ў панядзелак ў 11 гадзін** радыёпастаноўка па аповесці У. Караткевіча **"Чазенія"**, **у аўторак у 14-10 — "Гаспода"** Галінай Шаблінскай, у **15.45 "Святліца"** (пра навінкі рускай літаратуры), у **16-00 — "Паэтычны радыётэатр"**.

**У сераду, 22 мая, у 17-30** — інсцэніраваныя старонкі аповесці Р. Брэдбэры **"Віно з дзьмухаўцоў"**.

**У чацвер, у 17.00 — перадача, прысвечаная паэту У. Карызну.**

Канал "Культура" паўтарае таксама ўсе літаратурныя перадачы, якія гучаць на першым канале.

**Н. К.**





ЗАСНАВАЛЬНІК

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

**У 1982 годзе ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Галоўны рэдактар**

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**, **Святлана БЕРАСЦЕНЬ**, **Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар*, **Уладзімір МАРУК** — *намеснік галоўнага рэдактара*, **Яўген РАГІН**, **Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**, **Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**

**АДДЗЕЛЫ:**

**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-7985**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**фота-карэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**
**Тэл./факс — 284-7965**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2226

Нумар падпісаны ў друк 16.05.2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1124

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12